Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№9(4604) 4 сакавіка 2011 г.

## Са святам, дарагія жанчыны!

8 Сакавіка — гэта не толькі жаночае свята, гэта свята ўсенароднае. Бо ў кожнага з нас ёсць каго павіншаваць, каго ўшанаваць у гэты дзень. А я як старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі ў першую чаргу, безумоўна, прыгадваю нашых цудоўных пісьменніц-жанчын, якія плённа працуюць у розных літаратурных жанрах, ствараюць натхнёныя вершы, сур'ёзную філасофскую і віртуозную лёгкую прозу, яркую драматургію і выразную індывідуальную крытыку. Мы любім вас усіх: публіцыстаў і перакладчыкаў, тых, хто абраў сваім жанрам дэтэктыў ці то фантастыку, дзіцячых пісьменніц і пісьменніц-гумарыстаў. І мы ўдзячны вам за тое, што вы сваёй наяўнасцю ўпрыгожваеце наш Саюз. Пэўна, дваццаць працэнтаў ад агульнай колькасці членаў нашай пісьменніцкай арганізацыі складаюць жанчыны. Дзве з іх — Людміла Кебіч і Тамара Краснова-Гусачэнка — узначальваюць абласныя аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі. У Прэзідыум і ў Праўленне Саюза ўваходзяць Раіса Баравікова, Таццяна Шамякіна, Людміла Крушынская, Алена Папова, Валянціна Паліканіна, Ніна Чайка. Чытачы ведаюць і любяць творы Алены Брава, Тамары Ляліхавай, Ніны Маеўскай, Алены Масла, Тамары Мазур, Ірыны Масляніцынай, Анастасіі Кузьмічовай, Ганны Міклашэвіч, Алены Крыклівец, Наталлі Камлюк, Наталлі Марчук, Дзіты Карэлінай, Вольгі Коваль, многіх іншых нашых цудоўных калег па пяры. Мы жадаем усім ім новых кніг, новых творчых задум, любові і асабістага шчасця. І яшчэ мы спадзяёмся: нішто не дазволіць ім забыцца, што жанчына ў першую чаргу — творца жыцця, маці і выхавальніца новых пакаленняў. І толькі разуменне і выкананне жанчынай гэтай вялікай місіі ратуе пакуль ад знікнення наш народ.

**Мікалай ЧАРГІНЕЦ,**
**старшыня грамадскага аб'яднання "Саюз пісьменнікаў Беларусі"**

# Звычайнае чарадзейства жывапісу



**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**фота Кастуся Дробава**

***Трыццаць пяць уласных карцін прывезла ў Мінск маладая ўкраінская мастачка Наталія Палішчук. Яе персанальная выстаўка "Я адчуваю цябе" адкрылася ў галерэі "Панарама" на 22-м, самым высокім паверсе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Арганізатарамі выстаўкі выступілі Пасольства Украіны ў Беларусі, Львоўскае аддзяленне Нацыянальнага саюза мастакоў Украіны, членам якога з'яўляецца мастачка, і Міжнародная Кірыла-Мяфодзіеўская акадэмія славянскай асветы.***
***Выстаўкай адкрыўся Год культуры Украіны ў Беларусі.***

Калі б добрыя феі з дзіцячых казак раптам вырашылі заняцца жывапісам, пэўна яны стваралі б менавіта такія карціны — яркія, сакавітыя, добрыя, таямніча-чароўныя. Кожная работа — маленькі мастацкі цуд. Вось з шырокіх мазкоў, якія нібыта выпадкова патрапілі на палатно, нараджаецца нацюрморт — пяшчотныя палявыя кветкі. Вось каляровыя святочныя шарыкі проста на вачах ператвараюцца ў вясёлыя дзіцячыя тварыкі калядоўшчыкаў. Вось вільготны дажджавы вэлюм расхінаецца, робячы бачнай вабную жаночую постаць. Яна танцуе? Дэманструе каханаму мужчыну празрысты вечаровы строй? Займаецца чарадзействам? Можа, ператвараецца ў кветку — нездарма ж карціна названа "Найлепшая з кветак"? А які цуд — трыпціхі мастачкі! Іх ствараюць не тры карціны, злучаныя адзінствам сюжэта і форм. Гэта — суцэльная выява, падзеленая на тры фрагменты прыкладна гэтак жа, як падзяляе аконная рама відовішча за вакном. Нібыта Аліса, што выпадкова атрымала магчымасць зазірнуць праз чароўнае акенца ў Краіну Цудаў, разглядаем мы яркія, такія нетутэйшыя і адначасова такія зямныя кветкі пад дажджом ці ганарлівага паўліна, які цягне праз двор даўгі, складзены трубачкай хвост.



Атмасфера, якую ствараюць работы Наталіі Палішчук, нібыта сатканая з радасных дзіцячых сноў ці то з юнацкіх светлых мар. І, падпадаючы пад магію такога жывапісу, ты міжволі вяртаешся ў свае самыя шчаслівыя гады, чэрпаючы адтуль энергію і сілы. Дарэчы, і сама мастачка ўпэўнена: карціны яе здольныя вяртаць моманты шчасця і радасці тым, хто ўпусціў іх у хуткаплыннасці часу. "Жыццё такое разнастайнае, трэба толькі адчуць яго. Спыніцца, падумаць, злавіць імгненне маімі рукамі. І тады, пагружаючыся ў чаканне, можна ўбачыць гэты напоўнены колерам свет маімі вачыма і зразумець мае работы", — выказалася Наталія на прэзентацыі.

Словы гэтыя гучаць як вершы. Мастачка і сапраўды піша вершы, такія ж незвычайныя, як і яе карціны. А яшчэ заклікае гледачоў уважліва слухаць "музыку майго жывапісу". Так, яднанне музыкі, паэзіі і жывапісу. Няўжо эксклюзіўны рэцэпт поспеху? Але музыка і паэзія заўжды прысутнічаюць у жывапісных работах. Толькі ў кожнага мастака яны розныя. Гэта і ёсць звычайнае чарадзейства мастацтва.

Чарадзейства бывае добрае, светлае і такое, якое зманліва-спакуслівa вядзе чалавечую душу ў бездань. Карціны Наталіі Палішчук адкрываюць чалавеку сонца, колеры Боскага свету, радасць асэнсавання незвычайнага побач з сабою. Зыходзячы з гэтага можна сказаць, што шчодрыя ўкраінцы падарылі нам сярод зімы сонца, яркасць фарбаў і радасць. Ці ж гэта не доказ дружбы і прыхільнасці?

Дарэчы, арганізатары выстаўкі на яе адкрыцці адзначылі, што паміж нашымі дзвюма славянскімі краінамі даўно існуюць цёплыя сяброўскія адносіны, якія толькі падмацоўваюць падобныя творчыя сустрэчы. Што ж датычыць мастачкі, дык варта ўзгадаць, што праца Наталіі высока ацэнена на радзіме і за яе межамі. Нягледзячы на малады ўзрост, ужо тройчы ўзнагароджана яна дыпломамі Міністэрства культуры і турызму Украіны за значны асабісты ўнёсак у стварэнне духоўных каштоўнасцей і высокае прафесійнае мастацтва. Наталія Палішчук — удзельніца 12 пленэраў, больш як 70 усеўкраінскіх, міжнародных, персанальных выставак і арт-праектаў. Яе работы знаходзяцца ў многіх дзяржаўных і прыватных калекцыях Украіны, Расіі, Польшчы, Славакіі, Італіі, Аўстрыі, Канады, Беларусі і ЗША. Пры ўсім гэтым надта прыемна ведаць, што за працаю маладая прыгожая жанчына не адсунула на другое месца асабісты лёс. Наадварот, сям'я для яе — найвышэйшы доказ самарэалізацыі. Яна любімая жонка і шчаслівая маці. А творчасць — магчыма, гэта проста промні, якія зыходзяць ад сэрца, напоўненага шчасцем.

Прадстаўляючы карціны Палішчук беларускай публіцы, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Украіны ў Беларусі Раман Бяссмертны пажадаў Наталіі захаваць яе пазітыўнае светаадчуванне і не пераставаць дзяліцца ім з людзьмі. "Каб зразумець творчасць гэтай маладой мастачкі, трэба пераняць яе лёгкасць успрынняцця рэчаіснасці, адпусціць надзённыя праблемы і з галавой пагрузіцца ў свет пачуццяў і эмоцый", — сказаў ён.

***На здымках: Наталія Палішчук; работа мастачкі "Сонечна".***

## Пункціры

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Яўгена Жарыкава з 70-гадовым юбілеем. Прэзідэнт пажадаў артысту доўгага і плённага жыцця ў мастацтве, напоўненага цікавымі праектамі і радаснымі сустрэчамі з прыхільнікамі.

Міністэрства інфармацыі Беларусі ўзнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" першага намесніка дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" — галоўнага рэдактара часопіса "Нёман" Алеся Бадака, а таксама начальніка ўпраўлення ідэалагічнай работы Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта Валерыя Ільянкова.

Міністэрства культуры Беларусі рыхтуе папраўкі ў закон аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Разглядаецца магчымасць стварэння дзяржінспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Прапануецца зрабіць больш жорсткімі патрабаванні да тых, хто праводзіць рэстаўрацыйныя работы.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні ў сувязі са смерцю заслужанага дзеяча мастацтваў Расійскай Федэрацыі Валерыя Рубінчыка. "Жыццё нашага земляка Валерыя Рубінчыка было цалкам прысвечана служэнню мастацтву. Мастацкая спадчына майстра — гэта цудоўныя кінафільмы, якія вызначаюцца сваёй разнапланавасцю, захапляльнай сюжэтнай лініяй, яркасцю вобразаў і глыбінёй пачуццяў. Яны займаюць дастойнае месца ў сучасным кінематографе".

Веткаўскаму музею народнай творчасці нададзена імя Фёдара Шклярава. Адпаведнае рашэнне прынята Гомельскім аблвыканкамам. Шкляраў быў першым дырэктарам музея, заснаванага ў 1978 годзе. Яго асабістыя зборы стараверскіх ікон, кніг і іншых старажытнасцей (каля 400 экзэмпляраў) сталі асновай стварэння музейных фондаў.

Па заказе Брэсцкага аблвыканкама выдадзена кніга журналіста, краязнаўцы Аляксандра Суворава "На линии огня". Кніга ў жанры гістарычнай публіцыстыкі расказвае пра ўраджэнцаў Брэсцкай вобласці, для якіх выкананне воінскага абавязку было звязана з ваеннымі падзеямі ў Афганістане.

У інфармацыйна-выставачным цэнтры Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа НАН Беларусі прайшло святочнае мерапрыемства, прысвечанае Міжнароднаму жаночаму дню 8 Сакавіка. На мерапрыемстве адбылася прэзентацыя відэафільма "Навукі жаночы твар" пра беларускіх навукоўцаў-жанчын і адпаведнай кніжнай выстаўкі.

29 сакавіка ў сталічным Палацы спорту дадуць канцэрт Эмір Кустурыца і No Smoking Orchestra, які небеспадстаўна называюць адной з самых незвычайных з'яў сучаснай еўрапейскай музыкі. Творчасць гурта — своеасаблівае змяшэнне турэцкіх маршаў, цыганскіх матываў, паўднёваамерыканскага саўнда, рытмаў кантры, заходніх рэмінісцэнцый, акардэонаў і нацыянальных гітар.

Беларусы Малдовы ствараюць пры сваёй абшчыне хор і дзіцячы фальклорны ансамбль. Яны будуць выступаць на ўрачыстых сходах абшчыны, прыўрочаных да такіх падзей, як Дзень Незалежнасці Беларусі, Дзень беларускага пісьменства. А таксама на фестывалях і конкурсах, якія ладзяць Бюро міжэтнічных зносін і этнакультурныя арганізацыі Малдовы.

**Падрыхтавала Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

## Культурная сталіца

# Цэнтр прыцягнення — горад над Сожам

**У Гомелі прайшлі мерапрыемствы з нагоды надання гораду статуса "Культурная сталіца Беларусі" і "Культурная сталіца СНД". Ва ўрачыстасцях узялі ўдзел прадстаўнікі беларускага ўрада, кіраўнікі Савета па гуманітарным супрацоўніцтве дзяржаў-удзельніц СНД, Міждзяржаўнага фонда па гуманітарным супрацоўніцтве, члены Савета пастаянных прадстаўнікоў краін-удзельніц Садружнасці пры статутных і іншых органах Садружнасці, прадстаўнікі міністэрстваў, абласнога і гарадскога выканкамаў, дзеячы культуры і мастацтва.**

**Ірына ТУЛУПАВА, фота Юрыя Іванова**

Такі статус для беларускіх гарадоў — з'ява адносна новая. Горад над Сожам апярэдзіў толькі Полацк — "бацька гарадоў беларускіх", радзіма многіх нашых першаасветнікаў. Сёлета Гомель годна прымае эстафету, узбагачае яе і пашырае межы да абсягаў Садружнасці.

Міністр культуры Павел Латушка падкрэсліў значнасць такой ініцыятывы, якая мае некалькі мэт. Найперш — паказаць, што грамадзянін нашай краіны, незалежна ад таго, пражывае ён у сталіцы альбо ў рэгіянальным цэнтры, мае права атрымліваць культурны прадукт на тым жа ўзроўні, што і жыхары сталіцы. Другая мэта — актывізаваць інтэлектуальнае жыццё ў горадзе, каб самі жыхары станавіліся ўдзельнікамі працэсу ў якасці яго непасрэдных дзеючых асоб, гледачоў альбо арганізатараў і тым самым ўзбагачалі ўласны культурны ўзровень і выкарыстоўвалі веды ў выхаванні маладога пакалення. Трэцяя мэта — пазіцыяніраванне Гомеля, прыцягненне ўвагі да паўднёвага рэгіёна. Пазіцыяніраванне на міжнародным узроўні дазволіць пашырыць міжкультурны дыялог, а значыць, устанавіць добрыя адносіны з суседзямі. Яшчэ адзін важны кірунак — развіццё сацыяльнай структуры горада. Такім чынам удасца звярнуць большую ўвагу на стан помнікаў гісторыі і культуры, адрэстаўраваць і адрамантаваць шэраг устаноў культуры, павысіць узровень іх матэрыяльнай базы.

Чаму менавіта Гомель?

У горадзе на сённяшні дзень знаходзяцца 94 аб'екты гісторыка-культурнай спадчыны: ходзячы па яго вуліцах, заўважаеш дамы і збудаванні з шыльдачкамі "ахоўваецца дзяржавай", прычым, шмат якія датаваныя 1950-мі, пасляваеннымі гадамі. Тут 47 устаноў культуры, 3 прафесійныя тэатры, дзяржаўны цырк (які цягам года дае каля 280 прадстаўленняў). У Гомелі дзейнічае карцінная галерэя імя Г. Вашчанкі, атмасферу музычнага жыцця стварае Гомельская абласная філармонія: пералік можна доўжыць бясконца. Летась тут праведзена каля 1,5 тысячы розных мерапрыемстваў. Сёлета да іх далучацца акцыі, звязаныя з новым званнем культурнай сталіцы, гэта яшчэ 160 мерапрыемстваў, якія будуць праводзіцца пры фінансавай падтрымцы Гомельскіх гарадскога і абласнога выканаўчых камітэтаў, рэспубліканскага бюджэту. Плануецца таксама прыцягненне пазабюджэтных крыніц, сродкаў спонсараў і мецэнатаў. Цягам гэтага года ў Гомелі пабываюць 25 калектываў, якія маюць нацыянальны статус, сярод іх — акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета, акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, акадэмічны драматычны тэатр імя Максіма Горкага, плануюць выступіць дзяржаўны ансамбль "Песняры", ансамбль "Сябры", дзяржаўны ансамбль народнай музыкі "Свята", ансамбль "Класік-Авангард".

Урачыстыя мерапрыемствы з нагоды надання статуса культурнай сталіцы Беларусі і Садружнасці праходзілі ў Гомельскім абласным грамадска-культурным цэнтры, абласным драматычным тэатры і палацава-паркавым ансамблі Румянцавых і Паскевічаў. Госці мелі магчымасць азнаёміцца з самім палацам, экспазіцыямі яго шасці выставачных залаў, экспазіцыямі ў вежы і гроце, якія засведчылі міжнародны характар стасункаў у сферы культуры: сучасная жывапісу Гомельскіх і беларускіх творцаў; мікрамініяцюры Уладзіміра Анісіна "Зрабіў рускі Ляўша"; новых паступленняў музея ў 2010 годзе. Найвыдатнейшая экспазіцыя да 90-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка "Іван Шамякін. Мае кнігі — мая біяграфія" ўтрымлівала экспанаты літаратурных музеяў і Добрушскага краязнаўчага музея. У гэты ж дзень адкрывалася выстаўка аднаго з найлепшых беларускіх жывапісцаў-пейзажыстаў народнага мастака БССР, РСФСР, ганаровага акадэміка Акадэміі навук БССР, правадзейнага члена Акадэміі мастацтваў СССР В. Бялыніцкага-Бірулі — выстаўлены 37 арыгінальных работ, сярод якіх "Пачатак вясны", "Першы снег", "Ранняя восень", "Беларусь. Ізноў заквітнела вясна".



Усяго месяц падзяляе старты двух культурных сталіц СНД: у сакавіку падобныя мерапрыемствы плануюцца ва Ульянаўску, які разам з беларускім горадам прымае ўпершыню такі статус на абшарах Садружнасці. Кантакты паміж дзвюма першымі сталіцамі пачалі развівацца: калектывы з Ульянаўска будуць гасціць у Гомелі, гомельскія пакажуць сваё майстэрства ў Расіі. Сустаршыня Савета па гуманітарным супрацоўніцтве дзяржаў-удзельніц СНД, міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі падкрэсліў: сёлета кіраўнікі дзяржаў зацвердзілі дэвіз у межах Садружнасці — Года гісторыка-культурных каштоўнасцей. Кантакты ў інфармацыйнай прасторы таксама будуць пашырацца. Летась па лініі гуманітарнага супрацоўніцтва ў нашай краіне праведзена 13 маштабных мерапрыемстваў, прыкладна такая ж колькасць запланавана і на 2011 год. Сярод іх — праекты кшталту медыя-форуму (летась у ім удзельнічала каля 500 журналістаў з розных краін), школы маладога журналіста ды іншыя.

Выканаўчы дырэктар Міждзяржаўнага фонда гуманітарнага супрацоўніцтва Армен Смбацян, паабяцаўшы падтрымку сталіцам, заўважыў: сам факт надання такога статуса сведчыць, што мы ўсё ўзрслі духоўна, нам ёсць што паказаць свету. І трэба заўважыць ды ацаніць тую маральнасць, той узровень культуры, якія ёсць у горадзе; увага Гомелю — вартая таго.

***На здымку: выканаўчы дырэктар Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД Армен Смбацян уручае сертыфікат культурнай сталіцы 2011 года мэру горада Віктару Пілліпцу.***

## Рэха падзеі

# Студэнцкія мары дапамогуць прабіцца

**25 лютага завяршыўся першы ў Беларусі адкрыты конкурс літаратурнай творчасці студэнтаў "БРАМАМАР". У Інстытуце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, які выступіў яго арганізатарам, падчас святочнай вечарыны былі названыя імёны пераможцаў.**

**Вераніка МОЛАКАВА**

Пад слоганам "Мы дапаможам вам прабіцца!" конкурс цягнуўся чатыры месяцы. У ім прынялі ўдзел больш як 160 студэнтаў з 12 сталічных і 5 абласных ВНУ краіны. У фінал выйшлі 29 чалавек, а пераможцамі сталі толькі чацвёра.

Лепшым паэтам быў названы Павел Шаламіцкі, студэнт фізічнага факультэта БДУ. Як лепшага празаіка адзначылі Алеся Мойсакага, студэнта філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Аўтарам лепшага перакладу стала Ірына Пінхасік, студэнтка філалагічнага факультэта БДУ. Сярод маладых драматургаў лепшай аказалася Наталля Рак, студэнтка факультэта міжнародных адносін БДУ.

— Узровень конкурсу дастаткова высокі, — лічыць Уладзімір Капцаў, адзін з арганізатараў "БРАМАМАР", дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ. — Мы арыентаваліся на студэнцкую творчасць і ні ад каго не залежалі, таму да нас прыйшлі. І прынеслі якасную паэзію і прозу, крыху слабейшыя драматычныя творы і пераклады. Да таго ж, у складзе журы былі людзі творчыя і прафесіяналы ў той сферы, якую ацэньвалі: Віка Трэнас, Арцём Кавалеўскі, Людміла Рублеўская, Пятро Васючэнка, Анка Упала, Марыя Казлоўская, Галіна Багданава, Ірына Шаўлякова, Людміла Саянкова.

Для кожнага ўдзельніка "БРАМАМАР" стаў добрай стартавай пляцоўкай для больш сур'ёзнай творчасці. Арганізатары абяцаюць, што здзяйсняць творчыя мары і дапамагаць прабівацца таленавітай моладзі яны будуць і ў наступным годзе.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

### Прынятыя ў СПБ



**Леаніда Іванаўна ПАДВОЙСКАЯ**

***Пісьменнік-фантаст***

Нарадзілася 17 мая 1957 года ў вёсцы Навасёлкі Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці "Правазнаўства". Працуе загадчыкам філіяла № 1 першай Мінскай гарадской дзяржаўнай натарыяльнай канторы. З'яўляецца аўтарам цыкла раманаў "Предтечи Зверя", першы з якіх пабачыў свет у 2010 годзе.



**Валерыя Уладзіміраўна ІЎЛЕВА**

***Публіцыст***

Нарадзілася 22 мая 1966 года ў Гродне. Скончыла Гродзенскі медыцынскі інстытут. Была свабодным слухачом Літаратурнага інстытута імя М. Горкага. Пісала артыкулы і навуковыя працы ў межах службовай дзейнасці, а таксама для перыядычных выданняў. Працуе штатным галоўным рэдактарам выдавецтва "Современная школа". Аўтар кніг па прыкладной і папулярнай псіхалогіі, дзіцячых энцыклапедый. У 2006 г. выйшла кніга "Семейная психология", у 2009-м — "Психология семейных отношений".



**Таццяна Васільеўна КАНАПАЦКАЯ**

***Публіцыст***

Нарадзілася 10 чэрвеня 1958 года ў Лунінцы Брэсцкай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ і Мінскую партыйную школу, працавала ў Кобрынскай раённай газеце "Камуністычная праца". Цяпер працуе загадчыкам палітыка-сацыяльнага аддзела ў райгазеце "Лунінецкія навіны". Шмат друкуецца ("ЛіМ", часопісы "Маладосць", "Нёман", газета "Рэспубліка"). Выдала ў Мінску чатыры кнігі "Лунінецкай памяці" (2006 — 2010). Актыўна распрацоўвае гісторыка-краязнаўчую, гісторыка-асветніцкую тэматыку.

## Літабсягі

Ірына ТУЛУПАВА,
фота БелТА

# На абшарах роднага слова

**Да святкавання Міжнароднага дня роднай мовы ў Цэнтральнай бібліятэцы імя А. І. Герцэна г. Гомеля адбылася сустрэча чытачоў і бібліятэкараў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ з супрацоўнікамі рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва".**

Гомельшчына — сапраўдная літаратурная мекка. Тут стваралі свае творы Іван Шамякін, Іван Мележ, Іван Навуменка. З гэтых краёў Барыс Сачанка. Летась Хойнікі былі абвешчаныя сталіцай свята літаратараў, кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў — Дня беларускага пісьменства. Менавіта гэта зямля стала тым падмуркам, на якім мацавалася дружба паміж літаратарамі не толькі нашай Бацькаўшчыны, а і знаходзіліся шляхі ўваходжання ў сусветную інфармацыйную прастору: свята запомнілася шматлікімі дыялогамі з творцамі з краін блізкага і далёкага замежжа, знанымі пісьменнікамі і пачаткоўцамі.

Адмысловым працягам дыскусіі пра кірункі развіцця айчыннай літаратуры стала і сустрэча ў Гомельскай гарадской бібліятэцы, праца па ўкараненні інавацыйных форм краязнаўчай работы ў якой адзначана на высокім дзяржаўным узроўні: дырэктар Таццяна Уласава ўганаравана спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Беларусі дзеячам культуры і мастацтва 2010 года.

На імпрэзу завіталі сучасныя гомельскія творцы, літаратары, навукоўцы — аўтары, чые імёны добра знаёмыя па публікацыях у штотыднёвіку "ЛіМ", часопісах "Полымя", "Нёман", "Маладосць" ды іншых. Гутарку пра рэдакцыйныя планы і новыя праекты гэтага года распачаў дырэктар РВУ "Літаратура і Мастацтва" Алесь Карлюкевіч. Ён адказаў на шматлікія пытанні аўдыторыі пра аператыўнасць рыхтуемых матэрыялаў, працу аддзелаў крытыкі, прозы і паэзіі, сумесныя будучыя праекты, якія, у прыватнасці, могуць падтрымаць навукоўцы і студэнты Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны, творцы гэтага рэгіёна.



Ураджэнец Гомельшчыны, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі прадставіў землякам сваю новую кнігу "Цяпло буслінага крыла", дзе, паводле аўтара, сканцэнтравана самае дарагое яго сэрцу. На сустрэчы прэзентаваліся навінкі РВУ "Літаратура і Мастацтва": зборнік эсэ, вершаў, прысвячэнняў "Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы", Раісы Баравіковай "Казкі астранаўта: касмічныя падарожжы беларусаў", гомельскага пісьменніка і драматурга Васіля Ткачова "Дом камуны" і іншыя. Кнігі з дарчымі надпісамі аўтараў перададзены ў Музей рэдкага аўтографа, які ствараецца ў бібліятэцы . Між іншым, у бібліятэку цягам апошняга года перыядычна паступаюць новыя выданні рэдакцыйна-выдавецкай установы з аўтарскімі прысвячэннямі.

***На здымку: Мікола Мятліцкі чытае вершы з кнігі "Цяпло буслінага крыла".***

## Артлінія

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

# Прыгожая — і нечаканая

**Вера Пола... У асяроддзі карэннай мінскай інтэлігенцыі яе імя заўжды гучала як легенда. З маленства помняцца расповеды пра шчодры камедыйны талент і дар пераўвасаблення гэтай вялікай актрысы, пра тонкія моўныя характарыстыкі яе персанажаў, пра дзівосную прыгажосць, якою яна вылучалася нават у сузор'і сталічных артыстак. Зямны шлях Веры Мікалаеўны доўжыўся без малога 89 гадоў, з іх 55 неад'емныя ад творчай гісторыі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.**



Імпрэзу да 110-годдзя з дня нараджэння Веры Пола зладкаваў Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Старэйшае пакаленне сённяшніх тэатралаў яшчэ заспела легендарную актрысу на сцэне. Але і гледачы маладыя маглі адчуць жывы подых тэатральнай гісторыі, спрычыніцца да мастацтва Веры Мікалаеўны, бо разгорнутая ў музеі выстаўка ўзнавіла атмасферу яе творчага існавання, а пра вобразы, створаныя ёю на экране (здымалася В. Пола ў кінастужках "Хвоі гамоняць", "Паўлінка", "Несцерка", "Пяюць жаўранкі"), нагадаў невялікі рэтра-паказ. Ліст ад самога У. Крыловіча; здымкі з сямейнага альбома; пацеркі, тонкія пальчаткі, адмысловы парасон... З фотаздымкаў у ролях і з асабістых рэчаў актрысы, з афіш і дакументаў, з тэатральных праграмак і эскізаў сцэнаграфіі мастакоў-купалаўцаў Б. Малкіна ды І. Ушакова складаецца гэтая экспазіцыя, на аснове якой тут будзе створаны пастаянны мемарыяльны куток.

Пачаткам яе творчага шляху было выкананне беларускіх народных песень. У БДТ-1 іграла з 1922 г., атрымаўшы прафесійную падрыхтоўку ў Е. Міровіча. Дыяпазон амплуа ўражвае: кулацкая дачка — і Дуэння, чэхаўская Аркадзіна — і Карміцелька ў доме Капулеці, ганарлівая гераіня з "Пані міністэршы" Б. Нушыча і каларытная самавітая Агата ў Купалавай "Паўлінцы". Яна патрабавальна працавала над малюнкам ролі, над моўнай інтанацыяй, над галасавымі мадуляцыямі, зважала на дэталі касцюма. Сапраўдная Актрыса, яна не баялася выглядаць непрыгожай і смешнай на сцэне, падкрэслівала характарнасць вобраза, напрыклад, "нарошчваючы" з дапамогай гумозы нос ці мяняючы яго форму. Пра Веру Мікалаеўну ўспаміналі калегі-купалаўцы Марыя Захарэвіч, Зінаіда Зубкова, гледачы, унучка артысткі — таксама Вера Пола, — якая дапамагла ствapыць выстаўку.

***На здымку: народная артыстка БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Вера Пола ў ролі Астроўскай ("Зыбучыя пяскі" П. Хайноўскага 1962 год).***

## Повязі

Сяргей ШЫЧКО,
фота Кастуся Дробава

# Яднанне дзвюх прастор

**У Літаратурным музеі Якуба Коласа запачаткавана традыцыя правядзення вечарын "Мы родам з СССР".**

І першая сустрэча насіла назву "Далі казахі мне імя Джамбул". У коласаўскі дом прыйшлі госці не выпадковыя – прадстаўнікі казахстанскай дыяспары ў Мінску, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Анатоль Смірноў, беларускія пісьменнікі, якія маюць дачыненне да розных перыядаў у развіцці беларуска-казахстанскіх літаратурных сувязей, журналісты. Вёў вечарыну лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі. Як паэт і перакладчык ён дастаткова ўважліва да мастацкай спадчыны Казахстана. У прыватнасці, Мікалай Міхайлавіч завяршыў працу над перакладам некалькіх дзясяткаў вершаў Абая на беларускую мову. Частка з іх надрукавана ў часопісе "Полымя". У хуткім часе кніга яшчэ аднаго класіка нацыянальнай літаратуры,пабачыць свет у выдавецтве "Літаратура і Мастацтва".

На вечарыне гучалі вершы Джамбула па-казахску, згадваліся творы Якуба Коласа і Янкі Купалы, прысвечаныя вялікаму народнаму песняру. Вершы гэтыя былі надрукаваны ў газеце "Літаратура і мастацтва" ў 1938 годзе, пасля іх у хуткім часе пераклалі на рускую мову. Своеасаблівай і ўражлівай адметнай сустрэчы сталася выступленне малодшага сына Якуба Коласа — Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча, чытанне ім успамінаў сваёй жонкі — Наталлі Іванаўны, дачкі Янкі Маўра, якая ў Вялікую Айчынную вайну знаходзілася разам з бацькамі ў эвакуацыі ў Алма-Аце. І праз гады Наталля Іванаўна з асаблівай цеплынёй, надзвычайнай павагай згадвае простых казахаў, што дапамагалі выжыць.



На вечарыне згадваліся імёны многіх беларусаў, ураджэнцаў нашай краіны, якія жылі, працавалі ў Казахстане. А гэта Пятро Бітэль, Сымон Хурсік, Алег Ждан, Юрый Фатнеў, Рыгор Барадулін, Алесь Рыбак, Георгій Паплаўскі... Пісьменнік, публіцыст Леанід Левановіч расказаў пра некалькі сваіх паездак на цаліну. І літаральна ўсе ўдзельнікі святочнай сустрэчы, на якую сабралі імёны Джамбула і Якуба Коласа, гаварылі пра тое, што і надалей беларуска-казахстанскія стасункі будуць умацоўвацца і развівацца.

***На здымку: Анатоль Смірноў і Зінаіда Камароўская абменьваюцца памятнымі сувенірамі.***

## З-пад пяра

Ледзь прыгрэла сакавіцкае сонейка, паэты, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, абвясцілі, што жадаюць неадкладна наладзіць свята для жаночай паловы гэтай творчай арганізацыі. Вечар, які праходзіў у вялікай зале Дома літаратара, адкрыў першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў. Далей з лепшымі лірычнымі вершамі да жанчын звярнуліся паэты: Міхась Башлакоў, Юрый Сапажкоў, Мікола Шабовіч, Міхась Пазнякоў. Выступаў ансамбль народнай песні "Вербіца", паказваў свае майстэрства вядомы фальклярыст Міхась Котаў. Але больш за ўсё пісьменніцы ацанілі цудоўныя віншаванні калег-мужчын, у якіх гучала нямала фраз, падобных да афарызмаў: "Няма жанчын — няма вясны", "Няма жанчыны — няма паэта".

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

Да арганізацыі свят у народных традыцыях звярнуліся ў апошні час супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. Не так даўно яны заклікалі нас адзначаць Дзень заказаных па-беларуску, узгадаўшы адпаведныя старадаўнія звычаі, традыцыі, абрады. Цяпер на тэрыторыі ўнікальнага музея пануе шырокая Масленіца. 6 сакавіка запрашаюць на Провады Масленіцы. У праграме свята — рытуальнае "спаленне" багіні зімы і смерці Марэны, народныя гульні, масленічныя пачастункі.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

Супрацоўнікі Беларускага тэатра "Лялька", што знаходзіцца ў Віцебску, рыхтуюць да выдання кнігу казак, напісаных дзецьмі. Кніга была створана ў выніку літаратурнага конкурсу "Казка для Караткевіча", які праводзіўся тэатрам з нагоды 80-годдзя выдатнага пісьменніка і стаўся, дзякуючы паведамленням пра яго ўмовы ў Інтэрнэце, рэспубліканскім. У зборнік увойдуць казкі пераможцаў конкурсу: Лізы Багадзяж (г. Мінск), Машы Ермаковіч (Браслаўскі раён), сясцёр Ані і Машы Прыбыш (г. Брэст), Сашы Шур, Аксаны Сямёнавай (г. Віцебск), Насці Ламонінай (г. Бабруйск), а таксама лепшыя вершы, дасланыя дзецьмі на папярэдні літаратурны конкурс, што праходзіў у гэтым тэатры, — паэтычны.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Фатаграфія — гэта невялічкі кавалачак жыцця, які дакладна раскрывае і паказвае наваколны свет. У Інстытуце журналістыкі БДУ адбылося адкрыццё фотавыставы Сяргея Кахаўца "Жыццё будзе фатаграфіяй!". З разуменнем чалавечай душы, прыроды, людзей мастаку ўдалося праявіць кожную дэталь у сваіх фотаздымках. У гонар Сяргея гаварылі шмат прыемных і шчырых слоў, якія радавалі бацькоў і блізкіх, але, на жаль, ён вельмі рана пакінуў гэты свет — 28 лістапада 2010 года… Дырэктар Інстытута журналістыкі БДУ Сяргей Дубовік адзначыў, што Сяргей заўсёды будзе знаходзіцца з намі. У свае 25 гадоў ён склаўся як добры фотамастак, кожны яго здымак нясе філасофскі роздум. Ён пайшоў з жыцця, дзе быў таленавітым фатографам і добразычлівым чалавекам. Цяпер ягоныя здымкі і памяць пра яго застануцца ў нашых сэрцах.

**Дар'я ШОЦІК**

У Гомельскай гарадской цэнтральнай бібліятэцы імя Герцэна адбылася творчая вечарына і прэзентацыя новага зборніка вершаў Ганны Атрошчанкі "Лавровишня", першай кнігі, якую паэтэса выдала на рускай мове. Цёпла адгукнуліся аб творчасці паэтэсы калегі-літаратары Васіль Ткачоў, Ніна Шклярава, Аляксандр Атрушкевіч, Ева Дударга. Прагучалі рамансы і песні на яе вершы, якія выканалі кампазітары Алена Кастэнка, Валянціна Каралёва і спявак Эдуард Раманькоў. Дзіцячыя творы паэтэсы прадставілі вучні Гомельскай СШ № 16.

**Вера БАРХАТАВА**

Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму захавальніку музея Гарон Антаніне Міхайлаўне з прычыны вялікага гора — смерці МАЦІ.

# З беларускім кіно скончана. Забудзьцеся

Людміла САЯНКОВА

### Спачатку было пытанне…

…Пра тое, ці быць беларускаму кіно. Яно прагучала недзе напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Пытане аднаго крытыка падалося настолькі недарэчным, ненатуральным, што спачатку ўсе дружна абурыліся, а потым і забыліся. Кінавытворчасць патроху яшчэ коўзалася ў цісках разваленай савецкай сістэмы, кінапракат, пра жудасныя вынікі развалу якога папярэджваў яшчэ Аляксей Герман на сустрэчы з кінематаграфістамі ў Мінску: "Мы сячом сук, на якім сядзім усе разам. Лепш за савецкую сістэму кінапракату няма нічога лепшага ва ўсім свеце", паволі пераходзіў ужо на амерыканскі кінапапкорн. Саюз кінематаграфістаў страціў свой будынак, з якім была звязана амаль уся гісторыя беларускага кіно. Усе абяцанкі рознага ўзроўню начальнікаў замяніць Чырвоны касцёл на іншы прытулак для кінематаграфістаў не прынеслі аніякай палёгкі. Пачалося блуканне па пакутах: адміністрацыйных, творчых, матэрыяльных, маральных. Вытворчасць развальвалася сама па сабе, творчая атмасфера патроху знікала. Набіралі сілу новыя эканамічныя адносіны, а з імі — новыя адносіны паміж людзьмі. І ўвогуле прыходзілі тыя самыя новыя людзі, якія без сумненняў і з абсалютнай упэўненасцю ў сваю моц энергічна прыняліся сячы "вішнёвы сад". Плошчы часовых будынкаў Саюза кінематаграфістаў раздаваліся пад такія ж часовыя фірмы, бясконцыя ТАА, распрадаваліся. Усё рабілася безадказна і беспакарана. Спачатку не стала будынка, знікла тое неабходнае асяроддзе, якое так важна там, дзе ёсць творчасць, дзе ёсць патрэба сустракацца, разважаць, абмяркоўваць. Потым пачалося скасаванне першых прадзюсарскіх цэнтраў, якія ўзнікалі спантанна, без пэўнага досведу ўсіх тонкасцей вядзення фінансавых спраў. Пасля прыйшла навіна пра "ноу-хау" кінастудыйнага кіраўніцтва: амаль усе творчыя работнікі выводзяцца па-за штат студыі. Калісьці як пчаліны вулей, кінастудыя пачала паволі нагадваць памерлую прастору, з шэрымі непрывабнымі сценамі, сцёртай падлогай, пустымі калідорамі. Патроху раскідвалася столькі гадоў будаванае, ахоўваемае творчымі намаганнямі, энергіяй і духам не аднаго пакалення кінематаграфістаў гняздо беларускага кіно. Раз'язджаліся хто куды прафесіяналы, патроху прыходзілі ў занепад такія прафесіі, як дэкаратар, мастак-грымёр, піратэхнік, рэквізітар і нават — мастак-пастаноўшчык. Спрашчалася сама вытворчасць.

### Беларускі кінарубеж

Рубяжом стаў канец XX стагоддзя і пачатак XXI. Мяжа стагоддзяў не толькі ў сацыяльнай гісторыі, але і ў гісторыі мастацтва часцей за ўсё становіцца адлікам новай эпохі. Такое не здарылася ў беларускім кіно, але ўсё-такі гэты рубеж быў абазначаны. У канцы 90-х гадоў, не без цяжкасцей хутчэй за ўсё фінансавага кшталту, выйшлі ў пракат дзве кінастужкі — "У жніўні 44-га" Міхаіла Пташука і "Прыкаваны" Валерыя Рыбарава. Нягледзячы на тое, што тады фільмы былі вельмі дрэнна прадстаўлены ў друку, час пацвердзіў іх якаснасць і запатрабаванасць у глядацкай аўдыторыі. Створаныя ў час актыўнага наступу масавай культуры, фільмы засталіся па-сапраўднаму недаацэненымі. Праз некалькі год стала абсалютна ясна, што ў гэтых карцінах было тое, што ў віры глянцавых відовішчаў не заўважылі: сапраўдная псіхалагічная драматургія, сюжэтная гісторыя, глыбіня і шчырасць аўтарскага погляду, сур'ёзны рэжысёрскі ўзровень амаль ва ўсіх дэталях — ад распрацоўкі характараў да матэрыяльна-рэчавых дэталяў.

З мінулага дзесяцігоддзя самай выбітнай карцінай "Беларусьфільма" можна, напэўна, лічыць "Ваўкі" (рэж. Аляксандр Колбышаў). Вось яна помніцца, таму што там ёсць кіно. Ёсць атмасфера дзеяння, насычаная моцнай энергіяй псіхалагічнага процістаяння, ёсць атмасфера часу, у якім напружанасць канфлікту ўраўнаважваецца казачнай прыгажосцю пасляваеннай зімы, ёсць атмасфера сялянскага побыту, дзе амаль кожная дэталь — сукно на стале, вопратка, посуд, мэбля — перадаюць дух мінулага жыцця. Але самае галоўнае, што ў ёй ёсць, — гэта гісторыя чалавечых адносін, гісторыя ўплыву пэўнага часу на чалавечы лёс. І ўсё ж дзеля праўды трэба сказаць: "Ваўкі" — заўважная карціна менавіта цяпер і менавіта ў беларускім асяроддзі. Як толькі яна трапіла ў замежную прастору, то адразу ж пачуліся папрокі, што такі стыль і такая тэма ў сусветным мастацтве ўжо былі распрацаваны і неаднаразова.

### Screenema па-беларуску

Яшчэ на пачатку 1990-х сталі прысуджаць прэміі за прымяненне дыгітальных тэхналогій у кіно. Сталі разважаць пра тое, што кіно робіць тэхналагічны пераход ад таго, каб перадаваць рух (cinema), да мадыфікацый самога экрана (screenema), што камп'ютарныя "качэўнікі" прывязаліся да сёдлаў кінематаграфістаў і пераможна ўскочылі ў кінапрастору. Пачалася эпоха дыгітальнага кіно. На нашых вачах выстройваліся вялізныя чэргі жадаючых патрапіць у 3D-, 5D-залы.

Кіраўніцтва "Беларусьфільма" бадзёра рапартавала, што на студыі новае кіно будзе рабіцца па новых тэхналогіях, на новым абсталяванні. Мы не можам адставаць ад Амерыкі ці Еўропы. Першае, за што ўзяліся, — стварэнне відовішчаў. Склалася такое ўражанне, што дзіцёнку далі доўгачаканую забаву, а той што толькі не робіць з ёй. Хочаце яркага колеру — калі ласка, а можа зрабіць такі рытм, каб усё мільгала і гучала, як у дарагім папсовым кліпе — і гэта можна. А яшчэ лепей, калі ўсё будзе нагадваць гэтакі глэм-кактэйль: анімацыйныя ўстаўкі, агрэсіўны колер, які мяняецца часцей, чым кавалачкі рознакаляровага шкла ў дзіцячым калейдаскопе, рытм, які набірае рух у некалькі разоў больш хуткі, чым мільганне 24 кадраў у хвіліну. Але сучасная кінатэхніка — яшчэ не ўсё, калі за гэтым няма чагосьці большага, таго, што прымушае не толькі глядзець, але яшчэ і бачыць.

Прыблізна такая ж сітуацыя атрымалася з фільмам "Масакра" (рэж. Андрэй Кудзіненка). Што толькі пра яго не казалі: першы беларускі фільм у жанры містычнага трылера, стварэнне новага жанру "бульба-horror", гатычны кінараман і г.д. Насамрэч нічога не стварылася: ні новага жанру, ні ідэі, ні адкрыцця. Гэта той самы прыклад, які пацвярджае правіла: у сінтэзаваным мастацтве кіно, калі яно сапраўднае, усе дэталі, складнікі знаходзяцца ва ўзаемазалежнасці. Калі штосьці адно, вельмі таленавітае, выходзіць наперад, то цэлае ад гэтага не выйграе. "Масакра" прадстаўляе перш за ўсё яркае, жывапіснае ўвасабленне ідэі дваранскага гнязда як "саламянага калоса", які развальваецца на нашых вачах. Яркае відовішча, так бы мовіць, першы пласт экрана, не адчыняе глыбінныя пласты экраннага дзеяння. Уся карціна ўвасабляе прагнае жаданне аўтара пазабавіць гледача. Касцюмы, дэкарацыі, нагрувашчванне жаху — гэта таксама яшчэ не ўсё, каб адбылося менавіта кіно. Павінна быць яшчэ штосьці неабходнае. Напрыклад, аўтарская думка.



Фота Кастуся Дробава

### І ўсё ж такі якое яно, нацыянальнае кіно?

Якіх толькі думак не прыйшлося пачуць! Маўляў, "нацыянальнае кіно" — гэта аповед пра гістарычныя падзеі, гэта абавязкова фільм на беларускай мове, што гэтае кіно павінны ствараць толькі беларусы з беларускімі акцёрамі… Адна недарэчнасць удакладняецца другой. Абмежавацца азначэннем, што нацыянальнае кіно — гэта проста добрае кіно, таксама прызнаць асабістае неразуменне гэтага тэрміна. Калі ўявіць, што беларускі рэжысёр Н. з беларускімі акцёрамі на беларускай мове экранізуе выдатна Фолкнера ці Шукшына, Хэмінгуэя ці Трыфанава, то гэта наўрад ці будзе *нацыянальным* праектам. У гісторыі кінамастацтва былі самыя розныя прыклады ўвасаблення нацыянальнага. Да сённяшняга часу мы з задавальненнем глядзім фільмы грузінскіх кінематаграфістаў, зробленыя ў 1960 — 80-я гады. Мы не толькі зачараваныя нацыянальным каларытам, характарамі, гумарам у гэтых фільмах, мы атрымліваем асалоду ад таго, што дзесьці пазнаём сябе, што гэта выключна нацыянальнае грузінскае мастацтва нам шмат чаго нагадвае пра нас, беларусаў. А камусьці — пра рускіх, малдаван, узбекаў і г.д. Атрымліваецца менавіта так, як казаў дырэктар Мельбурнскага кінафестывалю, прагледзеўшы фільм Тэнгіза Абуладзэ "Пакаянне": "Дзякуй вам за тое, што ваша грузінская карціна дапамагла мне лепш зразумець сябе". Цудоўны ўзор менавіта нацыянальнага кіно паказаў Андрэй Канчалоўскі ў "Першым настаўніку" — экранізацыі прозы Ч. Айтматава. Гэта быў нацыянальны кіргізскі фільм. Можна ўзгадаць чэха Мілоша Формана, польку Агнешку Холанд, якія ў Амерыцы робяць нацыянальныя амерыканскія фільмы, Рамана Балаяна — армяніна, які жыве ў Кіеве і робіць рускія фільмы.

Нацыянальны твор можа быць на любую тэму — гістарычную ці сучасную, не абавязкова толькі з беларускімі акцёрамі, як не абавязкова, каб рэжысёр быў таксама беларус ці нават з Беларусі родам. Здаецца, што і беларуская мова, хаця і пажадана, але далёка не тая безумоўная акалічнасць, якой трэба прытрымлівацца. А што неабходна, каб было ў нацыянальным кіно, дык гэта нацыянальная ідэя, асяроддзе, якое ўвасабляецца ў катэгорыі часу-прасторы, і дух. Менавіта дух аб'ядноўвае людзей і дапамагае разумець адно аднаго. Менавіта дух насычае твор тым паветрам, ад якога вальней дыхаецца ўсім. У нацыянальных фільмах ёсць такая адметнасць: распавядаючы пра сваё, яны больш за ўсё гавораць пра сусветнае, яны не закрываюцца нацыянальнымі перагародкамі, а наадварот — адчыняюцца для ўсіх. Таму і ўспрымаюцца з большай цікавасцю менавіта нацыянальныя фільмы, таму і лягчэй разумеюцца яны людзьмі іншых нацыянальнасцей.

### Беларускае кіно было. Ці ёсць? А будзе?

Менавіта беларускага кіно як галіны, як адметнага мастацтва на сённяшні дзень няма. Пэўная колькасць, якая здымаецца на "Беларусьфільме", ніяк не перайшла ў якасць. Нас не ведаюць у свеце, нашы гледачы не ідуць на такое кіно. Ёсць адзінкі вытворчасці, але няма кіно як адзінак аўтарскіх. Колькі існуе саветаў вакол кіно — мастацкі савет на студыі, экспертная рада ў Міністэрстве культуры, агульныя пасяджэнні, саветы і рады! Цяпер створаны савет па культуры… Сапраўды, адзін з сошкай — сямёра з лыжкамі. Амаль што на ўсіх "брэндавых" кінастудыях мастацкія саветы ўжо адышлі ў нябыт. Толькі не ў нас. І ўсё роўна атрымліваецца: заяўкі прымаюць такія, што пра *нацыянальнае* кіно можна забыцца, сцэнарыі зацвярджаюць такія, што ў мінулыя гады іх бы блізка не падпусцілі. А фільмы ўвогуле атрымліваюцца такія, што ў гадах 70 — 80-х іх бы нават і сярэднімі не назвалі. Павінны быць адзіны мастацкі кіраўнік, але — прафесіянал, чалавек з бездакорным мастацкім густам, аўтарытэтны. Справа ў тым, што знайсці такіх асоб сёння — праблема. На студыі павінна быць сапраўдная творчая атмасфера, дзякуючы якой чалавек адчувае сябе не "наймальнікам", а запатрабаваным *аўтарам*. Колькі ні казалі пра славутую рэканструкцыю студыі, але можна столькі адмоўных эмоцый там адчуць… Нічога не нагадвае пра творчае жыццё: ні людзі, ні сцэны. Атмасфера — рэч вельмі важная. Кінематаграфісты з іншых краін, прыязджаючы сюды, здзіўляюцца, чаму ў нас няма аніводнага месца, дзе б можна было спакойна паразмаўляць у так званых неафіцыйных абставінах. "Дом кіно" па-ранейшаму застаецца кінатэатрам "Партызан". Навошта было мяняць назву? Атрымліваецца, што проста выкралі знакаміты брэнд. У сённяшні "Дом кіно" кінематаграфістаў бясплатна нават не ўпусцяць.

У сучасным кіно немагчыма абысціся без інстытута прадзюсарства. Не можа такога быць, каб адзіным прадзюсарам выступала дзяржава, а ў тытрах чытаем імёны дырэктара кінастудыі, старшыні тэлерадыёкампаніі ў якасці генеральных прадзюсараў. За дзяржаўны кошт? А вось што патрэбна было б зрабіць за дзяржаўны кошт, дык гэта вучыць моладзь у інстытуце кінематаграфіі ў Маскве. На створаным факультэце экранных мастацтваў у БДАІ пакуль што няма ні традыцый, ні магчымасцей — тэхнічных, кадравых, вучэбных, каб выпускаць *рэжысёраў*. Павінны быць Майстры, таму што ў сапраўдных майстэрнях выхоўваюцца аўтары. Калісьці Казахстан дамовіўся з інстытутам, Сяргей Салаўёў набраў казахскую майстэрню — у казахскім кіно з'явілася "новая хваля", якая стала знакамітай на ўвесь свет. Так калісьці А. Баталаў набраў кіргізскую майстэрню — зараз кіргізскія акцёры асабліва запатрабаваны ў азіяцкай прасторы.

Усё можна прыдумаць і знайсці выйсце. Толькі патрэбна сапраўды падумаць галавой, а яшчэ лепш і сэрцам. Кіно — тое мастацтва, на якое патрэбны маральнае і мастацкае пачуццё, а без сэрца і душы гэта не атрымаецца.

# Штрых-код

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

### Што было

**Да** Міжнароднага дня роднай мовы ў бібліятэках Беларусі адбыўся шэраг мерапрыемстваў. У Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. Леніна арганізавана кніжная выстаўка "Мова — крыніца ўсёй прыгажосці". Яе асноўныя тэмы — "Карані нашай мовы", "Жывая мова Магілёўшчыны", "Мова нашай дзяржавы". Для навукоўцаў і студэнтаў, выкладчыкаў беларускай мовы разгорнуты раздзел "Мова — аснова адукацыі". А ў тэматычнай падборцы "Мовы рысы непаўторныя" прадстаўлены творы беларускіх пісьменнікаў самых розных жанраў.

**Выстаўка** да 90-годдзя з дня нараджэння беларускага пісьменніка Івана Мележа сабрала шмат прыхільнікаў яго таленту ў Гомельскай абласной бібліятэцы. "Сказ пра Івана Мележа" — такую назву мела экспазіцыя ў яе дзіцячым аддзеле.

У гэтай жа бібліятэцы праведзены шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных юбілею Івана Шамякіна. Тут плануецца стварыць музейную экспазіцыю "Глыбокія плыні жыцця Івана Шамякіна", якая будзе ўтрымліваць рукапісы пісьменніка, літаратуру пра яго жыццё і творчасць, кнігі з аўтографамі, фотаздымкі, а таксама рэчава-прадметную калекцыю.

**У Драгічынскай** цэнтральнай раённай бібліятэцы адбылася сустрэча чытачоў, бібліятэчных работнікаў з сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі, доктарам юрыдычных навук прафесарам Сяргеем Трахімёнкам. Пісьменнік распавёў пра свой жыццёвы і творчы шлях, пакінуў у бібліятэцы новыя кнігі з аўтографамі.

### Што ёсць

**У музеі** кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі з 22 лютага па 22 мая арганізавана выстаўка "Казанне Пятра Скаргі", прымеркаваная да 475-годдзя з дня нараджэння царкоўнага і палітычнага дзеяча Рэчы Паспалітай Пятра Скаргі (1536 — 1612).

**Сёння** завяршаецца тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі "У сябры я выбіраю кнігу" ў дзіцячых бібліятэках Баранавічаў, распачаты 28 лютага.

### Што будзе

**6** сакавіка ў 16.00 у Пінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Яўгеніі Янішчыц адбудзецца пасяджэнне клуба цікавых сустрэч "Прызнанне", прымеркаванае да Дня вясны: "Жанчыны, які мудрэц вас разгадае…"

**16** сакавіка ў Віцебскай гарадской бібліятэцы імя Міхася Лынькова пройдзе гадзіна паэзіі "Вялікія майстры паэтычнага слова". (Да Сусветнага дня паэзіі.)

**На 17** сакавіка ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя В. Таўлая г. Баранавічы запланавана паэтычная вечарына "Паэзіі душа аддадзена". Сустрэча прымеркавана да 80-годдзя адной са старэйшых баранавіцкіх паэтак Анастасіі Жук. Творца выдала некалькі зборнікаў вершаў, сярод іх "Дарогай жыцця", "Белыя крылы", у 2010 годзе выйшла ў свет кніга "Гронка рабіны". На юбілейнай вечарыне збяруцца сябры-паэты, студэнты навучальных устаноў горада, чытачы бібліятэкі.

**21** сакавіка распачнецца літаратурны калейдаскоп "Паэты сваёй Радзімы", прысвечаны Сусветнаму дню паэзіі ў Парахонскай сельскай бібліятэцы Пінскага раёна.

**21** сакавіка Полацкая цэнтральная бібліятэка імя Францыска Скарыны праводзіць літаратурны марафон "Покліч душы і часу". Да ўдзелу запрашаюцца майстры мастацкага слова.

**24** сакавіка ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. Леніна і Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага чакаецца адкрыццё Тыдняў дзіцячай і юнацкай кнігі. У мерапрыемствах бяруць удзел супрацоўнікі рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва". Запланавана прэзентацыя новых кніг і планаў выдавецтва на II паўгоддзе 2010 года.

***Заўвага:** у датах запланаваных на будучае мерапрыемстваў магчымыя змены.*

# Чытаем па-беларуску разам!

**Менавіта такую назву мае акцыя, якая праходзіць сёлета ў многіх бібліятэках краіны.**

**"Скарбніца" — рубрыка, якая штораз будзе прыводзіць чытача ў чытальню: галоўную, Нацыянальную; альбо абласную; альбо гарадскую і раённую, школьную ці… сельскую. Нягледзячы на тое, што ахопліваюць яны розную па памерах тэрыторыю, што розняцца іх фонды і незнаёмыя паміж сабою чытачы, установы гэтыя вядуць чалавека да кнігі. А значыць, робяць яго духоўна багатым, разумным, інтэлігентным. У бібліятэках рэйтынгі папулярных кніг (іх вы сустрэнеце на старонках "ЛіМа") адрозныя ад тых, што прапануюць крамы і кірмашы. Таму што можна ўзяць у рукі не толькі што выдадзеную, але і тую "зачытаную", што захавалася на палічцы немаведама колькі дзесяцігоддзяў. І падзеі, што адбываюцца ў бібліятэках, маюць адмысловы, эмацыянальна і духоўна насычаны "штрых-код": мы паспрабуем анансаваць некаторыя з іх, каб была магчымасць выбраць, куды накіравацца ў сваю вольную часіну. І, вядома, будзем расказваць пра багаты досвед беларускіх кніжных скарбніц.**

**Ірына ТУЛУПАВА,** e-mail: tulupova_05@mail.ru

# Фаліянты некалькіх эпох

**Музей рэдкай кнігі, які вось ужо чацвёрты год дзейнічае пры Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна, добра вядомы гараджанам і гасцям горада. Больш такога збору рэдкіх кніг у Беларусі не сустрэнеш нідзе. Феномен Гомельшчыны — у тым, што тут захавалася ў сваёй аўтэнтычнасці багатая культура нашага насельніцтва, і кніжная — як адна з багацейшых яе плыняў — таксама. Адчыніўшы дзверы музея ў Гомельскай абласной, заглыбішся ў лабірынты мінулых стагоддзяў. І, убачыўшы фаліянты розных эпох, упэўнішся: да кніг чалавек спрадвеку ставіўся з вялікай пашанай.**

Ірына ТУЛУПАВА



### Пра цэнтры кнігадрукавання

Адразу пры ўваходзе ў музей — сусветныя старадрукі. Вітрына, прысвечаная беларускім старадрукам, якіх наогул няшмат, запоўненая сапраўднымі шэдэўрамі мастацтва. Сярод іх пачэснае месца займае факсіміле Слуцкага Евангелля. Прадстаўлены асноўныя цэнтры беларускага кнігадрукавання: Магілёўская школа, Пачаеўская, Супрасльская, Гродзенская і Віленская. Тут жа знаходзяцца звесткі пра друкарню Супрасльскага Дабравешчанскага ўніяцкага манастыра і іншыя.

### З Румянцаўскага палаца…

— Кнігі Мікалая Пятровіча Румянцава, аднаго з уладальнікаў Гомельскага палаца, на жаль, у горадзе не захаваліся, — тлумачыць загадчык аддзела рэдкай кнігі Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі Дзіна Мельнічэнка. Бібліятэка Румянцава ў найбольш поўным складзе знаходзіцца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы ў Маскве. У Гомелі змешчаны кнігі, якія маюць друкаваныя прысвячэнні Румянцаву, альбо кнігі, якія выйшлі дзякуючы яго фінансавай падтрымцы, ці кнігі, якія былі падрыхтаваны да выдання паплечнікамі Мікалая Пятровіча. Між іншым, ён арганізаваў румянцаўскі гурток, у якім налічвалася больш як 200 самых адукаваных прадстаўнікоў свайго часу. Сярод кніг сваё ганаровае месца займаюць "Акты исторические, собранные и изданные Археографической комиссией" пад рэдакцыяй Іаана Грыгаровіча. Наогул, імя гэтага чалавека цесна знітавана з гісторыяй горада Гомеля. Менавіта ён па даручэнні Румянцава даследаваў беларускія архівы: царкоўныя, манастырскія, дзяржаўныя. На сродкі Мікалая Пятровіча Румянцава ў 1824 годзе быў выдадзены "Белорусскій архивъ древнихъ грамоть" (ч.1), падрыхтаваны І. Грыгаровічам.

Румянцаў больш цікавіўся кнігамі па гісторыі Расіі на рускай, лацінскай, польскай мовах, якія былі створаны да XV стагоддзя.

### Паскевічаў збор

Вітрына, прысвечаная фельдмаршалу Расійскай імперыі Івану Фёдаравічу Паскевічу, сведчыць: менавіта ён стаяў ля вытокаў стварэння радавой бібліятэкі. Шмат кніг з яе маюць пісьмовыя і друкаваныя прысвячэнні Івану Паскевічу. Менавіта пад яго кіраўніцтвам расійскія войскі выйшлі пераможцамі ў руска-персідскай вайне 1826 — 1828 гадоў і ў руска-турэцкай 1828 — 1829 гг. Дзякуючы яго бліскучым ваенным здольнасцям Расійская дзяржава здолела ўтрымаць тэрыторыю Польшчы ў 1831 годзе. Калі б паўстанне ў Варшаве мела поспех, то Расія страціла б тады свой палітычны ўплыў ва Усходняй Еўропе. На адной з вітрын — "Новый исторический словарь с хронологическими таблицами", выдадзены ў 1889 годзе. У музеі перакананы: з вялікай доляй упэўненасці можна сказаць, што гэта кніга з бібліятэкі Напалеона Банапарта: 26-я дывізія пад камандаваннем Івана Паскевіча ўдзельнічала ў Барадзінскай бітве. І менавіта войскі пад яго кіраўніцтвам вызвалялі тэрыторыю Беларусі і ўдзельнічалі ў паходзе рускай арміі па Заходняй Еўропе. Грэнадзёры Паскевіча першымі ўвайшлі ў Парыж.

Некалькі выданняў з калекцыі Паскевіча нясуць у сабе запісы кшталту: "Гэтая кніга належала бібліятэцы Напалеона І". А запіс, зроблены рукой Паскевіча на французскай мове, гаворыць пра тое, што пасля яна стала яго ўласнасцю. Кнігі з калекцыі Паскевічаў нясуць у сабе фамільны экслібрыс: усіх іх 8 відаў. Прыкладам, пасля падаўлення паўстання ў Варшаве Паскевіч быў прызначаны намеснікам імператара ў царстве Польскім, а пад сваю рэзідэнцыю заняў каралеўскі замак, яго называлі "князь Іван Варшаўскі". Адзін з экслібрысаў утрымлівае першыя літары гэтага словазлучэння. У Варшаве дзейнічала тады вядомая майстэрня гравёра і медальера Херкнера. Лічыцца, што менавіта там Паскевіч заказаў для сваіх кніг васьмівугольны геральдычны экслібрыс.

Яшчэ адна вітрына змяшчае ў сабе ўсходнія рукапісы, якія ў якасці трафеяў былі прывезеныя Паскевічам з Каўказа. Ёсць даволі рэдкае выданне: "География четырёх частей мира: Азии, Европы, Африки и Америки" С. Агонца на армянскай мове (Венецыя, 1802). Выданне мае добрую захаванасць: моцны скураны пераплёт, прыгожыя абрэзы. Менавіта дзякуючы калекцыі Паскевічаў Беларусь мае калекцыю ўсходніх рукапісаў, большасць рукапісаў з Гомеля сёння складае ядро гэтых выданняў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Ірына Іванаўна Паскевіч і Фёдар Іванавіч Паскевіч — другое пакаленне, якое прымала ўдзел у фарміраванні бібліятэкі. Фёдар Іванавіч асабіста ёю кіраваў — тут працавалі прафесійныя бібліятэкары, вяліся каталогі, быў добра пастаўлены ўлік — усіх кніг і перыядычных выданняў. Ірына Іванаўна, пачынаючы з 1903 года, пасля смерці Фёдара Іванавіча, засталася адзінай уладальніцай замка і маёмасці. І калі ў 1903 годзе бібліятэка налічвала амаль 14 тысяч асобнікаў, то ў 1917 годзе ў ёй было ўжо звыш 20 тысяч выданняў. Каля 6 тысяч кніг Ірына Іванаўна сама дадала ў бібліятэку Гомельскага замка.

Цяпер супрацоўнікі аддзела рэдкай кнігі Гомельскай абласной бібліятэкі даследуюць архіўныя дакументы, якія праліваюць святло на фарміраванне кніжнага збору. У 12-м выпуску зборніка "Здабыткі" (2010), выдадзеным Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, надрукаваны артыкул Дзіны Мельнічэнкі "Из истории библиотеки Гомельского замка князей Паскевичей".

### Рэдкі аўтограф

Многія фаліянты з Музея рэдкай кнігі маюць аўтографы вядомых людзей свайго часу. Прыкладам, сачыненні Г. Р. Дзяржавіна з яго ўласнаручным надпісам. Зборнік вершаў Якава Палонскага "Озими", надрукаваны ў 1876 годзе ў Санкт-Пецярбургу. Пераплёт пацягнуты шоўкам, у кнізе залочаны абрэз. Залачэнне вельмі добра захавалася: для ўпрыгажэння кніг выкарыстоўвалася золата самай высокай пробы — сусальнае, якім залоцяць купалы цэркваў. Такія выданні маглі сабе дазволіць людзі забяспечаныя, а ў сярэдзіне 30-х гадоў XIX стагоддзя роўных Івану Паскевічу ў расійскай дзяржаве пасля Мікалая І не было. Прысутнічаюць у зборы выданні XVIII стагоддзя — пераважна мастацкія творы, якія сведчаць пра інтарэсы ўладальнікаў Гомельскага палаца. Паэма Гамера "Адысея", выдадзеная ў 1788 годзе ў Маскве, пераклады на рускую мову твораў усходніх літаратур і пераклады на рускую мову англійскіх, французскіх аўтараў. "Полное собрание всех сочинений в стихах и прозе" Аляксандра Сумарокава выдадзена ў Маскве ў 1781 годзе. У гісторыі рускай літаратуры гэта першы поўны збор твораў аднаго аўтара. Падрыхтаваў яго выдавец і асветнік Мікалай Навікоў.

У гістарычнай вітрыне паважна пачуваюцца "История государства Российского" Мікалая Карамзіна — прыжыццёвае выданне, якое выйшла ў васьмі тамах; невялічкае па аб'ёме, але каштоўнае з пункта вывучэння гісторыі Беларусі выданне рускага гісторыка Мікалая Устралава "Исследование вопроса, какое место в истории должно занимать Великое Княжество Литовское", выдадзенае ў Санкт-Пецярбургу ў 1839 годзе.

Фонды аддзела рэдкай кнігі даступныя для навуковых даследаванняў.

На сённяшні дзень калекцыя князёў Паскевічаў налічвае звыш 6 000 экзэмпляраў. Акрамя гэтага сабрана калекцыя рэдкіх выданняў і калекцыя мініяцюр — прыблізна па 3,5 тыс. кніг. Каля 200 экз. — з калекцыі польскага ксяндза Стэфана Запасніка — усяго калекцыя аддзела рэдкай кнігі Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна налічвае без малога 15 тысяч экзэмпляраў.

Марыя ВЕРЦІХОЎСКАЯ

# Святло этыкі ў

## Нататкі прастадушнага чытача пра раман Міхася Южыка і аповесць Фёдара Конева

### Два — пра адно

Напрыканцы мінулага года часопісы "Полымя" і "Нёман" апублікавалі два аднатэмныя творы (пра сучаснасць): раман М. Южыка "Леапард на балконе" і Ф. Конева "Туман" адпаведна.

Абодва творы лёгка чытаюцца: тэксты шчыльныя, галоўныя героі заяўлены адразу, сюжэт вымалёўваецца на першых жа старонках.

Так, герой М. Южыка пасля адпачынку на Браслаўскіх азёрах канчаткова вызначыўся, што жыць па-ранейшаму нельга. Сужыцелька Ксеня Шпачык хоць і надаецца для сексуальных кульбітаў у ложку, але для запланаванага Пятром Мігулем жыцця — не прыдатная.

Герой заклапочаны казытлівай праблемай: як прыстойна адпрацаваць адпрацаваную партнёрку. Вузел развязваўся надзіва лёгка, можна сказаць, сам сабою. Аднак, *"атрымаўшы свабоду і магчымасць уладкоўваць свае асабістыя справы, ён атрымаў прыкрае нездавальненне і эмацыянальную пустату"*. Мігуля *"не мог змірыцца з тым, што яна яго кінула, а не ён яе. <…> Пятро ўспамінаў свае колішнія адносіны з жанчынамі і не мог прыгадаць, каб яго вось так груба і проста адпрэчвалі. Ён пакідаў і крыўдзіў сваіх ранейшых каханак. Як сапраўдны мужык, герой, пераможца…"*

Далей аўтар заінтрыгоўвае чытача абяцаннем паказаць, як *"праз некаторы час таемная сіла разбурэння пацягнула яго (героя) на нелагічныя, неапраўданыя, нейкія вычварныя ўчынкі"*.

Абяцанае спраўдзіў. Другая палова рамана — менавіта пра *"нелагічныя, неапраўданыя, нейкія вычварныя ўчынкі"*. Акурат такія, на якія толькі і здольны вычварэнцы і пачвары. Аўтарскі прысуд свайму герою вычарпальны. Адэкватным будзе і чытацкае ўспрыманне Homo мярзотуса.

### Падпольны чалавек жыве і будзе жыць

Прастадушнаму чытачу, аднак, будзе няўцям: дзеля чаго аўтару спатрэбілася гарадзіць высокі плот з трох устаўных містыка-фантастычных дапушчэнняў, змест якіх вынесены ажно ў загаловак рамана? Урэшце, якая роля ў сюжэце загадкавага вобраза Сяргея Страмца і ўсіх рэбусаў, з ім звязаных?

Мяркую, што М. Южык прапанаваў чытачу сучасны варыянт "падпольнага чалавека", адкрытага і выкрытага яшчэ Дастаеўскім.

Добра ведаючы пра хваравітае стаўленне і бурную рэакцыю літаратараў на іх у рэмейкізаванні, перадусім патлумачу. Па-першае, нават калі зрабіць дапушчэнне, што ў южыкаўскім рамане і ёсць элементы рэмейка, то гэтая форма перакадзіроўкі класікі сёння настолькі легалізавалася, што крыўдаваць за гэта не варта. У нас ужо ёсць аўтары, якія менавіта на рэмейках зрабілі сабе імя, а іх творы ўключаны ў школьную праграму. Да прыкладу, творы С. Кавалёва.

Забягаючы наперад, зазначу, што і аповесць Ф. Конева "Туман" — мэтанакіраваная варыяцыя класічных сюжэтаў, вобразаў і калізій. І тое аўтарам не камуфлюецца, а наадварот — дэкларуецца і напаўняецца новым, актуальным зместам. Перакадзіроўка класікі, аглядкі на класічныя ўзоры "працуюць" не толькі на ідэю, але, не пабаюся сказаць, на канцэпцыю аповесці.

Па-другое, хоць "падпольны чалавек" і "выкрыты" Дастаеўскім, але ім жа не знішчаны гэты Homo мярзотус. Падпольны чалавек — вечны і шматаблічны, хаця сутнасць яго не змянілася і не зменіцца ніколі. Ён дастасоўваецца да ўсіх часоў і добра "накладаецца" на сучасныя рэаліі. Як, дарэчы, гогалеўскія Кіфа Мокіевіч, дурань-"філосаф", і яго сынок Мокій Кіфавіч, "припертень", ад якога *"никому нет покоя"*. Практычна не змяніліся тыпы гэтых несмяротных вобразаў у носьбітаў зла — конеўскіх персанажаў Мокія і Хоміча. Аглядка на класічны ўзор, як бачым, відавочная: нават імя аднаго з гэтай парачкі не зменена. І ўсё ж мярзоту сучасных Мокіяў не параўнаць з мярзотай іх класічных "узораў". Гогалеўскія Кіфа Мокіевіч і Мокій Кіфавіч, як памятаем, думалі *"не о том, чтобы не делать дурного, а о том, чтобы только не говорили, что они делают дурное"*. Сучасныя ж Мокіі і Хомічы зусім не абцяжарваюць сябе хваляваннем пра тое, што пра іх гавораць іншыя. Бязмежныя ў сваім цынізме і жорсткасці, такія праз усё і ўсіх пераступяць, каб ім *"чай пить всегда"*.

Справа тут зусім не ў тым, што сучасныя літаратары "рэанімуюць" і "эксплуатуюць" класічныя вобразы ці нават сюжэты. А ў тым, дзеля якой такой "высокай мэты" тое робяць.

### Мышаня, раздзьмутае да памераў леапарда

Знакамітая дылема падпольнага чалавека Дастаеўскага: *"Свету ли провалиться или вот мне чаю не пить? Я скажу, что свету провалиться, а чтоб мне чай всегда пить"*.

Аналагічная дылема і ў южыкаўскага Мігулі-Страмца (так аўтар рэалізуе тэму падвання асобы і яе дэградацыі).



Фота Кастуся Дробава

Калі чалавеку дадзены "адпаведныя органы", што *"без палавога партнёра… сэнсу не маюць"*, то *"органы гэтыя патрабуюць спатолі, як страўнік ежы"*, — пастулюе дысертант Мігуля. *"Але што цяпер — узарваць зямны шар, пагасіць сонца, засіліцца?"* — туруе яму яго двайнік Страмец. І ставіць вырашэнне праблемы на трывала выбудаваны падмурак: *"Трэх — гэта спосаб выжывання ў навакольнай памыйніцы"*.

Лагічна, што на такім падмурку лёгка адназначна вырашаць дылему на карысць чаю. Як ні круці, "мне чай всегда пить". Далей змест рамана — пра "чаяванне" сучаснага "падпольнага чалавека". Які герой — такія яго і ўчынкі, такія і іх наступствы. І тут аўтар логікі свайго вобраза не парушыў.

У той жа час галоўны герой аповесці Ф. Конева настаўнік Малышаў са скрухай і болем гаворыць Стахаву, што *"даже в отвратительных героях классиков мерзость человечна. <…> Мерзость можно объяснить. А всё, что можно объяснить, можно поправить. А сегодняшнее зло я не понимаю. Оно возникает вдруг, без причин…"*

Значную частку тэксту рамана М. Южык аддаў на выглумачэнне "сегодняшнего зла". Прычым зрабіў гэта па-майстэрску.

У "Слоўніку антычнасці" (артыкул "Безобразное") чытаем: *"В античной эстетике безобразное вызывает отвращение. Мастерски и точно отражённое в искусстве, безобразное вызывает эстетическое удовлетворение"*. Лішнім будзе тлумачыць, што такі ж эфект майстэрскага адлюстравання выродлівага мае месца не толькі ў антычнай эстэтыцы.

Эстэтызацыя вычварнага дасягаецца аўтарам не толькі праз лёгкасць выкладу, дакладнасць выпісаных рэалій (да прыкладу, блуду, развалу сям'і, філасофіі падвойнага жыцця, бязмежнага цынізму, жорсткасці). І тое зразумела. У эпоху, калі даўно зацёрты і скампраметаваны такія паняцці, як сумленне, абавязак, адказнасць, цнота, самаахвярнасць, не месца гераічнаму эпасу. Аўтар прапануе нам сучасную "Батрахаміямахію" — вайну мышэй і жаб. Па сутнасці, герой рамана — нуль без палачкі, мышаня, якое раздзьмулася да памераў леапарда. З падобнымі да сябе ён і ваюе.

### Як мышаня ратавала чалавецтва

"Падпольны чалавек" не толькі мярзотны. Ён небяспечны тым, што заўжды камуфліруе сваю неспатольную патрэбу "чай пить всегда" "вялікай ідэяй". Прычым ідэяй актуальнай.

Так, мышаня-вычварэнец з "Леапарда…" апантана ідэяй уратавання *"паўночна-заходняга чалавецтва"*. Ні больш ні менш. І пачаў Мігуля з канстатацыі бясспрэчнага: *"Цяпер паўночна-заходняя цывілізацыя перажывае дэмаграфічную катастрофу"* і апынулася *"на мяжы вымірання"*. Сякеру знайшоў пад лаўкай: *"забарона на публічную сексуальнасць прывяла да рэзкага зніжэння нараджальнасці"*.

Гора-дысертант упэўнены, што *"сітуацыя, дзякуючы актыўнай прапагандзе голага цела і вольнага кахання, пачне выпраўляцца"* і *"выпраўленне гэтае абавязкова здзейсніцца"*.

Мігуля прагне паўдзельнічаць у выратаванні чалавецтва і заяўляе, што найперш *"мусіць перагледзець некаторыя пастулаты нашай цывілізацыі"*, бо людскія законы *"высмактаны з пальца, тысячу разоў мяняюцца і зыначваюцца"*.

На шляху да "вялікай мэты" вычварэнца ёсць перашкоды і ворагі — гэта мараль і рэлігія. Удалы і хітры ход — даць агульнага ворага, аб'ект усеагульнай нянавісці. Адпрэчыўшы "ворагаў" (*"голас здаровага сэнсу павінен вяршэнстваваць над рэлігіяй і маральнымі законамі"*), зручней "чаяваць". Мігуля абвяшчае *"любы палавы акт свяшчэнным"*, бо той *"вядзе да працягу жыцця"*. Свяшчэнны і той, калі *"даводзіцца дзейнічаць гвалтам"*. Ён упэўнены, што чалавецтва *"будзе вымушана перагледзець сваё стаўленне да палавога акта, сцёршы межы паміж гвалтам і добрай воляй…"*

Мышаня, пасягнуўшы на зыначванне людскіх законаў, за адно імгненне зменшыла "паўночна-заходняе чалавецтва" адразу на дзве душы…

### Цікава — пра пытанні вечныя

Ф. Конеў умее ясна распавесці гісторыю, не множачы вытанчаных метафар да ўзроўню, калі яны ўжо перастаюць растварацца ў тэксце і выпадаюць у асадак.

Канкрэтнай з'яве надаецца значэнне сімвала, які "працуе" на ідэю і канцэпцыю аповесці, а не замарочвае чытача невытлумачальнымі рэбусамі. На першай жа старонцы акрэслены хранатоп, заяўлены асноўныя персанажы і галоўны герой. Малышаў час ад часу пакідае вакзал, каб пабыць на адзіноце са сваімі невясёлымі думкамі, але ён не знаходзіць *"для себя успокоительного ответа на один и тот же вопрос — зачем он здесь?"*

Дастаткова, каб злавіць чытача на кручок. Аднак пісьменнік не паслабляе дынамікі сюжэта, не запавольвае дзеяння, а паскорвае яго, інтрыгуе чытача, дадаючы да "согласной компании" яшчэ аднаго персанажа — "странного человека".

Інтрыга ўзмацняецца тым, што аднаму з "согласной компании" — мардастаму Шчакуліну, прыватнаму дэтэктыву — падаецца, што гэтага "странного типа" ён раней сустракаў: *"Но когда и где?"* Знакамітага ж артыста з умоўным імем "Сяргей Сяргеевіч" *"просто разбирало любопытство, кто же та женщина, которую он встречает"*.

### Прынцып неабходнасці і дастатковасці

Чытач пачынае ўжо здагадвацца, што выпадак, нялётнае надвор'е, звёў разам зусім не выпадковых людзей. Звёў, каб запатрабаваць ад іх невыпадковых адказаў на выпадковыя пытанні…

Фёдар Конеў — кінадраматург. І аповесць яго не проста драматургічная, а, так бы мовіць, "кінадраматургічная". Вобразы — візуальныя, а дыялогі выпісаны па формуле, "вынайдзенай" Рэкемчуком. У. Бярэзін, які вучыўся ў семінарыі Рэкемчука ў Літінстытуце, згадвае такі яго ўрок маладым літаратарам: *"Вопрос одного персонажа к другому: "У тебя есть спички?" — имеет право на существование, только если действие рассказа происходит в пороховом погребе"*. І ў дыялогах Ф. Конева — ніводнай "сцёбнай" фразы, ніводнага лішняга пытання ці прахаднога адказу.

У аповесці шмат філасофскіх дыскусій пра шчасце, сэнс жыцця, душу чалавека, свабоду выбару — карацей, "про жизнь и про любовь". А чытаюцца яны не проста цікава, а з "прымеркай" на сябе: а што гэта кніга, канкрэтны эпізод — для мяне, для мяне?..

Мова твора, заўважыць чытач, стылізавана пад мову класікі Залатога веку, а дыялогі герояў — індывідуалізаваныя і выяўляюць іх асобу.

### Пра банальныя ісціны і рэліктавага настаўніка

Упершыню прачытала твор пра сучаснасць, у якім рэмінісцэнтнасць (ды яшчэ такая канцэнтраваная!) не раздражняла, не правакавала паганенькага жадання "схапіць" аўтара за руку, што прысабечыў чужое і выдае за сваё.

Аўтар сцвердзіў сваю самадастатковасць і ўменне выбудоўваць арыгінальны сюжэт. Прастадушнаму ж чытачу, які не чытаў літаратуру Залатога веку ці помніць яе на ўзроўні *"Татьяна влюбилась в Онегина. Онегин её не любил. Потом Онегин влюбился в Татьяну. Однако запоздал. "Она другому отдана"* (так Стахаў успамінае сюжэт твора, які яго настаўнік ведаў на памяць), — такому чытачу аповесць будзе ўсё роўна цікавай. А калі і западозрыць "плагіят", то, не выключана, пажадае зверыць з арыгіналам. У кожным разе — у накладзе не будзе.

Аўтар здзяйсняе адчайную спробу калі не "рэанімаваць", то нагадаць чытачу банальныя ісціны, якія праз сваю банальнасць не перастаюць быць ісцінамі.

Аўтар да наіўнасці шчыра верыць, што актуалізаваць зацёртыя і забытыя ісціны дапамагла б добрая кніга. І добры настаўнік — як пасрэднік паміж ёю і людскімі душамі. Ён настальгуе па рэліктавым настаўніку,

# тумане эстэтыкі

які *"всего "Онегина" знал (бы) наизусть"*.

У аповесці ажно два вобразы настаўніка рускай літаратуры — галоўны герой Малышаў і эпізадычны, "закадравы" — Мікалай Сямёнавіч. Другі пададзены праз успаміны Стахава. І міжволі падумаеш, што настаўнік тады адбыўся, калі і праз гады вучні будуць згадваць яго сентэнцыі, пастулаты, цытаваць іх. І прастадушны, і кваліфікаваны чытач аднолькава пераканаюцца, што вучань Мікалая Сямёнавіча не толькі згадвае і шматкроць цытуе свайго настаўніка. Сам таго не ўсведамляючы, Стахаў у лёсавызначальныя моманты кіруецца яго пастулатамі.

Даўно няма Мікалая Сямёнавіча, аднак выйсце Стахава з туману асветлена і памяццю пра яго, і яго сэнтэнцыямі.

## Літаратурацэнтрызм і Дон Кіхоты

Мікалай Сямёнавіч апантаны, перапрашаю за штамп, ідэяй літаратурацэнтрызму. Стахаў успамінае яго словы: *"Готов пойти на крест, только бы молодёжь читала книги"*.

Зробім тут невялічкае адступленне, каб засведчыць, што такія, як настаўнік Стахава, Дон Кіхоты, на шчасце, не перавяліся. Рэліктавыя яны, але ўсё ж ёсць сярод нас.

Сёння, калі праблемным стала само існаванне прадмета "Літаратура" ў школьным раскладзе, калі (і тое не фантастыка і не страшылка!) праз якія 3 — 5 гадоў ён увогуле знікне ў школе, прафесар А. І. Бельскі за свае сродкі выдае кніжку з сімвалічна-наіўнай назвай — "Літаратурацэнтрызм". Адзін з нарысаў-разваг пра падручнікі па беларускай літаратуры так і называецца: *"Літаратура можа змяніць свет да лепшага"*. Каб жа так!

Скептыкам і цынікам спляжыць такі пастулат працей простага. Яно і сапраўды: сексуальна заклапочаны вычварэнец пасля канцэрта класічнай музыкі можа адразу накіравацца "на чаяванне". Каб рэалізоўваць праз гвалт "вялікую ідэю" ўратавання "паўночна-заходняга чалавецтва". Іншага ў гісторыі Раскольнікава зацікавіць адно, як той "укакошыў працэнтшчыцу", а потым замятаў сляды. І не задумаецца нават, што як толькі сам задумае пабачыць "леапарда на балконе", усюдыісны Парфірый Пятровіч адразу пачне за ім цікавіць. І абавязкова скажа сваё слова…

Па вялікім рахунку, аповесць Ф. Конева і пра тое яшчэ, што добрая кніга запатрабавана толькі нормай. На пытанне Малышава: *"Вы замечали у русского интеллигента привычку всегда искать сравнение из литературы?"* — Стахаў адказаў: *"Прежде замечал, теперь нет. <…> Теперь классику не читают. Ни Пушкина, ни Гоголя…"*

Без высакароднай звычкі *"искать сравнение из литературы"* не бывае інтэлігента. Такая звычка магла б змяніць свет чалавека да лепшага.

У эпоху дэсакралізацыі і "змяркання літаратуры", у сітуацыі праблематычнага існавання нават адпаведнага школьнага прадмета запатрабаваныя ўжо не Дон Кіхоты, а, так бы мовіць, масавы гераізм інтэлігенцыі, хаця б галіновай. І, безумоўна, саміх творцаў.

## Формула пацалаваных Богам

Пра тое, што не ўсё так добра і ў гэтым "каралеўстве", сігналізуе Ф. Конеў вобразам двайніка безыменнага

> *Фёдар Конеў — кінадраматург. І аповесць яго не проста драматургічная, а, так бы мовіць, "кінадраматургічная". Вобразы — візуальныя, а дыялогі выпісаны па формуле, "вынайдзенай" Рэкемчуком. У. Бярэзін, які вучыўся ў семінарыі Рэкемчука ў Літінстытуце, згадвае такі яго ўрок маладым літаратарам: "Вопрос одного персонажа к другому: "У тебя есть спички?" — имеет право на существование, только если действие рассказа происходит в пороховом погребе". І ў дыялогах Ф. Конева — ніводнай "сцёбнай" фразы, ніводнага лішняга пытання ці праходнага адказу.*

знакамітага артыста — Сяргея Сяргеевіча. Вялікі артыст выконвае на сцэне ролі несмяротных класічных герояў, а ў жыцці паводзіць сябе як мярзотнік. Чым не яшчэ адзін варыянт "падпольнага чалавека"? Сяргей Сяргеевіч скарыстоўвае сваё знешняе падабенства да двухаблічнага скамароха, каб яго правучыць, а заадно ратаваць прэстыж творчай прафесіі, які праз такіх "геніяў" ужо сапраўды ніжэй за плінтус. Аднак марна высільваўся…

Пайшоў Сяргей Сяргеевіч за свайго двайніка да людзей, каб *"сострадать им и любить"*. Такой, паводле Ф. Конева, формулай павінен кіравацца той, хто надзелены Божым дарам.

## Сучасны чалавек на rendez-vous

Шматлікія аглядкі на класічныя ўзоры ў аповесці "Туман" арганічныя і матываваныя: галоўны герой — настаўнік літаратуры. У лепшых традыцыях сусветнай класікі — заяўляць героя як чалавека дзеяння і праз стаўленне да яе выяўляць сутнаснае.

Хранатоп аповесці не дазваляе чытачу пабачыць героя ў справе. Аднак Малышаў згадвае сваіх вучняў, пакутуе і дакарае сябе, што не раз быў *"вынужден говорить правильные слова, тогда как сама жизнь неправильная, <…> в какой-то момент понял, что он никудышный учитель, даже вредный, со своими литературными понятиями, если его ученик Мальков убил собственного деда…"* Ужо год мінуў з той трагедыі, а Малышаў, як зазначыў Стахаў, *"всё не отойдёт"*.

Герой Ф. Конева выяўляецца тым, чым выяўлялі класікі сваіх герояў — найперш стаўленнем да справы і жанчыны.

Чытачу прапануецца сучасная версія, так бы мовіць, "русского человека на rendez-vous".

Сур'ёзным выпрабаваннем для Малышава стала "выпадковая" сустрэча з колішняй каханай — Святланай, з якой яшчэ ў студэнцкія гады жыў гэтак званым грамадзянскім шлюбам.

Жыццёвую калізію Святланы Шчакулін вызначыў так: *"Жадная щука соблазнилась на яркую блесну и оказалась на леске — как ни трепыхайся, а воли не видать"*.

Ва ўнісон гэтаму і аўтарскае параўнанне з лісой, *"по дурости попавшей в капкан. <…> Самой не выбраться из ловушки, воли не хватит перегрызть собственную лапу"*.

Сама Святлана лічыла, што патрапіла ў жорны, *"которые не останавливаются, и надо крутиться, вертеться, вилять и юлить, чтобы мукой не стать"*.

Сустрэчу з Малышавым яна ўспрыняла як шанц вызваліцца ад Мокія і зрабіла ўсё, каб не ўпусціць яго, — цераз усіх пераступіла, нікога не пашкадавала: *"Важно было заронить в сердце нерешительного Малышева чувство долга, а уж всходы будут, потому что почва-то больно благодатная…"* Рэалізаваць напісаны сцэнарый вызвалення з капкана перашкодзіў, як лічыць Святлана, туман.

Туман, аднак, не перашкодзіў, а паставіў перад неабходнасцю зрабіць выбар. Спалучыць, як планавалася, і каханне, і багацце — не атрымалася. І Святлана зноў пагаджаецца на раней абранае, так і не скарыстаўшы шанц не стаць мукой: *"Выбор простой — или ты с ним, но нищая, или со мной, очень богатая. Считаю до трёх"*. З прапанаванага Мокіем Святлана выбрала адпаведнае логіцы заяўленага вобраза. Стахаў так патлумачыў разгубленаму Малышаву ўсё, што здарылася: *"Нельзя рыбу спасать от щуки, вытащив их из воды. Агапова вернулась в свою среду. И вашей вины нет"*.

Туман развеяўся… Для адных герояў ён сапраўды быццам выйшаў з зямлі: *"В аду же день и ночь кипят котлы, клубами извергая густой пар. Куда ж ему деваться, пару, когда своды котельных низкие? Это ж не храмы"*.

Для другіх — "ниспосланный с небес" дапамог развязаць вузлы, *"расставить все точки и запятые"*. Малышаву — адказаць на адрасаванае самому сабе пытанне, дзеля чаго ён патрапіў у гэты туман. Дапамог адчуць чужы і далёкі боль, які апёк сорамам: *"В эти минуты Малышев уже понял и признал, что соблазнился… взял грех на душу… позарился на чужие деньги, чтобы ловчее и удобнее устроить свою жизнь. <…> Боже милый, как же стыдно бывает за себя!"*

## Прайсці праз туман

Раней Малышаў не раз паўтараў: *"Надо жить честно. Жить по совести"*. І шчыра верыў, што адпавядае такому простаму пастулату Нормы. Да сітуацыі туману насамрэч так і было.

Туман правёў Малышава праз самае цяжкае для любой нормы выпрабаванне — выпрабаванне спакусамі. *"Гора таму, праз каго прыходзяць спакусы"*, — папярэджваецца ў Евангеллі. Але гора і таму, праз каго яны праходзяць. Малышаў пераканаўся, што ў сітуацыі туману найцяжэй за ўсё адпавядаць якраз пастуляванай ім норме, — і *"соблазнился… взял грех на душу…"*

У кожнага будзе сваё прачытанне аповесці Ф. Конева. Для мяне яна — пра тое, без чаго *"нарушается гармония и человеческая природа становится уродливой"*.

> *У аповесці ажно два вобразы настаўніка рускай літаратуры — галоўны герой Малышаў і эпізадычны, "закадравы" — Мікалай Сямёнавіч. Другі пададзены праз успаміны Стахава. І міжволі падумаеш, што настаўнік тады адбыўся, калі і праз гады вучні будуць згадваць яго сентэнцыі, пастулаты, цытаваць іх. І прастадушны, і кваліфікаваны чытач аднолькава пераканаюцца, што вучань Мікалая Сямёнавіча не толькі згадвае і шматкроць цытуе свайго настаўніка. Сам таго не ўсведамляючы, Стахаў у лёсавызначальныя моманты кіруецца яго пастулатамі.*

Не выключана, што "Туман" Ф. Конева будзе "разганяцца" трасірнымі кулямі выбітных крытыкаў. Не бяды! Крытыка заўжды другасная. На ўспрыманне такога, як я, прастадушнага чытача, яна не паўплывае. А па сённяшнім часе прастадушнае чытанне добрай кнігі дарагога варта.

## Universum

# У паэтаў крылаў мноства

Віка ТРЭНАС



*Першая кніга паэта — як першы дзень вясны: мусіць зачароўваць цёплым подыхам ветру, абвяваць свежасцю вобразаў і рыфмаў, дарыць асалоду ад абноўленых пасля зімы сонечных промняў. Гэта калі казаць узнёсла і рамантычна. Разважыўшы больш проста — прыземлена і рацыянальна, атрымаем формулу поспеху, нечым падобную да той, што ёсць у спорце. Літаратурны дэбют — як добры старт: павінен быць яркі, дакладна прадуманы і прафесійна выверany. Тут, дарэчы, без строгага рэдактара-"трэнера" не абысціся. Кар'ера кожнага творцы — чарговання галавакружных поспехаў і катастрафічных няўдач. Паэты — неверагодна датклівыя. Іх тонкія душэўныя тканкі чуйна рэагуюць на любую яскравую эмоцыю. Будзьце гатовыя да ўсяго, літаратары-пачаткоўцы! Асабліва дзяўчаты. Літараткі. Паэткі.*

## Удачны дэбют і адвечны гендар

Існуе ці не існуе падзел на жаночую і мужчынскую літаратуру — дыскутаваць не будзем, бо гэта тэма асобнага шматстаронкавага даследавання. Затое дакладна ведаем узор добрай сучаснай паэзіі аўтара-дзяўчыны, і нават не адзін. Аднак сёння, пераглядаючы кніжныя навінкі, спынімся менавіта на зборніку гомельскай маладой паэтэсы Ганны Новік.

У імені, пазначаным у кнізе "Суметы агню", ужо заключана гендарнае пытанне. Якое? Адказ просты: аматары высокай паэзіі ўжо некалькі гадоў на старонках нашай перыёдыкі захапляюцца вершамі Ганны Гарбуновай і добра яе ведаюць. Цяпер галоўнае, каб чытачы і крытыкі не забыліся на тое, што гэта адна і тая ж асоба, якая проста змяніла разам з сацыяльным статусам сваё літаратурнае імя. Але ў творчасці, як кажуць, з рэбрэндзінгам, са зменай імені трэба быць асцярожным — рынкавыя законы прыжываюцца і ў паэзіі, а новы псеўданім можа ўвесці ў зман публіку. Каб радкі паэткі і перакладчыцы Юліі Новік не паблыталіся ў чытацкай свядомасці з вершамі Ганны — тым болей, што дзяўчаты фактычна з аднаго літаратурнага пакалення (праўда, Юлія дэбютавала раней). Зрэшты, Салігорск і Гомель, "Сонца за тэрыконамі" Юліі і "Суметы агню" Ганны — запомнім розніцу.

## Верны пачатак — слушны працяг

Як правільна арганізаваць выданне першай кнігі паэта? Галоўнае — заручыцца падтрымкай прафесіяналаў і забяспечыць сабе надзейны літаратурны тыл. Вучыцеся ў Ганны. І без таго якасныя і прыемныя ва ўсіх адносінах вершы падмацаваныя ў кнізе (увага!):

— досыць падрабязнай біяграфіяй;

— дзвюма аўтарытэтнымі прадмовамі (Ніны Шкляравай і Марыны Аммон);

— рэдакцыйнай калегіяй у складзе пяці чалавек (пісьменнікаў, дзеячаў культуры Гомельшчыны);

— графічнымі малюнкамі Людмілы Бойка і дызайнам Наталлі Пушкаровай.

## Навідавоку

Алег ЖДАН

# Яны наступаюць!

Трэба прызнаць, што інтэлектуальнай дзейнасцю ў нас у асноўным займаюцца жанчыны. Паглядзіце хоць бы на экран тэлевізара: жанчыны выступаюць, жанчыны слухаюць, жанчыны вучаць і вучацца, жанчыны абураюцца, плачуць або смяюцца. Мужчыны, якія разгублена сядзяць побач, відавочна пачуваюцца не ў сваёй талерцы.

Калі падлічыць, колькі аўтараў-жанчын апублікаваліся за год, да прыкладу, у часопісе "Нёман", аўтарам-мужчынам стане сумна. А калі падлічыць, колькі прыйшло ў рэдакцыю рукапісаў, — пагатоў. Не мае значэння, што большая частка гэтых рукапісаў не была змешчана ў часопісе, галоўнае — тэндэнцыя. Яна адназначная: жанчыны наступаюць. З вялікімі стратамі, вядома, але адважна й рашуча. Стратэгія ў іх адна — заваёва літаратуры. Тактыка, зразумела, розная. Адны аддаюць перавагу доўгай аблозе, другія — псіхічнаму наступу, трэція — інтэлектуальнаму штурму, чацвёртыя — асабістым чарам, пятыя… Увогуле, тактыка ў кожнага аўтара свая. Пішуць вершы, прозу, крытычныя і праблемныя артыкулы, успаміны… Пішуць пра каханне й нянавісць, пра мінулае і будучыню… Вось толькі пра секс пішуць менш за мужчын. І не таму, зразумела, што менш разумеюць у гэтым мастацтве, проста пакуль яшчэ — больш цнатлівыя.

Але чаму, для каго яны, жанчыны, пішуць так шмат і, часам, добра?

Мяркую, што пішуць яны для нас, мужчын. Для таго, каб мы не пісалі, а чыталі, падвышалі свой інтэлектуальны ўзровень, каб не хадзілі па рэдакцыях, а сядзелі дома і выхоўвалі дзетак, каб, урэшце, зараблялі грошы для сям'і, а не рыпелі пёркамі (не ляпалі па клавіятурах)… Каб яшчэ раз давесці сабе і свету: яны не толькі прыгожыя, але і таленавітыя!

Як вядома, мужчыны ад жаночай прыгажосці п'янеюць. Адгэтуль усялякія задавальненні й непрыемнасці. Ад жаночага розуму і таленту цверазеюць. Адсюль таксама радасці і засмучэнні. Такая вось дыялектыка. Але што рабіць, калі і нам хочацца неяк выяўляць сябе?

Ёсць, ёсць выйсце! Калі ласка, калегі, — хакей, футбол, бокс, цяжкая атлетыка, каратэ, ушу, таэквандо... Аднак паспяшаемся: ужо і тут з'явіліся прыўкрасныя дамы!


Вера Міхно

* * *
*Расцвіў усход маёй ружовай марай,*
*Магічна выплывае сонца шар,*
*Прачнецца, скіне чорнай ночкі чары*
*І, як бутон, раскрыецца душа!*

* * *
*Як з гурбы падталай,*
*вачэй*
*горкіх слёз ручаіны.*
*Ад тлену і цвілі*
*ратуючы птушку-душу,*
*З грудзей я дастану,*
*вышэй*
*у нябёсы падкіну,*
*У сонечных промнях*
*праветру яе, абсушу,*
*Каб звонкаю песняй*
*яна залівацца хацела,*
*З пагардай глядзела,*
*махаючы вольным крылом,*
*На гэта зямное,*
*на гэта балючае цела,*
*Што цеснаю клеткай*
*для райскай птушкі было.*

* * *
*Як тая дойная карова,*
*На сонцы ў гурбе снег вясновы*
*Сачыцца вільгаццю пачаў.*
*І быццам вымя сысункі,*
*Ссуць гурбу прагна раўчукі*
*І задаволена цурчаць.*

## Мімоза

*Жаноцкасць і пяшчоту ўвасабляе*
*Мімоза.*
*Дзень адзін цвіце ўсяго.*
*Ды водар той,*
*як лёгкі эльф,*
*лунае*
*Ў жаночых летуценнях*
*цэлы год.*

* * *
*Відовішча!*
*Дзіва дзіўнае:*
*Над стужкай жалобнаю лесу*
*На небе зліпося ў адзінае*
*Чырвонае,*
*жоўтае,*
*сіняе,*
*А воблака колеру бэзу*
*Заморска-містычнаю птушкай*
*Раскінула крылы на ўзлёце…*
*І цяжка згадзіцца мне з думкай:*
*За гэтым касмічным малюнкам —*
*Твар*
*белага дня*
*на зыходзе.*

* * *
*Як набяжыць —*
*так трэба жыць,*
*Хвілінай кожнай даражыць.*
*Удзячным сонцу быць і Богу*
*За цеплыню, за дапамогу.*
*Уранні ўстаць —*
*увечар легчы*
*І не стагнаць,*
*што ломіць плечы.*
*Нібыта пчолка, завіхацца.*
*Паменш злаваць — пабольш смяяцца.*
*Хоць лашчыць лёс,*
*а хоць у лоб б'е,*
*Стаўляць не кропку,*
*а шматкроп'е!*

* * *
*Калі ты паэт,*
*Тады словам адным*
*Павінен раскрыць пачуццё!*

*Калі ты паэт,*
*У радок ты адзін*
*Павінен укласці жыццё!*

*Калі ты паэт,*
*Дык у вершы адным*
*Павінен змясціць цэлы свет!*

*Тады ты паэт!*

* * *
*Вера маё імя.*
*Веру! Усё мацней!*
*Веры ў душы няма —*
*Значыць, няма мяне.*

*Веру: у моц дабра,*
*У прыгажосці цуд…*
*Каб не пражыць дарма,*
*Верую ў Божы суд.*


*Фота Кастуся Дробава*


Людка Сільнова

## Мегаполіс у снезе

*Палюбіць можна ўсё што заўгодна:*
*Тое і гэта, да чаго прывык.*

*Дзесьці жыць можа й больш выгодна,*
*А я люблю белы горад Мінск.*

*Яго ў абдымках сціскае снег:*
*Нябёсаў пухкіх праўвеўся мех...*

## Галубок на трамвайным прыпынку

*I.*
*Усё добра, усё да ладу.*
*Галубок колеру малочнага шакаладу*

*Да мяне падляцеў –*
*І ваду з лужынкі п'е...*

*II.*
*"Пэўна, у натоўпе*
*Адна я такая,*
*Хто галубка*
*Кожны рух заўважае,*
*Зрокам —*
*На тоненькай*
*Ніцты трымае..."*
*Вось і званок*
*Маладога трамвая!..*

*III.*
*Усё добра, усё да ладу.*
*Прайшлі наперад увайшоў хто ззаду.*

*Уладкаваліся пасажыры.*
*Селі й на сумках рукі зламжылі...*

*IV.*
*"Галубок колеру малочнага шакаладу..."*
*Ноччу – адкрыю з паперай шуфляду,*
*І замалюю — словамі, рыскамі —*
*Твой мілы вобраз з дарогі слізкай...*

## Верш, напісаны за кубачкам кавы

*Чаму люблю я водар кавы?*
*І смак, салодкі і гаркавы,*

*І колер згушчаны яе,*
*З якога Тайна паўстае —*

*Далёкіх земляў і дарогі,*
*Людцоў, аголеных і ўбогіх,*

*Красы някроеных тканін*
*І храмаў, дзе курыцца дым?..*

*Мне цемнавокі бог Усходу*
*Нібы ўсміхаецца здалёку —*

*І гэтым самым вестку шле*
*Пра міласць тым, хто каву п'е.*

## Скалалазка

*Па жыцці нясу адзін рыштунак:*
*Рыфмы слоў, і колераў, і думак...*

*У гарах, куды заўжды імкнуся, —*
*Рэха*
*зноў*
*гуканай Беларусі!*
*Не паэтка я, а скалалазка;*
*Віртуальнасць вабіць, а не казка.*

*Чысты снег...*
*так сляпіць...*
*на вяршынях!*
*Паўтарыцца тут, а не загінуць.*

## Белы кодэкс

*"Пушкін, мне дапамажы!*
*Як далей жыць, раскажы", —*

*Лашчу твой тамок бялюткі,*
*Дзе Фаворскага малюнкі…*

*Сорак год таму назад,*
*Як звінеў Крыштальны сад,*

*Залай, поўнае народу,*
*Мне ўручылі ўзнагароду —*

*"Вершы" Пушкіна...*

*Тады*
*Я не знала: праз гады*

*Буду зноў чытаць старонкі —*
*Усклікаць і плакаць звонка...*

*"Пушкін, мне дапамажы!*
*Як далей жыць, раскажы..."*

*Ты ўсё ведаў. Нават гэта:*
*Дамы лёс — не лёс Паэта.*

## Сняжынкі

*Здалося, усе мы — сняжынкі,*
*Вільготныя парушынкі…*

*Нябачная добрая сіла*
*Зямельку прыцерусіла.*


Марыя Дзюбак

* * *
*Мора кветак у падарунак.*
*Свята душы.*
*Песню шчасця спяваюць струны,*
*Песню ў цішы.*

*Таямнічасць нявестаў-яблынь.*
*Пчол мітусня.*
*Светла. Вяснова. Слаўна.*
*…Боль не суняць.*

* * *
*Няхай жыве жыццё —*
*Наш баль, наш вечны рух.*
*І валадарыць пачуццё*
*Над стынню завірух.*

*І гэты баль чакае нас*
*У танцы закружыць,*
*Бо нам даецца толькі раз*
*Кахаць, тварыць і жыць.*

* * *
*Такой глыбокай цішыні*
*Здзівіліся бярозкі белыя.*
*Іх вецер не кране ані.*
*Стаяць пяшчотныя, нясмелыя.*

*Стары гасцінец задрамаў,*
*А месяц зоркі закалыхвае.*
*Людзей няма. Машын няма.*
*Мой адвячорак — восень ціхая.*

* * *
*Глыбіня вачэй.*
*Ранне ўсё зырчэй.*
*Дотык моцных рук.*
*Сэрцаў згодны стук.*

*Толькі ты і я,*
*Ды бяроз сям'я.*
*Птушак пераззвон.*
*Любы твой палон.*

*І маліны смак*
*На тваіх губах.*
*Спелых ягад пах.*
*І дарог працяг.*

*Свежасць, чысціня*
*На пачатку дня.*
*Нас сюды з табой*
*Прывяла любоў.*

* * *
*Міг чысціні нябеснай*
*Раптам становіцца песняй.*
*Яркія блікі праменняў —*
*Музыкай летуценнай.*
*Твой пацалунак першы*
*Шчырым становіцца вершам.*
*Душа, сагрэтая ласкай,*
*Верыць у добрую казку.*

* * *
*Зачасцілі штосьць дажджы,*
*Нават ліўні.*
*Аб вясёлым мне кажы,*
*Аб шчаслівым.*

*За дажджамі прыйдзе зноў*
*Сонца лета,*
*Час дзівосных, светлых сноў,*
*Руж-букетаў.*

*Час сунічнай смакаты,*
*Сенакосу.*
*Мне ўначы даруеш ты*
*Зорны россып.*

## Мастак і кніга

# Рыта Цімохава: «Не працую пад музыку»

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



У майстэрні Рыты, якую яна дзеліць з мужам, мастаком Сяргеем Цімохавым, шмат дыскаў. А на пытанне, пад які ахвотней працуе, мастачка адказвае:

— Я не магу працаваць пад музыку, яна мяне літаральна перабівае. Проста заслухаешся — і ўсё, выпадаеш з ідэі. Выключэнне магу зрабіць толькі для Моцарта, ды і то на завяршаючым этапе работы. Увогуле, у майстэрні працую мала — больш часу дома, у перапынках на штодзённыя жаночыя клопаты.

**— Рыта, што паўплывала на ваш выбар прафесіі?**

— Маці была бібліятэкарам, прыносіла ўсе новыя паступленні, мне падабаўся "Рабінзон Круза", дзіцячыя вершы. Маці захаплялася паэзіяй Якуба Коласа, я таксама лічу яго творчасць вельмі маляўнічай, вобразнай. Ужо ў шостым класе вырашыла, кім буду. Вельмі рацыянальна падышла да гэтага пытання: "Што я люблю больш за ўсё на свеце? Чытаць. А яшчэ — маляваць. Таму я стану мастаком, які робіць малюнкі для кніг".

**— Чым запомніліся першыя крокі на абраным шляху?**

— Каб трапіць у школу-інтэрнат, трэба было здаць складаныя экзамены: малюнак, жывапіс, кампазіцыю, дыктоўку і матэматыку. Вельмі насычаная была праграма, цікавыя выкладчыкі, якія не не "загружалі" лішнімі ведамі.

Першыя малюнкі рабіла для часопіса "Бярозка" — звярнулася да мастацкага рэдактара Пятра Драчова: "Хачу паступаць у Маскоўскі паліграфічны інстытут, мне патрэбны публікацыі". А ён прапанаваў ехаць вучыцца не ў Маскву, а ў Львоў, дзе людзі бліжэй да нас па менталітэце. Чамусьці там экзамены здавалі раней, мне прыйшлося сесці за ўкраінскія падручнікі, каб праз тыдзень усё здаць, кнігі і алоўкі бацькі перадавалі мне цягніком з Мінска — быў час, калі на месцы купіць нічога не было магчыма. Разам вучыліся масквічы, кіяўляне, мінчане...

**— Раскажыце, як трапілі ў Мінск?**

— Адразу па размеркаванні мужа паехалі ў Гомельскую вобласць, пасля перабраліся ў Наваполацк. Потым Сяргей стаў галоўным мастаком Полацка. Знайшоўся спонсар — і ў нас была свая галерэя, у якой рабілі выставы і мінчане, і масквічы. Але пачалася перабудова, за арэнду прапанавалі плаціць, і ад галерэі нам давялося адмовіцца. Я стала супрацоўнічаць з выдавецтвам "Юнацтва". Гэта быў шчаслівы час: галоўным мастаком працаваў Мікалай Казлоў, у выдавецтва прыходзілі такія слынныя асобы, як Мікалай Селяшчук, Валерый Славук, Уладзімір Савіч. Я пазірала на іх знізу ўверх!

Але хутка зразумела, што па заказы ў Мінск не наездзішся, трэба перабірацца сюды на пастаяннае месца жыхарства. Так мы і апынуліся ў сталіцы.

**— На апошнім вернісажы ў галерэі "Беларт" вы выступілі не толькі як кніжны графік.**

— Кніжная графіка не тое, што можа выстаўляцца асобна. Кожная ілюстрацыя падпарадкавана тэксту, мастак робіцца сааўтарам. Кніга будуецца па сваіх законах. Пяць гадоў таму паспрабавала не на заказ, для сябе зрабіць каляровыя ілюстрацыі да апавяданняў Яна Баршчэўскага. Наш нямецкі знаёмы стаў выстаўляць іх у Германіі. І я пачала рабіць самастойныя працы. Стварыла кнігу пра птушак, якая можа разбірацца на асобныя аркушы. (Кожны з іх — самастойны мастацкі твор. — *В. П.*)

Цяпер я чаргую: калі надакучылі карціны, бяру заказ на кніжку. Ахвотна супрацоўнічаю з РВУ "ЛіМ". Пазнаёмілася з мастачкай з Грэцыі, якая рабіла тут выставу, яна дала мне каардынаты 60 афінскіх выдавецтваў. Я разаслала туды партфоліа — і вось прыватнае сямейнае выдавецтва "Алена Патакі" прапанавала мне аформіць кнігу трох казак Манаса Кандаліона пра каштоўныя камяні: дыяменты, жэмчуг, смарагд. Я зрабіла два варыянты аздаблення, ім спадабаўся менш яркі. Аказваецца, у нас зусім рознае ўспрыманне колераў. Так-так, розныя народы па-рознаму ставяцца да колеравай гамы, відаць, гэта ў многім залежыць ад клімату. Ды і казкі ў нас розныя.

**— Мне здавалася, што мова малюнка, ды і казкі, — мова ўніверсальная.**

— Уявіце сюжэт: раніцай за сняданкам галава сям'і разгортвае газету і даведваецца, што пачалася вайна. І ён ідзе на вайну, а ворагі прыходзяць у яго дом і забіраюць з сабою малодшага сына. Калі падрастае старэйшы сын, ідзе шукаць брата. Не знаходзіць, вяртаецца — і не застае маці ў жывых. І толькі вочы яе, якія яна выплакала ад гора, ператварыліся ў дыяменты. І ў іншых казак сумны фінал, не такі, як прынята ў нашых казках, якія заўсёды заканчваюцца шчасліва. Цікава было працаваць з беларуска-нямецкім зборнікам "Казкі дзяцей Беларусі", асабліва шчырыя творы напісалі самыя маленькія ўдзельнікі конкурсу.

**— Апошнім часам часта гучыць думка, што папяровая кніга знікне пад уціскам электронных выданняў...**

— Калі з'явілася кіно, хавалі тэатр. Але сёння ўсім зразумела, што тэатр і кіно — зусім розныя жанры. Чалавек, які ўсведамляе, што такое мастацтва кнігі, без кнігі абыходзіцца не зможа. Сапраўдны рарытэт выпраменьвае энергію і заўсёды прываблівае, не можа "не чапляць" гледача. Калі не назіраецца гэтай зваротнай сувязі, работа зроблена без душы. Ці калі ідзе адмоўная энергетыка — такую работу не хочацца павесіць у сябе дома. А калі нешта зроблена з душою, адразу відаць.

Тое, што кніга будзе, — адназначна. У чалавека неабходнасць патрымаць у руках нешта такое, жывое.

**— Але з чаго пачынаць выхоўваць чытача, які раней зразумее, што такое мастацтва кнігі?**

— З добрага дзіцячага выдання.



*Ілюстрацыі Рыты Цімохавай да кнігі Манаса Кандаліона "Легенды пра чароўныя камяні".*

### Візітка

**Рыта Цімохава нарадзілася на Віцебшчыне. Скончыла Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя В. Ахрэмчыка, факультэт кніжнай графікі Львоўскага паліграфічнага інстытута.**

**На штогадовым конкурсе "Мастацтва кнігі" аздобленыя ёй выданні адзначаны шматлікімі ўзнагародамі: дыпломамі І ступені за падручнік па чытанні "Буслянка", зборнік вершаў для дзяцей "Я — чалавек" ("Юнацтва", за гэту ж кнігу — узнагарода за лепшыя ілюстрацыі для дзяцей), кнігу вершаў Леаніда Пранчака "Мама, тата і Агата" ("Мастацкая літаратура"); ІІ ступені — за ілюстрацыі да кніг Г. Х. Андэрсена "Чароўныя гісторыі", У. Карызны "Чароўнае вочка", Г. Тумаша "Лісіца з Расохі". Удзельнічала ў конкурсах-біенале "Залаты яблык" у Браціславе, міжнародным конкурсе ілюстрацый у Партугаліі, выставе-турнэ па гарадах Японіі, двойчы ўзнагароджана "Залатым пяром Бялграда".**

## Пад вокладкай

Марына ВЕСЯЛУХА



**Шміт, Катрын. Ты не памрэш / Катрын Шміт; пер. з нямецкай Бахарэвіч, А. — Мінск: Макбел, 2011. — 264 с.**

Гелена Вендзаль прыходзіць у прытомнасць у бальніцы. У яе правалы ў памяці, яна амаль страціла здольнасць размаўляць і кантраляваць сваё цела. Па дарозе назад да жыцця яна сутыкаецца з чужой жанчынай, якою была некалі сама, са шлюбам на мяжы разрыву і дзецьмі, якія гатовы былі ісці сваёй дарогай, але цяпер, заблытаўшыся, спыніліся. Раман Катрын Шміт у 2009 годзе ўзнагароджаны Нямецкай кніжнай прэміяй за лепшую кнігу года.



**Зарэцкая, Ю. Ф. Шчаслівыя людзі: кніга сатыры і гумару /Юлія Зарэцкая; маст. Аляксандр Каршакевіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 224 с.**

"Шчаслівыя людзі шукаюць каханне вільготнай ноччу…" — гэтыя радкі з песні беларускага гурта "Mauzer" прыгадваюцца адразу, калі бярэш у рукі кнігу Юліі Зарэцкай. Але кніга, у адрозненне ад песні, поўніцца гумарам і аптымізмам. І ў цэлым зборнік гумарыстычных апавяданняў, замалёвак з натуры, сатырычных п'ес — досыць рэдкая ў наш час з'ява. Кніга ж галоўнага рэдактара альманаха "Вожык" падаецца яшчэ больш цікавай: творы, што ў яе ўвайшлі, аўтарка пісала на працягу дзесяці год, таму зборнік дазваляе здзейсніць гумарыстычнае падарожжа ў часе.



**Салодкая, Н. Месца пад сонцам. / Надзея Салодкая. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2010. — 172 с.**

Зборнік вершаў палачанкі Надзеі Салодкай з прадмовай яе земляка Навума Гальпяровіча і мастацкім афармленнем Нінэль Шчаснай завяршае серыю кніг выдавецтва "Чатыры чвэрці", прысвечаную гораду Полацку — культурнай сталіцы Беларусі 2010 года. Для паэткі, як і для ўсіх стваральнікаў кніг гэтай серыі, Полацк — крыніца натхнення. Кожны з іх па-свойму ўспрымае гэты горад, але ён з'яўляецца вытокам іх любові да роднага краю, светлым прытулкам душы, тут пачынаецца адчуванне прыналежнасці да сівой полацкай даўніны, да велічы і мудрасці продкаў.



**Эррера, Х. Фрида Кало / Хейден Эррера; пер. с англ. К. Сошинской. — Москва: Эксмо, 2011. — 544 с.**

Калі кніга мастацтвазнаўцы і біёграфа Фрыды Кало Хейдэн Эрэры ўпершыню пабачыла свет у 1983 годзе, пра саму мастачку мала ведалі за межамі Мексікі. Пасля выхаду гэтай біяграфіі творчасць Фрыды атрымала міжнароднае прызнанне, а на радзіме мастачкі, у Мексіцы, яе карціны былі абвешчаны нацыянальнай спадчынай. Незвычайна жывая і яркая біяграфія вядомай мексіканскай мастачкі — гісторыя бунтарскага мастацтва, рамантычных перакананняў, эксцэнтрычных любоўных сувязей і бясконцых фізічных пакут.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89**



Тамара ЛЯЛІХАВА

# Позняе каханне

## *Апавяданне*

Лагода, як жамчужная ванна, агарнула сцішанай, светлай радасцю, і я, прыспешваючы крок, вярталася ў жаданую ўтульнасць свайго пакоя. Падаў рэдкі снег, велічна, замаруджана. Здавалася, нібы ў кожнай сняжынцы стаіўся ледзь бачны ліхтарык, які мільгае, сцелецца святлом перад вачыма. Скупыя аснежаныя пушынкі ападалі на адзенне і павольна раставалі. Мяне паклікалі:

— Пачакайце, можна вас на некалькі слоў?

Я прыпынілася. Да мяне падышла даволі прыгожая жанчына. Зграбная, стройная, з правільнымі рысамі твару. З-пад шапачкі сцякалі на плечы цяжкія валасы каштанавага колеру. Карыя, з зеленаватым адценнем вялікія вочы ўглядаліся ў мяне і быццам гаварылі: "А я вас ведаю…"

Нарэшце жанчына падышла і прамовіла:

— Кажуць, вы добра спяваеце. Вось і на вечарыне чула, як вы спявалі.

— А што вы хацелі?

— Дык вось… Нас запрашаюць на навагоднюю вечарыну. Там трэба паставіць сцэнку і… паспяваць, канечне ж. Можа, вы б прыйшлі на рэпетыцыю?

— З задавальненнем!

І раптам у маёй галаве прамільгнула думка: "Я даўно ведаю гэты голас, але жанчыну я не ведаю". Голас жа ўскалыхнуў глыбіні памяці з майго юнацтва. Супакойлівы, роўны голас, з нейкім пяшчотным тэмбрам. Я яе спытала:

— Скажыце, а ў вас часам няма сястры… Эміліі? Яна яшчэ настаўніцай працавала.

Жанчына адказала:

— Ёсць. Мая сястра, мая Эмілія.

— А як ваша прозвішча? Не Камароўская?

— Камароўская, Камароўская! А адкуль вы ведаеце маё прозвішча і маю сястру?

— Ды я па тэмбры вашага голасу пазнала, што вы і ёсць Камароўскай Эміліі сястра. Пяцьдзясят гадоў таму я з вашай сястрой вучылася ў Крычаўскім педвучылішчы. Мы з ёй спявалі ў хоры, ансамблі, адным словам, сябравалі. Ваш голас — гэта ж яе голас, які і разбярэдзіў маю душу. Знаёмы да болю, ён вярнуў да мяне далёкае юнацтва. Адно я не ведаю, якая вы сястра Эміліі — Яніна ці Антаніна?

Прыгожая жанчына адказала:

— Яніна, самая малодшая ў сям'і. А вы раптам не Шандоўская Насця?

— Я! Вось дзівосы! Пяцьдзясят гадоў мінула, а голас вашай сястры я не забыла, так ён нагадвае ваш.

Мы вельмі ўзрадаваліся гэтай сустрэчы і больш ужо амаль не развітваліся, нібы зросліся ў адно. Разам хадзілі на вечарыны, на рэпетыцыю, прысвечаную навагодняму святу. Нам выдалі цыганскія касцюмы і словы для сцэнкі. А потым палілася і сама песня — мая, гарачая, цыганская. І не супакойвалася зала, узрушаная сваімі ж нястомнымі далонямі… Мы з Янінай селі адпачыць, каб наноў узгадаць, якія бываюць сустрэчы. Спрадвечная, неразгаданая таямніца сустрэч. Яніна таксама спявала ў той вечар, чаравала сваім дзівосным, быццам аксамітавым, голасам. Загучаў, аклікнуў вальс. І раптам з-пад ёлкі, як з небыцця, узняўся мужчына і ўпэўненай хадой пакіраваў акурат на нас. Я ж паспела прашаптаць Яніне:

— Глядзі, як бяжыць да нас нейкі мужчына, вырас з-пад ёлкі, нібы чорт з табакеркі.

Мы засмяяліся. Мужчына прыпыніўся якраз насупраць мяне, схіліўся і запрасіў на вальс. Я паднялася. Ён працягнуў руку, каб прыняць маю. І як толькі судакрануліся нашы далоні, уся мая істота здрыганулася ад радасных хваляў току, што агортвалі, бегалі ад далоняў да сэрца, а затым да галавы і ног. Мы лёгка закружылі ў танцы. Ён танцаваў так нязмушана, так свабодна, быццам нёс мяне, засцерагаючы сваёй постаццю ад усялякай непрытульнасці, гаркоты гэтага свету. І я, здавалася, зведвала вастрыню палёту ў яго абдымках, якія былі ўжо такімі роднымі, неадчужанымі. На душы было так радасна, мы кружылі, кружылі… Было чуваць, як напружана б'ецца яго сэрца, і я папрасіла мужчыну больш не кружыць, прыпыніцца. Ён уважліва паглядзеў на мяне. Густыя бровы выдавалі блакітныя-блакітныя вочы, поўныя нейкай таемнай сілы. Там, у тым васільковым возеры вачэй, мільгала нязведаная іскра, загадкавая і чароўная. Ён быў вясёлы, смяшлівы. О, яго вочы… Васількі ў жыце, што зіхацяць асаблівым сінім святлом на зыходзе дня. Той пагляд агнём прайшоў праз маю душу, абпаліў, зацягнуў у непадуладную далеч і назаўсёды ўвабраў у сябе мой адвечны спакой, быццам без стуку ўварваўся ў мае прасторы. І я адчула, быццам не паспела зачыніць дзверы. Нейкае адчуванне віны перад сабою. Але ж ураган быў занадта моцны, каб не прызнацца сабе, не скарыцца перад думкай, што аніякія дзверы не ўтрымалі б яго набліжэнне, надыход *таго* шчасця… А яшчэ я зразумела, што гэта і ёсць тое самае каханне, пра якое пішуць вершы, спяваюць песні. Неяк ніямка перад сабой. Узрост… Пэўна, да мяне даўно падступіўся той час, калі душа ціха мроіць супакоем, просіць быццам прысесці, дастасаваць дыханне да нястрымнага жыцця. А тут… прыйшло гэтае нечаканае каханне. Нечаканае каханне, пасланае Богам, каб узняць мяне над прорвай гора, адзіноты і непрытульнасці, над штодзённай мітуснёй. І адкрыццём праляцела думка, што яго вочы — гэта проста расквечаны блакітам дзень, які і абудзіў мяне пасля цяжкага сну і наканаваў непазбежна радавацца жыццю. Быццам другая маладосць, пакліканая ратаваць мяне… Нараджаліся, вырываліся на волю вершы — няўмольныя сведкі майго адраджэння.

Раніцай ён пастукаў да мяне ў дзверы. Я адчыніла, і вочы, запаленыя радасцю, выхапілі тры гваздзікі ў яго руках. Ён працягнуў іх мне і спытаў:

— Чым ты займаешся?

— Ствараю сабе неўміручасць, — усміхаючыся, адказала я.

— А што гэта за кніга ў цябе?

— Мае вершы.

— Дай, калі ласка, пачытаць.

Я пагадзілася. І тут ён сказаў, што дужа спяшаецца дамоў, а кнігу прынясе, як толькі прачытае. І пайшоў… Мне ж хацелася супакоіць, сагрэць у сваіх абдымках цэлы свет і крычаць, крычаць: "Людзі, я вас люблю! Люблю гэта неба! Люблю гэта сонца! Люблю гэты снег! Люблю гэту зіму!" І зноў цішком агарнула мяне думка: маё позняе ратоўнае каханне найперш паўстае перада мной не вясной і нават не восенню, а зімой. Так, зімою. Але прыняцце гэтай думкі адгукнулася непазбежным, глыбокаўсвядомленым болем, народжаным прадчуваннем, прароцтвам пра тое, што гэтае каханне — сапраўднае, жывое, ды не прынясе мне шчасця, бо яму наканаваны кароткі век. Я адганяла прэч, перахоплівала дыханне гэтай думцы. Боль захлынаў, раствараў у сабе ўсю маю сутнасць. І дзесь на скрываўленых згібах душы прамаўляліся вершы:

*Калі надыдзе час зямной разлукі,*
*Прыеду я на попел паглядзець.*
*Ты дзесь на небе ўспомніш мае рукі,*
*Камін душы,*
*што нас не змог сагрэць…*

У страшным прадчуванні я адкінула гэты верш у бездань кніг на стале і адраклася дапісваць, правіць заўчасна народжаныя радкі. Народжаныя на згубу. Я чакала яго. Чакала раніцай, удзень, увечары… Думала пра яго, а ён быццам наўмысна марудзіў. І перад самым маім ад'ездам, а сёмай гадзіне раніцы, я пачула сцішаны, асцярожны і ўжо такі знаёмы і дарагі стук. Нават дзверы пазналі яго, такога зачаканага, роднага, патрэбнага. Ён стаяў з маёй кнігай у руках. Пераступіў парог, працягнуў мне кнігу і сціпла, але шчыра пахваліў мае вершы. Вяртаў мне іх з нейкім сакральным трымценнем, быццам саграваў іх у сваіх руках, не могучы адарваць ад сябе, выправіць у няўхільную дарогу. І каб перарваць тое недарэчнае расстанне вершаў і чалавека, я падпісала яму сваю кнігу і падарыла:

*Прыміце часцінку душы*
*І сонейка промень гуллівы.*
*А я… дзесьці там — на мяжы,*
*Дзе шчасце знаходзіць шчаслівых…*

Ён пакінуў свой адрас і тэлефон. Сказаў, што жыве адзін, і як быццам нягучна, без слоў папрасіў раздзяліць сваю адзіноту. А пасля хутка, як заўсёды, спешна пайшоў. Я ж выпраўлялася дамоў. Суседка па пакоі правяла мяне да аўтобуснага прыпынку, дзе ўжо чакала Яніна. Разам мы і паехалі, разам пакінулі тое месца, што паяднала нас. Я — у Гомель. Яна — у Мінск. У дарозе зноў і зноў вярталіся ў навагодні вечар. І я адпусціла на волю трапяткія, гарачыя словы. Яніна ж толькі сказала, што ўсё відаць па маім твары. Ён і сведчыць пра Барыса, пра маю затоеную радасць, якая расквеціла мяне да канца, даастатку, але пакінула нязрушнымі гаркоту, нечалавечы сум у глыбінях вачэй. Развіталіся. Яніна абяцала тэлефанаваць, запрашала ў госці, а я прасіла перадаць прывітанне яе сястры Эміліі, маёй мілай сяброўцы юнацтва, узгадаць нашу сустрэчу. Так і вярнулася дамоў. На сэрцы было і радасна, і сумна. Радасна таму, што ён адарыў жыццём маю знявечаную надзею на сустрэчу. А сум ускалыхваў, паласаваў, выпрабоўваў на мне сваю ўладу, бо Барыса не было побач, а я ўжо зраслася з ім, ужылася ў яго. Якая несумяшчальная з жыццём недарэчнасць!.. На вуліцы ўсё паглынуў змрок, патапіў у сабе нават дождж, але не маю самоту. Углядаючыся ў сляпое акно, я чакала, чакала… Што гэта — дождж ці мае слёзы? Вырваліся, хлынулі з вачэй, бяссільныя перад немагчымасцю сустрэчы. І нават столь быццам падае з вышынь, скрадае мае прасторы. Дзе маё сэрца? Вы чуеце яго адгалосак? Маё сэрца з ім, б'ецца дзесь, затаіўшыся ў яго сэрцы.

Доўга не магла наклікаць сон. Ведала, што так нельга, трэба змусіць, утаймаваць саму сябе, але майму розуму неставала волі, каб сціснуць у сталёвых руках душу. Яна ж вырывалася, як птушка з клеткі, пакуль, нарэшце, не згубіла шлях і не пачала блуканні дзесь між аблокаў у нябеснай сінечы. З цяжкасцю я адыходзіла да сну, а супакоеная раніцай, кідалася ў неабсяжны вір непазбежнай жыццёвай мітусні: прыбірала ў кватэры, прасавала, збіралася на дачу — да ратоўнай зямлі, якая быццам выцягвала з мяне боль. Адпачывала поруч з кручком: вязала карункі. Пасля пісала вершы. Так распачынаўся крывавы, цвярозы бой з каханнем. О ўсепаглынальная энергія сэрца! Ці ж стаіцца, не згарэць у тваёй прысутнасці розуму? Сэрца сумуе, чакае майго каханага і прымае пакуту ў імя яго, услаўляе яго нават пакутай, згараючы дашчэнту. І ўсе мае думкі — яго святая ўласнасць. Прывезла з сабой тыя гваздзікі, што ён падарыў, але яны хутка звялі, адкрасавалі сваё. Выродлівае маўчанне тэлефона разрывае сэрца на часткі, і яно крывавіць, захлынаецца, асуджанае на адзіноту... Чаму маё каханне прынесла мне пакуту, а не радасць? Так не павінна быць! І недзе ўнутраным зрокам я ўбачыла ціхую ходу шкадавання. Яно ўзяло за руку маё нявопытнае каханне і моцна трымала, раўняла крок. Душа прагнула паляцець да яго праз ланцугі часу, адлегласці, як птушка праз вузкую фортку, каб дапамагчы яму, падсобіць хоць у чымсьці. Нейкі прыкры, недарэчны адгалосак майго фармальнага выхавання не дазваляе мне першай набраць яго нумар. Мой міласэрны, добры Божа! Няўжо стольки адмераных мне гадоў пражыла на свеце, каб цяпер, на іх схіле, спазнаць гаркоту пакутніцкага кахання? Салодкая і жорсткая хвароба, якой я неабачліва адкрыла сваё сэрца, і тое страціла прыроджаную здольнасць распазнаваць дзень і ноч. Так мінула два тыдні. І раптам, як з небыцця, прагучаў званок: "Прывітанне, радасць мая! Еду да цябе заўтра, сустракай! Цягнік "Мінск — Гомель", вагон № 3". Аглушанае сэрца ў нявер'і вырывалася з гарачых грудзей. Пякла хлеб, варыла боршч, тушыла курыцу, прыбірала кватэру і, галоўнае, зрабіла прыгожую прычоску і падрыхтавала самае лепшае небагатае сваё ўбранне. Доўга не магла заснуць. Дужа баялася спазніцца, праспаць, заказала таксі. Раніцай пад'ехала машына. Я так перахвалёўвалася, што пры сустрэчы не ведала, як сябе паводзіць, куды падацца. Затым падбегла да вагона, і мы патанулі ў абдымках адно аднаго, забыўшыся на цікаўныя людскія вочы вакол нас. Па дарозе да станцыі я везла ў сваім сэрцы цэлую бездань міласці, берагла, каб патапіць Барыса ў той бездані, народжанай падчас маіх чаканняў доўгімі вечарамі, калі я выходзіла на вуліцу да прыветнага, лагоднага дажджу ці снегу, каб перадаць ім сваё прашэнне. Я сцішана прасіла іх пастукацца кроплямі ў яго вокны, прыпыніцца сняжынкай пад яго страхой, каб ён узгадаў мяне і маё чаканне і хутчэй патэлефанаваў.

Мы прыехалі да мяне. Ён зноўку прывёз гваздзікі і дарагія цукеркі. Нашы вочы зіхацелі, як яркае сонца ў летні дзень. Мы жартавалі, смяяліся, быццам дзеці. Ён працягваў сваю руку да свежага хлеба і казаў:

— Вось гэта хлеб! Яшчэ такога ніколі не бачыў.

Раіў, асцярожна клікаў пераязджаць у Мінск, які прыме нас дваіх, каб расквеціць самоту адзінокіх. Маё сэрца чуйна, крыху спалошна адгукалася. Я і раней збіралася ў Мінск, яшчэ пасля смерці мужа, бо там жыве мой адзіны сын. І ён. Цяпер і ён...

— Я хачу быць побач з табой, — усяго і адказала я.

Так проста ўсё і вырашылася. Святая прастата, якая адгукаецца стоенай мудрасцю. Ён правёў са мной тры дні, захапляўся Гомелем, а пасля вярнуўся ў Мінск. Я ж кінулася з галавой у продаж кватэры, машыны, дачы. Ён паехаў і звёз маё сэрца з сабой. І мне нічога не заставалася, як ехаць услед за ім і сваім сэрцам. Я ўсё прадала і пераехала ў Мінск. Мы сустракаліся, каб ніколі не развітвацца. Калі ён развітваўся, невымоўны, гарачы сум агортваў яго, не адпускаў… Ён вельмі любіў мае рукі, заўсёды цалаваў іх і не баяўся паўтараць, што яны ў мяне залатыя. Па прафесіі я яшчэ і масажыстка. У яго балелі суставы ног і левая рука. І я лячыла яго… Мы танцавалі старадаўняе танга, спявалі, блукалі па лесе, збіралі ягады. Ранняй вясной нас падпільноўвалі пралескі, каб раздзяліць нашу радасць. Мы працавалі на дачы і ніколі не стамляліся. Але душа мая была спаласаваная затоеным несупынным болем, крыху прыглушаным, але жывым, трывожным. Выродліва-разумны боль. Барыс збіраўся наведаць сваіх родных у Оршы, а праз некалькі дзён мне патэлефанавала яго дачка і сказала, што яго ўжо няма. Гора паглынула мяне, і я не адбівалася. Аказалася, побач з такім познім каханнем няўмольна, упэўнена, уладна крочыла смерць… Маё сэрца ведала гэта, а розум, як заўжды, не саступаў, не пагаджаўся. Я прыехала на пахаванне. Прылацела, сцяўшы боль. Дачка распарадзілася спаліць яго ў крэматорыі. І толькі пасля, аддаўшы, выправіўшы яго, я ўзгадала тыя прароцкія радкі:

*Калі надыдзе час зямной разлукі,*
*Прыеду я на попел паглядзець.*
*Ты дзесь на небе ўспомніш мае рукі,*
*Камін душы,*
*што нас не змог сагрэць…*

Божа! За што мне такое гора?

Зноў ідзе дождж, плача разам са мной. Прыветны, лагодны... Адзін ён разумее мяне. А дома, заціснутая між сцен, крычыць, роспачна галосіць цішыня. А вершы адышлі, не пішуцца. А калі і пішуцца, то вельмі рэдка. Аднак трэба жыць. Інакш нельга. Жыць, жыць, жыць… Жыццё — гэта сонца, радасць, дождж, вецер, праца і — цемра…

Я не старэю. Старэе толькі матэрыя, але не дух.

**Пераклад з рускай**
**Таццяны Выскваркі**

# Мельпамена, вёска, дзеці...

Аляксандра ІМБРА-ПРЫМАВА

**Вядома, не толькі ў сталіцы жывуць і працуюць цікавыя, таленавітыя людзі. Мне пашанцавала пазнаёміцца з такім адметным чалавекам у невялікім горадзе Стоўбцы. Гэта заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Марыя Грэсь. Марыя Канстанцінаўна прысвяціла жыццё тэатру. Частку сябе, сваёй душы яна аддала і працягвае аддаваць дзецям, сваім вучням.**

Усё з маленства накіроўвала маленькую Марыю да творчасці. Амаль усе падзеі, якія на першы погляд здаюцца зусім нязначнымі, давалі штуршок да фарміравання чалавека, які не зможа абыходзіцца без мастацтва. Не здолее наладзіць сваё жыццё без абаяльнасці тэатра, без той неверагоднай яго загадкавасці, таямніцы, якую ён, здаецца, захоўвае ў сабе і крыху адкрывае тым, хто сустракаецца з ім.

Марыя Грэсь нарадзілася ў 1940 годзе на Брэстчыне, у маляўнічай вёсцы Гайнінец. Калі памёр бацька, Машы было толькі шэсць месяцаў, а яе старэйшаму брату — чатыры гады. Дзеці з мамай засталіся адны. А тут — вайна... Калі яна скончылася, дзяўчынка з іншымі аднагодкамі пайшла ў пачатковы клас. Месцілася школа ў звычайнай хатцы. Вучні не ведалі, што такое парта: самі прыносілі сталы, зэдлікі, лавы. Але настаўніца ўсё ж такі знаходзіла магчымасць арганізоўваць розныя вечарыны, пастаноўкі, у стварэнні якіх удзельнічалі і дзеці. Талент маленькай Марыі пачаў праяўляцца ўжо тады. Першае выступленне было для яе тым важным момантам, якія бываюць у кожнага і вызначаюць далейшае жыццё. Марыя чытала ўрывак з твора Якуба Коласа "Савось-распуснік", стоячы на зэдліку. Маці апранула дзяўчынку ў сваю сукенку, падперазала вяровачкай. Лепшага нічога не было.

Пачаліся выступленні ў школьнай самадзейнасці. Настаўніца беларускай мовы Валянціна Хвалей ставіла з дзецьмі шмат розных сцэнак. Але Маша чамусьці ва ўсіх сцэнках іграла толькі ролі хлопчыкаў. Нават калі была ўжо ў сёмым класе, ёй усё роўна даставаліся "хлапечыя" ролі. Але яна была настолькі захоплена тэатрам, што згаджалася на гэта смела і з лёгкасцю. Тым больш у гэтым быў дадатны бок: яна іграла нават Несцерку! (Дарэчы, пазней, калі дзяўчына пачала працаваць, яна выконвала ролю Максіма ў "Прымаках" Янкі Купалы.) Аднойчы падчас агляду школьнай мастацкай самадзейнасці выступленне Машы ўбачыла журы з раённага аддзела адукацыі. Дзяўчынка і чытала, і спявала, і танцавала... Ёй нечакана прапанавалі паехаць вучыцца ў школу для адораных дзяцей — у Брэст. Але мама не дазволіла ёй нікуды ехаць: быў цяжкі пасляваенны час.

Калі ў Гайнінец прыехала кінаперасоўка, знайшлося шмат ахвотных паглядзець, што за цуд паказваюць. У звычайнай хаце павесілі на сцяну пасшываныя прасціны і дачакаліся змяркання. Паказвалі дакументальныя стужкі і нейкі мастацкі фільм без гуку. Але ўсе глядзелі з цікавасцю. Наступным разам кінапаказ быў платны. Арандавалі гумно і там рабілі экран. Маленькай Марыі вельмі хацелася паглядзець, але грошай на білет не было. Дзяўчынка прытулілася да дзвярэй гумна, каб хоць што-небудзь убачыць праз вялізную шчыліну ў клямцы. Але нечакана з-за дзвярэй хтосьці выйшаў. Клямка рассекла Марыі твар. Чалавек, які выходзіў з гумна, безумоўна, зразумеў, чаму дзіця стала гэтак блізка да дзвярэй, і пусціў паглядзець кіно бясплатна. Марыя добра запомніла гэты выпадак і гукавы фільм, што паказвалі, "Кубанскіх казакоў". І на твары ў яе застаўся напамін: невялікая адзнака каля скроні.

Кіно для Машы заўсёды было святам. Акрамя гэтага яна вельмі любіла чытаць. Скончыла сямігодку "на выдатна", з пахвальным лістом. Яна скарыстала сваё права паступаць у вучэльню без уступных выпрабаванняў, але залічылі яе без прадастаўлення інтэрната і стыпендыі. Грошай у сям'і не было, і 14-гадовай Марыі давялося забыцца пра вучобу ў Навагрудку і ўладкоўвацца на працу. Пайшла даяркай у калгас. Прывяла яе на ферму... песня. Даяркі настолькі добра спявалі, што паслухаць іх песні выходзілі людзі з усяго наваколля. Юная даярка займалася ў самадзейнасці. Пры мясцовай школе разам з настаўнікамі ставіла спектаклі. З вясковай моладзі яна адна ўдзельнічала ў тэатральным гуртку.

Так прайшло сем гадоў.

Аднойчы Марыя заўважыла газетную аб'яву пра тое, што ў Магілёве культасветвучылішча набірае навучэнцаў на базе сямі і васьмі класаў школы ў эксперыментальную групу. У той час на базе сямі класаў ужо нідзе набору не было. І насуперак усяму ў 22 гады яна паступіла ў Магілёўскае культасветвучылішча на тэатральнае аддзяленне. Займалася там чатыры гады. Група была эксперыментальная і невялікая: толькі 14 чалавек, у тым ліку дарослыя людзі, якія ўжо дзесьці працавалі і не маглі раней вучыцца з-за нейкіх жыццёвых абставін. Марыя скончыла вучылішча "на выдатна". Там, дарэчы, пазнаёмілася з Дзмітрыем, які стаў спадарожнікам жыцця. Маладую сямейную пару накіравалі працаваць у Стаўбцоўскі раён. Спачатку працавалі ў раённым Доме культуры: ён — мастацкім кіраўніком, яна — інспектарам і кіраўніком тэатральнага гуртка. Затым ён працаваў загадчыкам аддзела культуры. Яна паступіла ў Ленінградскі інстытут культуры на рэжысёрскі факультэт. Пасля заканчэння інстытута працавала рэжысёрам народнага тэатра, затым вяла тэатральны калектыў "Іскрынка". А калі прыйшоў час пайсці на пенсію, яе не адпусцілі і прапанавалі працу ў школе мастацтваў.

З 1996 года яна працуе выкладчыкам у тэатральным класе. Пачынала ў Стаўбцоўскай школе мастацтваў. А калі адкрылі філіял у вёсцы Вішнявец, Марыя Канстанцінаўна паехала туды. Яна працуе там з вельмі цікавымі, таленавітымі вясковымі дзецьмі, якія любяць тэатр.

Марыя Грэсь больш як 40 год аддала працы ў культуры. Яна з прыемнасцю расказвае пра сваіх вучняў. Некаторыя з яе выпускнікоў скончылі каледж мастацтваў, некаторыя вучыліся ці вучацца ў БДУКіМ. Вучні таксама не забываюцца пра свайго настаўніка. Нават тыя, хто не звязаў сваё жыццё з нейкім відам мастацтва, лічаць, што менавіта гэты чалавек даў ім веды, патрэбныя ў любой жыццёвай сітуацыі.

Сама ж Марыя Канстанцінаўна з удзячнасцю ўспамінае сваю настаўніцу В. Хвалей, якая адыграла вялікую ролю ў яе жыцці. Менавіта Валянціна Аляксандраўна, мяркуе М. Грэсь, абудзіла ў ёй любоў да тэатра.

У спектаклях Марыі Грэсь заўсёды адчуваецца любоў, цеплыня і дабрыня. З прадуманых дробязей складваецца цэласная карціна дзеяння, якое сапраўды захоплівае. А на сцэне — проста дзеці.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Упершыню да музычна-асветніцкага руху, разгорнутага ўжо ў многіх малых гарадах і мястэчках краіны Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, далучыўся горад Хойнікі. Па ініцыятыве заслужанага калектыву і яго маэстра, пры падтрымцы Хойніцкага райвыканкама і Гомельскага аблвыканкама, тут прайшла імпрэза, якая запачаткавала новую традыцыю ў жыцці месцічаў. Як падкрэслівае М. Фінберг, 25 гадоў таму на гэты самабытны куток Палесся абрынулася чарнобыльская бяда, і вельмі важна, каб людзі ў пацярпелых рэгіёнах адчувалі маральную і духоўную падтрымку, каб яны маглі адраджаць і развіваць сваё культурнае асяроддзе, спрычыняцца да сапраўдных каштоўнасцей, годна адпачываць і радавацца жыццю. Аркестр штогод ладзіць на Гомельшчыне "Чачэрскія сустрэчы" і фэст у Тураве. Хойніцкае свята атрымалася з адмысловым абліччам: яго галоўны канцэрт прысвячаўся 110-й гадавіне з дня нараджэння Рыгора Пукста — беларускага кампазітара-класіка, які быў родам з Гомельшчыны.

Салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Кацярына Алейнік і Канстанцін Геронік заваявалі I месца і залаты медаль на VIII Міжнародным харэаграфічным фестывалі-конкурсе "Танцавальны Алімп" ("Tanzolymp") у Берліне. Выступленні калектываў і салістаў на конкурсных праглядах ацэньвала журы пад старшынствам народнага артыста СССР Уладзіміра Васільева. Журы таксама робіць адбор лепшых канцэртных нумароў для заключнага гала-канцэрта. Кацярына Алейнік і Канстанцін Геронік за выкананне па-дэ-дэ з балета Л. Мінкуса "Дон Кіхот" атрымалі не толькі I месца і залаты медаль, але і спецыяльны прыз Уладзіміра Малахава — дырэктара "Staatsballett Berlin", які з'яўляецца патронам гэтага прэстыжнага фестывалю. Наш дуэт удзельнічаў і ў гала-канцэрце поруч з іншымі прызёрамі конкурсу розных гадоў і зоркамі сусветнай сцэны.

Выбітным канцэртам парадаваў нашых аматараў джазавай музыкі "Maciej Obara Quartet", чыё выступленне на сцэне Вялікай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылося пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску. Малады кампазітар і альт-саксафаніст Мацей Обара яшчэ падчас навучання ў Інстытуце джаза і эстраднай музыкі Акадэміі музыкі імя К. Шыманоўскага ў Катавіцах набыў поспех і заняў адметнае месца ў авангардзе польскіх джаз-калектываў. У апошнія два гады ён запісаў альбомы з найлепшымі нью-ёркскімі музыкантамі. Прэзентаваны мінскай публіцы новы праект Мацея Обары з удзелам піяніста Дамініка Вані, кантрабасіста Мацея Гарбоўскага ды ўдарніка КшыштафаГрадзюка пераканаў, наколькі глыбокай, магічнай і непаўторнай бывае музычная плынь, якая завецца джазам.

Фарс на 2 дзеі паводле п'есы Францішка Аляхновіча "Пан міністар" выходзіць на сцэну! Прэм'еру, пастаўленую Беларускім рэспубліканскім тэатрам юнага гледача, можна паглядзець 5 і 6 сакавіка ў сталічным Доме літаратара. Стваральнікі спектакля на чале з рэжысёрам Уладзімірам Савіцкім перакана765ныя, што "Пан міністар" шмат у чым перагукваецца са створанай таксама ў 1922 годзе Купалавай п'есай "Тутэйшыя" і не саступае ёй у вастрыні праблематыкі.

# Рамантычная дамінанта

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара





**Прафесар кафедры малюнка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Віктар Нямцоў працуе ў галіне манументальна-дэкаратыўнай творчасці і станковага жывапісу, плённа ўдзельнічае ў міжнародных пленэрах і разнастайных выставачных праектах. На I Рэспубліканскай мастацкай выстаўцы работ стыпендыятаў Міністэрства культуры Беларусі яго новыя палотны занялі асобную залу.**

Лепшыя творы Віктара Нямцова захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, іншых прэстыжных айчынных і замежных зборах (у Расіі, Турцыі, Егіпце); яго работы неаднойчы набывалі прыватныя калекцыянеры — з Аўстраліі, Бельгіі, Германіі, Польшчы, Францыі. Мы ведаем В. Нямцова як аўтара манументальных габеленаў і вітражоў; у чарадзе яго пейзажаў вылучаем тыя, дзе прыцягальнасць кампазіцыйных і колеравых акцэнтаў спалучаецца з гэткай рамантызаванай філасафічнасцю: "Світанак над Нёманам", "Бабіна лета", "Краявід з чырвоным дахам"... А вось карціна "Стары млын", хоць і напісаная яшчэ ў мінулым стагоддзі, з нядаўняга часу набыла пэўную знакавасць у творчасці мастака: ці ж не яна з'явілася тым ідэйным вытокам, ад якога пайшла задума праекта, спраўджанага В. Нямцовым на працягу 2010 года?

Назва праекта — канцэптуальная, арыгінальная, прасякнутая духам захавання і адраджэння традыцыйных беларускіх нацыянальных каштоўнасцей, — "Млыны Беларусі". Увасобіўся ён у серыі жывапісных палотнаў В. Нямцова, што мы і ўбачылі ў сталічнай галерэі "Універсітэт культуры" ў кантэксце калектыўнай выстаўкі стыпендыятаў міністэрства. З чаго зыходзіў мастак, распачынаючы гэтую працу? "Натуральным элементам вясковай забудовы і навакольнага ландшафту з'яўляецца вытворчая архітэктура, у шэрагу якой найбольш старажытныя "складнікі" — ветракі ды вадзяныя млыны, — тлумачыць сваю канцэпцыю мастак. — Па пластычнай выразнасці ды вобразнасці ў характарыстыцы беларускага краявіда яны знаходзяцца ў адным шэрагу з архітэктурнай дамінантай цэркваў і касцёлаў, якія размяшчаліся ў цэнтры паселішча на самым высокім і заўважным месцы. Я зрабіў спробу, скарыстоўваючы прыгажосць і выразнасць прапорцый, сілуэта, фактуры матэрыялу, канструкцыйных асаблівасцей народнай архітэктуры ў адзінстве з навакольнай прыродай, сродкамі жывапісу стварыць цыкл работ. Такіх твораў, якія ўвасобілі б не столькі архітэктурную рэканструкцыю, колькі эмацыйна-каларыстычны, вобразны бок, вельмі характэрны для выразнасці пейзажа..."

Іх — каля паўтара дзясятка: вятрак-турбінка з Браслаўшчыны; вятрак-казлоўка ў вёсцы Даматканавічы Клецкага раёна; вадзяныя млыны ў вёсках Волма і Маркава на колішняй Койданаўшчыне; стары вясковы млын з Навагрудскага раёна; вятрак-шатроўка ў Тур'і, што на Краснапольшчыне... І кожны з гэтых мастацкіх вобразаў падаецца дамінантай непаўторнага кутка беларускага ландшафта.

***На здымках: вадзяны млын XX ст. у Смалявіцкім раёне ды вятрак-сталбоўка IX ст. — з серыі Віктара Нямцова "Млыны Беларусі".***



**Самыя блізкія і кранальныя, родныя словы прыходзяць да нас нярэдка разам з музыкай, праз музыку. А там, дзе яна гучыць, — і эмоцыі шчырэй, і ўражанні ярчэйшыя. Нездарма ж мелодыю называюць мовай душы і кажуць: дзе канчаюцца словы, там пачынаецца музыка. У імпрэзах-маналогах Зінаіды Феакціставай мілагучныя, паэтычныя, напеўныя родныя беларускія словы гучаць з музыкай на роўных, сілкуючы, працягваючы, акрыляючы адно адное. Ды толькі пабачыць такую імпрэзу, пачуць сцэнічны маналог унікальнай выканаўцы выпадае нячаста нават сталічным жыхарам. Чаму?**

# Краса і мудрасць маналога

## Напачатку было слова. І слова было ад Бога. І гэта было матуліна слова: роднае, беларускае.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Зінаіда Феакціства, лаўрэат нацыянальнага і ўсесаюзнага конкурсаў артыстаў эстрады, майстар мастацкага слова, уладальніца высокай дзяржаўнай узнагароды — медаля Францыска Скарыны, не гастралюе па краіне са сваімі музычна-паэтычнымі праграмамі, літаратурнымі спектаклямі, хоць і працуе ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі; "не свеціцца" на тэлеэкране, хоць і з'яўляецца зоркай у сваім жанры. А між тым яе творчасць, якую бяздумны абывацель пазначае адыёзным словам "нефармат", выклікае цікаўнасць, зацікаўленасць, нават захапленне ў самай, здавалася б, няўдзячнай нігілістычнай аўдыторыі.

Працуе Зінаіда Уладзіміраўна ў Філармоніі для дзяцей і юнацтва — падраздзяленні БДФ, узначальвае творчую групу, куды разам з ёю, артысткай размоўнага жанру, уваходзяць піяністы, спевакі. У сталічных школах ды гімназіях яны выступаюць з літаратурна-музычнымі праграмамі для навучэнцаў малодшага, сярэдняга і старэйшага ўзросту. Самым маленькім, напрыклад, адрасуецца "Буслянка" — дасціпны і вясёлы ўрок беларускай мовы, дзе гучаць вершы сучасных нашых паэтаў і не абыходзіцца без гумарэсак, пацешак, смяшынак. Або пазнавальны канцэрт-гульня "Вясёлая карусель", дзе разам з артыстамі пяюць ды гуляюць дзеці. І малых, і старшакласнікаў, і настаўнікаў не пакідаюць абыякавымі беларускамоўныя праграмы "Песняры роднага краю" (паэтычнае слова Купалы і Коласа спалучаецца з музыкай, акадэмічным вакалам, беларускімі народнымі песнямі); "Ён быў паэт" (запрашэнне да размовы пра жыццёвыя пуцявіны і творчы лёс Максіма Багдановіча). Падрыхтаваная на рускай мове імпрэза "Мой Пушкин" (паводле М. Цвятаевай і пушкінскіх вершаў, з выкананнем твораў П. Чайкоўскага, Ф. Ліста, С. Рахманінава, Г. Свірыдава) прыцягвае ўвагу падлеткаў...

Апроч гэтых і яшчэ некалькіх разнастайных праграм для школьнікаў, ёсць адметны рэпертуар, з якім Зінаіда Феакціства, пры ўдзеле і падтрымцы філарманічных музыкантаў, зрэдчас выступае ў Малой зале БДФ.

Памятаю адну з такіх імпрэз, якая ўключыла ў сябе народны акапэльны спеў, паэтычнае слова, інструментальную акадэмічную музыку, мастацкую прозу, меладэкламацыю, канферанс. Пад назвай "Песняры роднага краю" З. Феакціства аб'яднала ў той вечар дзве свае музычна-паэтычныя кампазіцыі: ужо вядомую публіцы, лірыка-драматычную "Памяці Максіма Багдановіча" і прэм'еру "Песня пра долю" (паводле твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа), у паліфаніі якой удала спалучыліся і яркая публіцыстычнасць, і гумар, і рамантызм. Складаны маналог артысткі натхнёна падтрымалі тады салісты філармоніі, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Святлана Старадзетка (сапрана), Алена Лузан (фартэпіяна), Наталля Зміторвіч (домра), Таццяна Шумакова (цымбалы), а таксама... публіка. Чуйная, удумлівая, патрыятычная. Вядомыя дзеячы айчыннай культуры, сталыя наведвальнікі канцэртаў, запрошаная ў залу вучнёўская моладзь з аднолькавай цікавасцю ўспрымалі праграму. Што ставала яе прыцягальнасцю? Кранальны расповед пра Багдановічаву маці, Максімавы развагі пра музычнае мастацтва, яго хрэстаматыйныя вершы і паэтычныя прысвячэнні яму — творы У. Караткевіча, М. Танка, А. Лойкі, папулярная "Зялёная вішня" і вакальная лірыка А. Туранкова, А. Багатырова, Л. Рагоўскага, Л. Абелёвіча, І. Паліводы, Л. Захлеўнага; інструментальныя версіі вядомых песень І. Лучанка, У. Мулявіна, якія з першых нот абуджаюць у памяці радкі нашых паэтаў-класікаў; п'есы І. Жыновіча, М. Чуркіна, Я. Глебава, В. Іванова, П. Чайкоўскага. Пяшчотны дуэт домры і раяля; рэдкаснае, параўнанае з кантыленай, гучанне цымбалаў; багатая ігра тэмбраў у голасе спявачкі, артыстызм і самаадданасць чытальніцы, як кранальнае акапэльнае выкананне народных песень...

Мінула колькі часу — і ў той самай зале з поспехам прайшла новая праграма "Ягадны хутар", натхнёная творчасцю і незабыўным паэтычным вобразам Яўгеніі Янішчыц.

З пранізлівай беларускай шчырасцю, у якой змяшаліся душэўная цеплыня і пяшчота, узлёт рамантычных пачуццяў, і роспач, і горыч, і слодыч надзеі, прагучала наступная тэатралізаваная прэм'ера — "Ярына зялёная" (рэжысёрскі дэбют кампазітара Ларысы Сімаковіч). Знаўцы роднай літаратуры, пэўна, здагадаліся, што назваю стала прымаўка, якою перасыпае сваю гаворку Свіст — адзін з персанажаў аповесці Васіля Быкава "Жураўліны крык". Гэты хрэстаматыйны сюжэт з айчыннай ваеннай прозы дазволіў З. Феакціставай увасобіць у маналогу сапраўдную паліфанію драматычных вобразаў: ад "прыземленай" матулі зусім яшчэ маладзенькага байца Глечыка — да псіхалогіі кожнага з удзельнікаў толькі аднаго трагічнага эпізода той страшнай вайны і абагульнення жорсткай акопнай праўды. Яркім кантрапунктам гучалі выкананыя на мове арыгінала шэдэўры нямецкай класікі — арыя Ё. С. Баха ды рамансы Ф. Шуберта (салісты Святлана Старадзетка, Сяргей Клачкоў, піяністка Юлія Архангельская). На жаль, пластычныя мізансцэны з удзелам артысткі фальклор-тэатра "Тосьціца" ў нацыянальным строі, якая выконвала пэўныя побытава-рытуальныя дзеянні, скарыстоўваючы этнаграфічны рэквізіт (нават прала бялізну ў сапраўднай вадзе), не набылі чаканага эфекту, бо гледачы, апроч прысутных у першым радзе, проста нічога не бачылі. У другой частцы спектакля З. Феакціства бліскуча раскрыла лірыка-трагедыйны вобразны свет "Партызанскай балады" Уладзіміра Караткевіча. Артыстка трымала публіку ў эмацыйным напружанні, тонка і спакваля ўзнаўляючы неадназначны псіхалагічны стан гераіні твора, шчымлівую атмасферу апошняй сустрэчы з каханым, але не заканым у яе чалавекам, духоўную безвыходнасць, якая раптам выбухае адчайнай веліччу самаахвярнасці — дзеля жыцця свайго любага, чый вобраз таксама нібы ажывае ў пераканаўчым акцёрскім маналогу. А сцэнічны малюнак ролі набывае асаблівую выразнасць дзякуючы "падтэксту" — маніпуляцыям актрысы з дробнымі зялёнымі яблыкамі, складзенымі ў звычайным вясковым кошыку, якіх урэшце сячэ — як забівае! — шырокае лязо нажа...

Стаць артысткай? Не, пра гэта яна ніколі не марыла. Нарадзілася і гадавалася ў прыгожай вёсачцы на Шклоўшчыне. Замілоўвалася бярозавымі гаямі ды вясновай паводкай.

— *Матуля мая — ад Бога жанчына, вельмі добрай душы,* — расказвае Зінаіда Уладзіміраўна. — *Напэўна, яна і мне такое нешта перадала: шчырае, добрае і прыгожае, і захапленне беларускім словам, і песняй. Асабліва яе песні мяне кранаелі. Кнігі я любіла, і вершы запамінала міжволі — адзін ці два разы прачытаўшы. Сама пісаць спрабавала, але нічога сур'ёзнага ў тым не было. Потым, калі тата з мамай купілі тэлевізар, перагледзела ўсе нашы пастаноўкі. "Раскіданае гняздо" вельмі ўразіла. Мама ўспамінае, што я, маленькая, хадзіла потым па хаце, па двары і ўсё перакзвала, пераймаючы персанажаў з экрана. А яшчэ любіла танцаваць. Але прытым жа сарамлівая вельмі была. І ўсё ж у 15 гадоў з'ехала ў Магілёў — у музычна-педагагічнае вучылішча паступіла. Там ужо і чытала, і на фартэпіяна навучылася граць, спявала і ў хоры... Маці расказвала, што пасля вайны, калі яна была зусім дзяўчом, прыехала нейкая канцэртная брыгада з Магілёва. Маці добра спявала, сама вельмі прыгожая была, яе хацелі тыя артысты з сабою забраць. А бацька не адпусціў, сказаў: "Не. Тут трэба кароў даіць, з ільном упраўляцца". Дзяцей жа ў маіх бабулі з дзедам было аж сямёра. Дык цяпер мы часам жартуем: маўляў, напэўна, гэта я за матулю на сцэне адпрацоўваю.*

Курс, на якім у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце вучылася Зінаіда Феакціства, вёў артыст-купалавец Мацвей Федароўскі. Ён сябраваў з легендарнай беларускай артысткай-чытальніцай Ганнай Рыжковай (калісьці працавалі разам у Віцебску, на коласаўскай сцэне) і аднойчы запрасіў яе паглядзець дыпломную пастаноўку "Эшалона" М. Рошчына — з удзелам сваіх студэнтаў. Ганна Паўлаўна, пагледзеўшы спектакль, кіўнула на Зінаіду: "Гэту беленькую дзяўчынку я забрала б у філармонію". Урэшце, пераадолеўшы ўнутраны пратэст і сумненні, З. Феакціства прыйшла ў Беларускую дзяржаўную філармонію. Ганна Паўлаўна і яе муж Уладзімір Андрэевіч апекаваліся маладзенькай артысткай як роднаю дачкой. Зінаіда Уладзіміраўна ўспамінае:

— *Спачатку я з Рыжковай працавала. "Райкін у спадніцы" яе называлі нездарма: толькі выходзіла на сцэну, ужо рогат стаяў у зале. Яна так чытала, што пасля ўжо не было чаго рабіць. Але Ганна Паўлаўна абвяшчала: "А цяпер мая вучаніца выйдзе, маладая дзяўчына, і нешта вам раскажа..." Я выходзіла з байкай Крапівы ці Корбана ўжо зусім знясіленая — так насмяюся за кулісамі! Можа, з год ля яе была, вучылася. А потым Ганна Паўлаўна "адпусціла": маўляў, цяпер плыві сама. І пачаліся гастролі: шмат ездзіла сама і з рознымі творчымі групамі, калектывамі. Увесь Савецкі Саюз аб'ездзіла. І ведаеце, паўсюль, нават у Казахстане, чытала па-беларуску: гумарэскі, лірычныя творы. Рэагавалі заўсёды адэкватна. Смяяліся дзе трэба. Часам пыталася ў залы: "Ой, напэўна вы нічога не разумееце?" А ў адказ: "Всё понятно, всё понятно! Продолжайте!" Беларусаў наогул паўсюль добра прымалі, любілі. Ведалі "Песняроў", "Верасы", ансамбль "Чараўніцы"... А яшчэ я ў Маскве ў 1984-м вучылася — ва Усерасійскай творчай майстэрні эстраднага мастацтва. Было цікава рыхтаваць вялікія і разнастайныя праграмы на беларускім матэрыяле, з канферансам праз увесь шматжанравы канцэрт. Былі прапановы застацца і працаваць у Маскве, але дадому хацелася вельмі. Любіла сваю радзіму, бацькоў. Я і цяпер па доме вясковым сумую.*

Калісьці Ганна Рыжкова прывучыла яе весці "кніжачкі" — запісваць у нататнікі вершы беларускіх паэтаў. Цяпер у яе на многіх паэтаў "кніжачка": на Максіма Танка, Аляксея Пысіна, Анатоля Вялюгіна, Нэлу Тулупаву, Еўдакію Лось... Чытае, перачытвае, адкладае, адкрывае наноў, глядзіць свежым вокам на тыя радкі, да якіх у маладыя гады звярталася было ранавата. Любіць над вершам паразважаць:

— *Урэшце я прыйшла да таго, чым падабаецца займацца: несці людзям слова. Бо слова — ад Бога, і ў пачатку было слова. Мяжаў, канонаў у яго ўвасабленні на сцэне проста няма. Пераглядаю свае ранейшыя відэазапісы і сама сябе крытыкую: чытаю, і атрымліваецца быццам нешта не тое, не тая інтанацыя... Можна было б вось так ці так прачытаць — хутчэй дойдзе да сэрца. А ўвогуле, прызнацца, у самой душа баліць за беларускае слова. Успамінаю свае студэнцкія гады. Ніхто нас да беларускага мастацтва не далучаў. Рэпертуар — Тэнесі Уільямс, Шэкспір, Рошчын, Валодзін, на беларускае нас не накіроўвалі. А дома на роднай мове размаўлялі. Калі прыехала вучыцца ў Магілёў, там было ўжо і так, і сяк. А як прыехала ў Мінск, дык убачыла, што беларуская моладзь, і я не выключэнне, пачынае стыдацца, саромецца роднай мовы. І калі нехта гаварыў па-беларуску, дык чулася: "дзярэўня". Таму ўсе навокал пачалі прамаўляць хай сабе з выразным акцэнтам, але рускімі словамі. І цяпер, на жаль, шмат хто не разумее ўсю трагічнасць такой сітуацыі і яе наступстваў — сітуацыі, калі людзі спачатку стыдаюцца роднай мовы свайго народа, а потым пачынаюць яе забываць. Мне скардзяцца настаўнікі ў школах, асабліва выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры: адна гадзіна на тыдзень беларускай мовы! Што можна ў такой сітуацыі зрабіць, як можна, скажам, Караткевіча "прайсці", калі часу не хапае — усё галопам па еўропах. Дык вось, калі я пачынаю нешта расказваць на роднай мове, якую гэтыя пяцікласнікі ніколі ў жыцці ў гутарковым асяроддзі не чуюць, дык слухаюць жа, стаіўшы дыханне, і такімі вачамі на мяне глядзяць — нібы Амерыку нейкую для сябе адкрываюць! Калі пасля нашай імпрэзы ў школьнікаў свецяцца вочы і хаця б адзін ці два з іх падыходзяць, распытваюць, цікавяцца — значыць, недарэмна мы працуем і на маю справу, якую я шчыра люблю, людзі адгукаюцца.*

## Слова краязнаўцы



**Ірына Лобан з Віцебска расказвае пра адметнасці аматарскага краязнаўства і карысць вандровак па Беларусі:**

— Зацікаўленасць аматарскім краязнаўствам узнікла падчас паездак у Еўропу, па вяртанні з якіх заўсёды хацелася працягваць вандраваць, але па Беларусі… І вось апошнія два гады свой вольны час у асноўным праводжу ў дарозе і краязнаўчых пошуках.

Найцікавейшае вольнае планаванне маршруту: заахвочванне сяброў, зборы і паездка з арыенцірам па карце. Перад вандроўкай крыху інфармацыі з сеціва, астатнія веды здабываюцца падчас падарожжа і пасля яго. Краязнаўства захапляе, яно для тых, хто хоча глыбей спазнаць родны край, шукае прыгод, а яшчэ гэта — адпачынак. Часта на выхадныя зручна выехаць у недалёкія ад Віцебска раёны, там таксама можна адшукаць што-небудзь цікавае і незвычайнае. Так, вандруючы па Гарадоцкім раёне, знайшлі вёсачку Рэмні, а ў ёй — драўляны закінуты касцёл з прыгожымі роспісамі.

Найбольш вабіць гісторыя мястэчак з закінутымі помнікамі архітэктуры, былымі панскімі сядзібамі, сакральнымі пабудовамі. Люблю разважаць: чаму так сталася і што можна зрабіць для іх аднаўлення? Напэўна, звычайны вясковец ці аматар-краязнаўца наўрад ці паспрыяе аднаўленню гісторыі фінансава, аднак не даўшы зганьбаваць памяць, не дадуць, прынамсі, забрудзіць помнікі і тэрыторыю, дзе жывуць…

Часам паездкі прыносяць і расчараванне, напрыклад, калі бачыш у пасёлку Высокае, што на Аршаншчыне, як мясцовыя жыхары з былой сядзібы Сапегаў і Патоцкіх зрабілі прыбіральню... Давялося пабачыць шмат і папрацаваць валанцёрамі, праводзіць дабраўпарадкаванне такіх месцаў.

Аматарскае краязнаўства сёння дастаткова распаўсюджана. Адзін мой сябра са студэнцкіх гадоў вандруе па Беларусі і аб'ездзіў усе раённыя цэнтры, ведае "разынку" і гісторыю кожнага. І менавіта краязнаўцы-аматары шмат у чым могуць дапамагчы краязнаўцам-навукоўцам. Для мяне ж улюбёнымі для вандровак мясцінамі сталіся Мазыр, Мсціслаў, Бабруйск, Баранавічы і іх ваколіцы. Канфесійнай гісторыяй уражваюць Іўе на Гарадзеншчыне і Смаляны на Аршаншчыне, беларускай Балтыкай назаву Браслаўшчыну, маім адкрыццём незвычайнага густу айчыннай правінцыі — сядзібу Маліноўскіх бліз вёскі Чарапоўшчына ва Ушацкім раёне. Зрэшты, у кожнай вобласці можна адшукаць свае таямніцы.

## Музейны ўнікат

# Модныя тэндэнцыі мінулых стагоддзяў

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

**Традыцыйны беларускі жаночы касцюм для навукоўцаў — прадмет даследаванняў, а для простых наведвальнікаў — ужо музейны экспанат. У строі жанчыны ўсё невыпадкова: у ім адлюстроўваліся рэгіянальныя адметнасці, вераванні. Мужчынскі касцюм таксама меў варыянты ў рознай мясцовасці, але ўсё ж ён больш аднатыпны, рэлевантныя ў ім — пояс і спосаб яго завязвання, размяшчэнне арнаменту на сарочках. Вось і ў экспазіцыі Музея старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў асноўным прадстаўлены святочны жаночы строй — найбольш цікавы па аздабленні, разнастайнасці кампанентаў, пакроі, спосабах нашэння. Што да калекцыі традыцыйных строяў гэтага музея, яна адна з самых багатых у Беларусі.**

"Мы не маем магчымасці паказаць усю калекцыю, таму ў экспазіцыі прадстаўлены строі, што паказваюць лакальныя, рэгіянальныя адметнасці традыцыйнага беларускага касцюма", — расказвае Марыя Віннікава, старшы навуковы супрацоўнік аддзела старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства.

Жаночыя строі вельмі разнастайныя. "На Беларусі выдзяляецца шэсць гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў, мы пастараліся іх усе прадставіць у экспазіцыі, — працягвае Марыя Мікалаеўна, — Гэта Заходняе і Усходняе Палессе, Падняпроўе, Панямонне, Цэнтральная Беларусь, Паазер'е. Па розных прычынах мала захавалася матэрыялаў пра касцюмы Панямоння, Паазер'я, а да нядаўняга часу мы валодалі зусім небагатымі звесткамі пра традыцыйны касцюм Цэнтральнай Беларусі. Але ў апошнія гады была выяўлена лакальная зона — Бярэзіншчына, на гэтай тэрыторыі касцюм захаваўся ў сваёй першапачатковай чысціні".

Больш таго, менавіта ў Цэнтральнай Беларусі навукоўцам удалося знайсці і рэканструяваць спосабы нашэння ўнікальнага жаночага галаўнога ўбору, што называецца намётка, намёт ці плат (на Заходнім Палессі). "Гэта вельмі старажытны агульнаславянскі ручніковы галаўны ўбор замужняй жанчыны, — распавядае Марыя Віннікава. — У нас яго насілі амаль да сярэдзіны XX ст. Мы даведаліся, што ў Старадарожскім раёне яшчэ ў даваенныя і пасляваенныя гады ён выкарыстоўваўся ў абраднасці, вясельнай і пахавальнай. Падчас пахаванняў у гэты галаўны ўбор завівалі памерлую жанчыну і незалежна ад таго, хто памёр, мужчына ці жанчына, намёт прыбівалі на сцяну. Ён, як доўгая дарога, сімвалізаваў шлях на той свет. У кожнай мясцовасці намётка насілася па-свойму, па-рознаму былі аздоблены і яе канцы. А магла наогул не мець ніякага аздаблення, як, напрыклад, на Кобрыншчыне і ў Драгічынскім раёне. Але спосаб завівання намёта служыў індыкатарам, з якой мясцовасці жанчына. Потым, калі гэты галаўны ўбор выйшаў з ужывання і ўсе сталі насіць хусткі, мы заўважаем, што хусткі завязвалі так, як намёткі".

Па-свойму адметны і Неглюбскі строй — яшчэ ў сярэдзіне XX ст. традыцыйныя касцюмы ў Неглюбцы (Веткаўскі раён) насілі на царкоўныя, народныя святы. "Цікава ў ім перш за ўсё тое, што тут захаваўся вельмі старажытны тып пояснога адзення замужняй жанчыны, што мае назву панёва, — адзначае Марыя Мікалаеўна. — Гэта да сярэдзіны сшытыя дзве полкі ваўнянай тканіны. Апраналіся яны таксама адметна: упоперак складвалі палотнішчы, абгортвалі вакол стану так, што два крылы (нясшытыя часткі) аказваліся па баках, а сшытая — знізу, ззаду. Потым правы ражок сшытай часткі падцягвалі ўверх, каб другі рог стаў пасярэдзіне, і такім чынам адкрываўся ўпрыгожаны падол сарочкі. А ззаду ўтваралася своеасаблівая трохвугольная "кішэня". Па таліі панёва падпяразвалася плеценым эластычным поясам".

У Кобрынскім касцюме свае асаблівасці: тут жанчыны насілі два фартухі — адзін завязвалі як звычайна, а другі — падаткнутым пад пояс так, што ўтваралася кішэня спераду. Але не штодзень так хадзілі, напрыклад, калі жанчына ішла на кірмаш, у другі фартух клала пачастунак, грошы. Калі сваццці ішлі па маладую, то клалі пачастункі для маладой: бохан хлеба, сыр.

"У строях Гродзеншчыны і заходняй часткі Міншчыны выкарыстоўвалася менш самаробнага палатна, больш крамнай тканіны, касцюмы мелі складаны крой, — распавядае Марыя Віннікава. — Нават калі шылі адзенне з тканіны хатняга вырабу, то на гарадскі манер. Адметная і каларыстыка, тут сустракаюцца адценні фіялетавага, барвовага колеру, што набліжае строі да касцюмаў суседзяў — палякаў, літоўцаў".

Ці папаўняецца калекцыя новымі строямі сёння? На гэта пытанне Марыя Мікалаеўна адказвае: "Музею ўжо больш як трыццаць год, за гэты час прадметы да нас траплялі рознымі шляхамі: падчас экспедыцыйных збораў набываліся на месцах, частка нашай калекцыі, у тым ліку і строі, перададзена з Вільнюса, з этнаграфічнага музея Літоўскай ССР. Сёння калекцыя таксама папаўняецца: мы самі выязджаем у экспедыцыі, а часам аддаюць касцюмы наведвальнікі пасля знаёмства з музеем. Паціху накопліваецца матэрыя для новых строяў".



***На здымку: фрагмент музейнай экспазіцыі: маладзечанскі, навагрудскі, гродзенскі строі, пачатак XX ст.***

## Эміліі прысвячаецца

Чэслава ПАЛУЯН

У мастацкай галерэі Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка да 20 сакавіка працуе выстаўка, прысвечаная Эміліі Плятэр.

З імем гэтай гераіні нацыянальнага руху, фальклярысткі, удзельніцы паўстання 1830-31 гг. у Польшчы, Літве і Беларусі звязаны, бадай, адны з самых рамантычных і гераічных старонак у гісторыі нашага краю. Менавіта Эміліі Плятэр быў прысвечаны 18-ы Драздовіцкі пленэр, што ў жніўні мінулага года прайшоў на Браслаўшчыне, у мясцінах, звязаных з лёсам паўстанкі. На выстаўцы, што цяпер працуе ў Полацку, прадстаўлены работы мастакоў, зробленыя падчас пленэру.

# Біяграфія віцебскага краязнаўства

Мікола БЕРЛЕЖ

Адметнай падзеяй для беларускага асветніцтва з'яўляецца выхад біябібліяграфічнага даведніка "Краязнаўцы Віцебшчыны другой паловы XX — пачатку XXI ст.".

У 2006 годзе да чытача прыйшоў даведнік "Даследчыкі Полацка-Віцебскай даўніны XIII ст. — 1944 г.". Фактычна кнігай, выдадзенай у мінулым, 2010-м, годзе кандыдат гістарычных навук Мікалай Півавар працягвае ранейшую працу. Толькі ўжо пад вокладкай сабраны біяграфіі і бібліяграфія краязнаўцаў, якія працавалі ці працуюць над вывучэннем гісторыі Віцебскага краю пасля 1944 года. "Асноўнымі крытэрыямі ў адборы персаналій у даведнік, — заўважае ў "Прадмове" аўтар, — з'явіліся: публікацыйная дзейнасць (выданне кніг, публікацыя артыкулаў у навуковым і перыядычным друку, інтэрнэт-выданнях), грамадска-асветніцкая праца (удзел у мерапрыемствах, навуковых праграмах, канферэнцыях, семінарах, у мас-медыя: выступленні на радыё, тэлебачанні, інтэрв'ю ў газетах і часопісах); удзел у стварэнні музеяў і экспазіцый, дабрачынная дзейнасць (па добраўпарадкаванні помнікаў і памятных мясцін, мецэнацтва)".

Знаёмячы з плёнам жыцця і дзейнасці больш як 570 краязнаўцаў, М. Півавар паказвае надзвычай шырокую панараму работы па вывучэнні гісторыі Віцебшчыны. Многія персаналіі чытаюцца надзвычай цікава. Гэта найперш тычыцца тых матэрыялаў, якія прысвечаны найболей руплівым, актыўным збіральнікам памятак роднага краю. Як у выпадку з персаналіямі Святаслава Асіноўскага (нарадзіўся ў 1951 годзе ў Смалянах Аршанскага раёна), Васіля Бандарэвіча (нарадзіўся ў 1955-м у Сенненскім раёне, даследуе гісторыю Сенненшчыны), Вітольда Ермалёнка (нарадзіўся ў 1954-м у Браслаўскім раёне, стварыў у СШ № 3 г. Міёры Музей кнігі і друку), Анатоля Крачкоўскага (нарадзіўся ў 1949-м у Докшыцкім раёне, аўтар многіх кніг, прысвечаных Бешанковічам, ураджэнцам гэтай старонкі), Віктара Лютынскага (нарадзіўся ў 1963 годзе ў Оршы, напісаў кнігу "Орша ў вайне 1812 года", вядомы як шматгадовы дырэктар Музея гісторыі і культуры Аршаншчыны) і інш.

Несумненную ўвагу даведнік пра краязнаўцаў Віцебшчыны павінен выклікаць у настаўніцтва вобласці. Можна толькі пашкадаваць, што ў кнігі, выдадзенай мінскім "Кнігазборам", вельмі і вельмі абмежаваны тыраж — 600 экзэмпляраў. А "Краязнаўцы Віцебшчыны другой паловы XX — пачатку XXI ст." — даведнік, без якога нельга ўявіць буйныя бібліятэкі ўсяе Беларусі.

# Вяртанне Гелены Скірмунт

Віктар ХУРСІК

"О, Божа, якая прыгажосць! Ляту, ляту да вас, мае родныя браты-дубы, ляту да сенажацяў і птушак, з вамі я, родныя!" — Гелена смяялася, і паслухмяная кабыла Гардзюта несла маленькую наездніцу на родныя абшары. Трапяталі стужкі на дзіцячым капялюшыку, развяваліся фалды сукенкі, а дзіцячы галасок усё паўтараў: "Наперад, наперад, Гардзюта!"

У лесе Гелена спынялася, запыхаўшыся саскоквала з сядла, адпускала каня і, размясціўшыся на вялікім пні, пачынала маляваць. То былі першыя спробы юнай беларускай мастачкі выказаць любоў да роднай прыроды.

Ад нараджэння хваравітая, з аслабленым зрокам, не надта прыгожая з твару Гелена ніколі не імкнулася трапіць у кола знакамітых аднагодкаў. Яе цалкам задавальняў свет бацькоўскага дома ў Калодным — родавым маёнтку на Століншчыне. Навакольнае жыццё праламлялася выключна праз лёсы родных і блізкіх, якія былі вялікімі патрыётамі Літвы-Беларусі. Яе дзядзька (родны брат маці), вядомы мастак і кампазітар Напалеон Орда, быў для Гелены сапраўднай легендай. Маці любіла расказваць дачцэ пра свайго таленавітага брата, які жыў у далёкай Францыі.

Калі дзяўчыне споўнілася трынаццаць, каб палепшыць здароўе дачкі, маці павезла яе да дактароў у Вільню. У горадзе бруіла культурнае і асветніцкае жыццё, Вільня заставалася неафіцыйнай сталіцай літвінаў, і маці спадзявалася, што Гелена здолее тут вучыцца. Але ўрачы катэгарычна забаранілі чытаць кнігі. "Маляваць — калі ласка", — такі быў іх вердыкт. Тут жа, у Вільні, з просьбай даваць дачцэ ўрокі маці звярнулася да Вінцэнта Дмахоўскага, выдатнага беларускага мастака, скульптара і знакамітага сцэнографа. Ён пагадзіўся і хутка быў уражаны талентам вучаніцы. Дзяўчынка, якая не мела ніякай адукацыі, паказвала выдатныя якасці маляпальшчыцы.

У тагачаснай Вільні юная мастачка была міжвольнай сведкай палітычных падзей. Пасля паўстання 1831 года выступы незадавальнення не сціхалі. Сярод падазроных і арыштаваных былі знаёмыя сям'і Скірмунтаў. У лютым 1839 года расстраляны Сымон Канарскі. Гэта трагічная падзея скаланула край і аказала вялікі ўплыў на Гелену. Між тым бацькі палічылі за лепшае не спакушаць лёс, разлічыліся з Дмахоўскім і забралі дзяўчынку зноў у маёнтак, дзе яна сталела і працягвала маляваць.

У 1845 годзе Гелена разам з маці выехала за мяжу. Васямнаццацігадовая дзяўчына хацела працягнуць адукацыю, але туды, дзе вучыліся юнакі, не бралі: дзіва — жанчына-мастак! "Трэба пра шлюб думаць, пра кіндар, кухе, кірхен", — прыблізна так ёй адказалі ў Берліне. І толькі вядомы марыніст Краўзе, у якога была вялікая сям'я і дочкі якога таксама прысвяцілі сябе мастацтву, згадзіўся даваць урокі. А потым быў Парыж, сустрэча з дзядзькам Напалеонам Ордам. У Луўры яе гідам быў скульптар Уладзіслаў Аляшчынскі.

З замежжа ў Калоднае яна вярнулася асобай і цалкам аддалася творчасці. Вось толькі здароўе пастаянна нагадвала пра сябе. У 1852 годзе, ужо замужняя, Гелена адправілася на лячэнне ў Вену, дзе паспрабавала наведаць майстэрні тагачасных славутых майстроў. Адмаўлялі ёй ветліва. Вядомы венскі скульптар і медальер Ёзаф Цэзар таксама паставіўся да яе з іроніяй, але потым пагадзіўся даваць лекцыі. Якім жа было яго здзіўленне, калі беларуская вучаніца паказала выдатнае валоданне глінай, як быццам яна ўжо некалькі гадоў займалася лепкай! На ўроках Цэзара Гелена засвоіла ўсе тагачасныя віды скульптурнага майстэрства — ад рубкі мармуру да ліцця з бронзы. Захоплены талентам сваёй вучаніцы, мэтр палічыў за гонар прадставіць яе сваім венскім сябрам-мастакам: Марку, Прэлёйтнэру, Баўэру і іншым. Калі і саступала яна ў нечым ім — то толькі ва ўзросце. У творчых адносінах, дасведчанасці ў гісторыі мастацтва, яны размаўлялі нароўні.

Пасля Вены быў Рым, галерэі Ватыкана, велічныя помнікі вечнага горада, практыка ў майстэрні скульптара Пятра Галі. А з Рыма — у Неапаль, Фларэнцыю, Венецыю, Швейцарыю... Шкада, што мы не ведаем тых імёнаў, не назавём створаныя імі шэдэўры. А было ж акрамя выдатнага рускага яшчэ і еўрапейскае мастацтва. І наша суайчынніца займала ў ім не апошнее месца.

Як чалавек, які ведаў эканамічную сітуацыю ў Еўропе, у 1861 годзе Гелена была гатова павітаць перамены ў жыцці сялянства. Але бяздарная рэформа ўмомант нарадзіла канфлікт. Палыхаў тады ўвесь Паўночна-Заходні край, чым больш лілося крыві паўстанцаў, тым большымі былі антырасійскія настроі, і зразумела, што ўзнёслая натура Гелены Скірмунт не магла апынуцца ў баку ад падзей. Пазней тыя, хто ведаў яе, будуць пытаца: "Чаго ёй не хапала?" Дух бунтаваў ад хлусні, здрады, чужынскай прысутнасці. Яна вельмі хацела ў родным маёнтку быць жыхаркай Еўропы.

Толькі аднойчы паўстанцам спатрэбілася яе дапамога. Гелене належала даставіць





ім тэрміновую дэпешу. Яна села ў брычку і паехала з маладым фурманам у бок лесу. Аднак у гушчары пабачыла толькі пабітых расійскіх жаўнераў. Спалохалася, павярнула назад. Ля роднага дома, падбухтораны рускімі служкамі, яе ўжо чакаў раз'юшаны натоўп сялян. Фурман ледзь выратаваў Гелену ад самасуду.

Але суда яна не мінула. Адмералі за тую паездку ў лес еўрапейскай мастачцы ссылку ў Тамбоўскую губерню. Пра гэта распавядаюць дзённікі Гелены з падарожжа ў ссылку. Ніхто з паўстанцаў не занатаваў для гісторыі з такой дакладнасцю партрэт тагачаснай Расіі. Нязломны дух не дазваляў ёй прасіць літасці. У ссылцы яна імкнулася згуртаваць ссыльных, працягвала мастацкую працу. Тут яна распачала адзін з апошніх шэдэўраў — галерэю выдатных скульптурных вобразаў на тэму гісторыі ВКЛ. Страчваючы зрок, не маючы скульптурнай майстэрні, Гелена паспяхова вырашала пастаўленую задачу. Пры гэтым станавілася відавочнай мастацкая ўнікальнасць твораў. Пра гэта сведчылі як кампазіцыя скульптур, так і тэхніка іх выканання. Прыклаўшы вялікія намаганні, яе родныя не толькі вывезлі скульптуры ў Еўропу, але і прадэманстравалі іх на Венскай выставе 1872 года. Гэта быў трыумф.

Больш падрабязна пра жыццё і творчасць Гелены Скірмунт можна даведацца з кнігі "З жыцця літвінкі". Аўтарам яе выступіў сучаснік Гелены, добры знаёмы сям'і Скірмунтаў, таксама выдатны беларускі мастак, сябра Тараса Шаўчэнкі Браніслаў Залескі.

Мастацкая спадчына Гелены Скірмунт захавалася. У 2005 годзе скульптурныя кампазіцыі выкананых ёю шахматных фігур дэманстраваліся ў рамках Еўрапейскіх дзён культурнай спадчыны ў Кракаве, частка работ знаходзіцца за акіянам. Не выключана, што спатканне з мастачкай Геленай Скірмунт некалі адбудзецца і на яе радзіме ў Беларусі.

***На здымках: партрэт Гелены Скірмунт, 1857 год; адна з работ мастачкі — шахматная фігура "Спах".***

# Даследчык краснадонскага падполля

Кастусь ЛАДУЦЬКА

**У Мінску пабачыла свет кніга ўкраінскага гісторыка Уладзіміра Подава.**

"Загадкі і тайны "Маладой гвардыі" — назва дакументальнага даследавання, якое выдадзена ў Беларусі і прысвечана легендарнай маладзёжнай антыфашысцкай арганізацыі, што дзейнічала ў Вялікую Айчынную вайну ў Краснадоне. Аўтар — наш зямляк, палкоўнік у адстаўцы Уладзімір Подаў, які нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Мхінічы Краснапольскага раёна на Магілёўшчыне. Закончыў гістарычны факультэт Растоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Больш як пяцьдзясят гадоў займаецца гісторыяй Данецкага басейна і зрабіў істотны ўнёсак у вывучэнне праблемы засялення Данеччыны, удакладніў час і ўмовы заснавання больш як ста паселішчаў гэтага краю. Па матэрыялах знаходак і адкрыццяў у архівах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Кіева, Харкава, Луганска, Данецка, Адэсы напісаў шэраг адметных гісторыка-краязнаўчых кніг: "Адкрыццё Данбаса", "Славянасербія", "Данбас. Стагоддзе XVIII-е", "Першынец металургіі Украіны", "Легенды і паданні Данбаса", "Гісторыя Данбаса. Стагоддзе XIX-е", "Да таямніц гісторыі".

Значную частку сваіх пошукаў наш зямляк скіраваў на вывучэнне ваеннай гісторыі Данбаса, Краснадона, у прыватнасці. Пра гэта — кнігі У. Подава "Віктар Траццякевіч — камісар "Маладой гвардыі", "Змова ў "Маладой гвардыі" і яе наступствы", а таксама "Загадкі і тайны "Маладой гвардыі". Пісьменнік, гісторык, карыстаючыся многімі дакументамі, аргументавана, доказна распавядае пра героя-"маладагвардзейца" В. Траццякевіча, які толькі 13 снежня 1960 года быў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І ступені. А газета "Правда" 14 снежня 1960 года засведчыла: "На першым пасяджэнні штаба "Маладой гвардыі" Траццякевіч быў прызначаны камісарам арганізацыі". Ды міф пра камісара Алега Кашавога, створаны Аляксандрам Фадзеевым у рамане "Маладая гвардыя", аказаўся надзвычай жывучым. Вось і працягвае сваё росшукі, сваю гісторыка-публіцыстычную працу Уладзімір Іванавіч Подаў, каб доказна і аргументавана ўзнавіць ісціну.

Кніга пра сапраўднага камісара "Маладой гвардыі" яшчэ і таму пабачыла свет у Мінску, што Віктар Траццякевіч каранямі паходзіць з Беларусі. У нашай старонцы нарадзіліся бацькі героя-"маладагвардзейца". А сам В. Траццякевіч лічыў сябе беларусам.

# Ці дойдзем мы да чытача?

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Ва ўтульнай зале 10-й мінскай бібліятэкі прайшоў "круглы стол" "Краязнаўчая літаратура: шлях да чытача", арганізаваны сістэмай публічных бібліятэк сталіцы і РВУ "Літаратура і Мастацтва".**

Патрэба ў правядзенні мерапрыемстваў такога кшталту была відавочнай ужо даўно. Вядучая "круглага стала", намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Ала Корбут так ахарактарызавала ранейшы механізм кнігавыдання: "У выдавецтва прыходзіў аўтар, які прыносіў рукапіс. Мы абмяркоўвалі вартасці і недахопы напісанага, пасля прымалі рашэнне. У станоўчым выпадку кніга выходзіла, траплялa ў краму, бібліятэку, пасля чаго там часам не ведалі, што рабіць з новым выданнем, як яго прэзентаваць чытачу". Каб пазбегнуць такіх памылак, скаардынаваць дзейнасць кнігавыдаўцоў, распаўсюджвальнікаў (кнігарняў) і прэзентатараў (бібліятэк), быў арганізаваны гэты "круглы стол". У мерапрыемстве прынялі ўдзел прадстаўнікі мінскіх бібліятэк, кнігарняў і журналісты.

Дырэктар цэнтральнай сістэмы публічных бібліятэк горада Мінска Алена Кубышкіна ва ўступным слове акцэнтавала ўвагу на агульных праблемах кнігавыдання на роднай мове. Калегі-бібліятэкары яе падтрымалі — яны з задавальненнем прытрымліваюцца ў працы дэвіза: "Час чытаць кнігі роднай краіны". Супрацоўніца Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адзначыла ролю Нацыянальнай бібліятэкі ў прапагандзе беларускай кнігі.

Прысутныя з цікавасцю выслухалі выступленні аўтараў, якія прэзентавалі свае творы краязнаўчай тэматыкі. Мікола Багадзяж расказаў пра кнігу "Беларусь далетапісная", напісаную ў сааўтарстве з Ірынай Масляніцынай. Аляксандр Вашчанка — пра спадчыну Паўла Шпілеўскага, прадстаўленую ў выданні "Беларусь у абрадах і казках" (упершыню перакладзена ім на беларускую мову). Уладзімір Крукоўскі прадставіў даследаванне "Срэбная страла ў чырвоным полі", прысвечанае гісторыі беларускай шляхецкай геральдыкі. Армен Сардараў — кнігу дыялогаў з Адамам Мальдзісам "Даўняя Беларусь. З настальгіяй аб мінулым". А Марына Весялуха, рэдактар краязнаўчага праекта "Зямля пад белымі крыламі" ў штотыднёвіку "ЛіМ", расказала ўдзельнікам пра яго структуру, адзначыла найбольш цікавыя матэрыялы і зрабіла прапановы па супрацоўніцтве.

Выступленне дырэктара кнігарні "Акадэмічная кніга" Вольгі Глухоўскай атрымалася інфармацыйна насычаным. Паводле яе слоў, хітамі продажаў з'яўляюцца альбомы Аляксандра Аляксеева і Алега Лукашэвіча "Спадчына Беларусі", "Наследие Беларуси", "Спадчына Беларусі. Скарбы" і "Скарбы Беларусі", выданне "Радзивиллы. Альбом портретов XVIII-XIX веков", даследаванні, прысвечаныя гісторыі ВКЛ. Адной з самых запатрабаваных застаецца краязнаўчая літаратура (асабліва на беларускай мове). Прычым чытачы адзначаюць яе невысокі кошт.

Сярод праблем сучаснага кнігавыдання В. Глухоўская назвала адсутнасць або недахоп кніг на шматлікія тэмы (напрыклад, зборнікаў беларускіх песень, выданняў па беларускай нацыянальнай кухні і касцюме). У якасці пажаданняў кнігавыдаўцам прагучала прапанова, каб кнігі і праспекты выходзілі на дзвюх дзяржаўных, а лепш і на трох мовах (беларускай, рускай і англійскай). Толькі тады, на думку В. Глухоўскай, яны будуць карыстацца попытам не толькі ў жыхароў Беларусі, але і ў турыстаў. Таксама дырэктар "Акадэмкнігі" хацела б убачыць на кніжных паліцах выданні праекта, прысвечанага нацыянальным героям Беларусі. Бо апошнія далёка не заўсёды вядомыя шырокім чытацкім колам.

Дыскусія акрэсліла і дасягненні, і пэўныя цяжкасці беларускага кнігавыдання, звязанага з краязнаўствам, і вызначыла перспектывы далейшай працы.

# «Дапытваць душу чалавека…»

Ева ЛЯВОНАВА

## Псіхалагічнае майстэрства Кнута Гамсуна

**Кнут Гамсун нарадзіўся 4 жніўня 1859 года ў сям'і вандроўнага краўца. Пасля заканчэння ў 1873 годзе пачатковай школы працаваў гандляром, докерам, вясковым пісарам, хатнім настаўнікам, дарожным рабочым, пазней — журналістам. Двойчы наведаў ЗША, пабываў у Фінляндыі, Расіі, Персіі, Турцыі, Францыі. Першай значнай публікацыяй К. Гамсуна стала кніга нарысаў "Духоўнае жыццё Амерыкі" (1889). Асабліва плённа ён працаваў у раманнай прозе ("Голад", 1890; "Містэрыі", 1892;"Новая зямля", 1893; "Пан", 1894; "Вікторыя", 1898). К. Гамсун пакінуў таксама заўважны след у навелістыцы, паэзіі, драматургіі (найбольш вядомая яго трылогія — "Каля брамы царства", 1895; "Гульня жыцця", 1896; "Вечаровая зара", 1898). Апошняй яго значнай працай стала аўтабіяграфічная кніга "Па зарослых сцежках" (1949). Памёр К. Гамсун у 1952 годзе.**



Апошні перыяд яго жыцця быў азмрочаны калабарацыянізмам. Састарэлы пісьменнік падтрымаў лідара нарвежскіх фашыстаў Квіслінга, а пазней — і акупацыю Нарвегіі гітлераўцамі. У 1948 годзе нарвежскі суд абвінаваціў яго ў здрадзе радзіме. Як трапна скажа Л. Дранько-Майсюк у нататцы "Плач без слёз", "Кнут Гамсун пачынаў сваё вялікае жыццё еўрапейскім правінцыялам, а скончыў яго сусветным ізгоем". Аднак вялікая і неаспрэчная правіна К. Гамсуна не перакрэсліла яго твораў. Яны, кажучы словамі расійскага літаратуразнаўцы Б. Сучкова, "уяўляюць, нягледзячы на цяжкія памылкі пісьменніка як чалавека, адну з тых духоўна-эстэтычных каштоўнасцей, без якіх мастацкі кругагляд нашага стагоддзя быў бы вузейшым, а вопыт — бяднейшым".

Каб зразумець і належным чынам ацаніць эстэтычныя адкрыцці К. Гамсуна, трэба ўяўляць стан тагачаснай еўрапейскай літаратуры. У другой палове XIX стагоддзя як ніколі раней выразна дала пра сябе знаць неабходнасць у яе псіхалагізацыі. Дастаткова аднабаковы падыход да выяўлення персанажа, абумоўлены мастацкімі сістэмамі спачатку рамантызму, а пасля рэалізму (з яго дэтэрмінаванасцю героя сацыяльным асяродкам) і тым больш натуралізму, не задавальняў нават тых пісьменнікаў, у чыіх творах ён пераважаў. У скандынаўскіх літаратурах тэндэнцыя да цэласнай, псіхалагічна пераканаўчай абмалёўкі вобраза таксама набыла даволі інтэнсіўны характар, але пазней, чым у шэрагу іншых еўрапейскіх літаратур; з цягам часу яна атрымае вызначэнне "новы рэалізм". "Зварот да пачуцця", да душэўна-псіхалагічных патэнцый героя, прадугледжаны "новым рэалізмам", нарвежскай літаратуры даваўся нялёгка, і роля К. Гамсуна ў гэтым працэсе — выключная. Яго канфлікт з традыцыйным "аб'ектыўным аналізам" быў гэткім радыкальна-палкім, што і сёння пакідае ўражанне асабістага. У праграмным артыкуле "Псіхалагічная літаратура" (1891) малады аўтар кідае сапраўдны выклік мастакам-суайчыннікам: "Мы да гэтага часу іграем на катрынцы — на трох-чатырох асноўных пачуццях…"

У сувязі з гэтым процьму закідаў ад К. Гамсуна мела нарвежская "вялікая чацвёрка" — Юнас Лі, Аляксандр Х'елан, Б'ёрнсцьерне Б'ёрнсан і, зразумела, Генрык Ібсен. Як пры жыцці К. Гамсуна, так і пасля яго смерці адным з улюбёных сюжэтаў шматлікіх прысвечаных яму даследаванняў стаў матыў "Гамсун супраць Ібсена". На схіле жыцця Ібсен зазвычай чуў хваласпевы. А тут "нейкі" пачатковец асмеліўся ў сваім артыкуле "Нарвежская літаратура" (1891) абвінаваціць яго, на той час ужо славутага пісьменніка, у "прамалінейнай адназначнасці" і "ненатуральнай абмежаванасці" створаных ім характараў. Паводле К. Гамсуна, звычайны паштальён або вулічны хлапчук цікавейшыя за ібсенаўскіх герояў. Тое ж і з Б'ёрнсанам: які з яго псіхолаг, калі ён лічыць, што Нарвегія, дзякуй богу, не Расія з яе "загадкавай душой", у нарвежца моцныя нервы, ён не пакутуе на тэмперамент ці якую іншую "хваробу". Аднаго са сваіх персанажаў, распавядае Гамсун, Б'ёрнсан вырашыў у фінале твора пазбавіць жыцця, але за пакутніка заступілася жонка пісьменніка, фру Б'ёрнсан: як можна, ён жа нікому не зрабіў блага. То добра, хай жыве, пагадзіўся муж. І гэта — псіхалогія?!

Вялікі рэзананс меў артыкул К. Гамсуна "Аб несвядомым духоўным жыцці" (1890), напісаны, што паказальна, раней за выхад першай кнігі З. Фрэйда. Гэтая праца набліжае нас да асобы і творчых намаганняў пісьменніка як, можа, ніводная іншая яго публікацыя. Часам амаль спавядаючыся, не пакідаючы месца для сумневу, што прадмет мастацкага даследавання для яго — найперш ён сам, К. Гамсун даводзіў, што расце колькасць тых, хто напружана мысліць, на ўласным вопыце перажывае раптоўныя парыванні, імгненні несвядомай лучнасці з прыродай, загадкавыя псіхалагічныя з'явы і дзіўныя душэўныя станы. Глыбокі мастацкі псіхалагізм азначаў для пісьменніка "дапытваць душу" чалавека, пранікаць ва ўсе яе падзеі і таямніцы. Душа — вось асноўнае месца дзеяння ў творах К. Гамсуна і асноўны аб'ект яго вывучэння: "Мяне цікавіць душа, якая адчувае і дзейнічае вольна і, быццам непераможная амазонка, лунае над нябёсамі і апраметнай. І таму я слядкую за ёй — неадступна".

Пачуццё ў творах Кнута Гамсуна нібы матэрыялізуецца, настолькі адчувальна-бачныя ўсе яго найтанчэйшыя праявы, усе яго паўтоны і адценні, спантанныя рухі — зменлівыя, пералівістыя, незавершаныя. Чалавечае быццё ў адлюстраванні нарвежскага празаіка пазбаўляецца штучнасці і працякае ў максімальна набліжаных да натуральнасці свядомасных межах.

Тэарэтычныя інвектывы і ўнутраныя памкненні Кнута Гамсун суправаджаў адпаведнымі мастацкімі рэалізацыямі. Асабліва ў гэтым сэнсе паказальныя яго раннія раманы — "Голад", "Містэрыі", "Пан", "Вікторыя". Якраз у іх напоўніцу раскрылася псіхалагічнае наватарства Гамсуна. Нобелеўскай прэміяй мастак быў ўганараваны, як вядома, за "Плёны зямлі", аднак аўтар, па шматлікіх сведчаннях, не адносіў гэты твор да сваіх самых значных. Менавіта ў ранняй прозе К. Гамсуна здзяйсняецца сапраўдная душэўная анатомія чалавека, якая пазней значна саступіць месца сацыяльна-грамадскай праблематыцы, хаця апошняя ўлічвалася пісьменнікам заўсёды, іначай пазбегнуць нарматыўнасці і аднабаковасці было б немагчыма.

Раман "Голад" многія сучаснікі ўспрынялі як выключна аўтабіяграфічны. Сапраўды, шмат перажытага Гамсунам у юнацтве знайшло адлюстраванне ў гэтым творы. Аднак для самога аўтара было надзвычай важна, каб у "Голадзе" чытач убачыў не толькі ўвасабленне голаду — пра яго дастаткова пісалі і раней. У многіх лістах Гамсун заўважае, што ў "Голад" ён перанёс не так свае фізічныя, як душэўныя пакуты, што яго "цікавіў проста бясконцы рух душы": "…мне ўдалося апісаць псіхалагічныя станы, нязвыкласць і навізна якіх, у кожным разе, нікога не могуць стаміць аднастайнасцю. З першай і да апошняй старонкі не паўтараецца ніводнае адчуванне… Я паспрабаваў напісаць… кнігу без жаніцьбы, паездак на прыроду і балю ў заможнага гандляра…"

Зрэшты, у наступных творах будуць і пікнікі, і гандляры; кнігі стануць сюжэтнымі, аднак застануцца ўсё тымі ж "нервовымі містэрыямі". Асаблівым багаццем псіхалагічна-пачуццёвай палітры адметнае ў К. Гамсуна адлюстраванне ўзаемаадносін паміж мужчынам і жанчынай. Гэты спаконвечны матыў вызначае змест і "Містэрый" (дзе Гамсуна, умоўна кажучы, больш за самога Гамсуна), і "Пана", і "Вікторыі", якую ён, па ўласным прызнанні, "пісаў удзень і ўначы" і над якой "плакаў як вар'ят". Усе тры кнігі, па сутнасці, — варыяцыі адной драмы. Іх лучыць настраёвая атмасфера, трывожна-напружаная, набрынялая непазбежнай і блізкай трагедыяй; канфлікты твораў, унутраная расстаноўка персанажаў, іх псіхалогія і паводзіны структураваны амаль па адным прынцыпе. Галоўнае ж, што яднае раманы, — гэта тэма кахання. Сусветная літаратура неверагодна багатая на творы пра каханне, аднак няшмат знойдзецца кніг, дзе ўся гама эмоцый апантанага страсцю чалавека прайгравалася б з такой паўнатой, як у К. Гамсуна; тут ёсць усе падставы гаварыць не толькі пра паэтыку, але і пра філасофію пачуцця. Ва ўсіх трох творах К. Гамсуна перад чытачом — каханне-дуэль, каханне-саперніцтва, каханне-барацьба, у якой няма і не можа быць пераможцы і якой з самага пачатку наканаваны сумны фінал. І справа не ў вонкавых абставінах, не ў сацыяльнай няроўнасці, а ў характарах герояў, у чалавечай прыродзе. У кожным з раманаў адна-адзіная гераіня — страсць, праз якую Гамсун пасвячае нас у "патаемнае", у глыбіні сэрца і свядомасці. Яго героі — натуры антынамічныя, дваістыя ці нават стэрэаскапічныя, з супакладзенымі ў іх рознымі, часам узаемавыключальнымі, пачаткамі. Свядомасць герояў то бунтуе, то спрабуе адаптавацца, рэагуе то прадказальна, то нечакана; канец жа заўсёдна трагічны: ступень індывідуальнасці, суверэннасці персанажа гэткая, што не можа абсарбіравацца ні грамадскімі, ні прыватнымі стасункамі.

Звяртае на сябе ўвагу і яшчэ адна рыса характараў і паводзін гамсунаўскіх герояў — хваравітасць, разумець якую варта не толькі літаральна, хаця і гэты аспект прысутнічае нязменна. К. Гамсун пачынаў пісаць у эпоху, адзіная перспектыва якой многім бачылася ў апакаліпсісе. Хворы час — хворыя людзі. Іх свядомасць і падсвядомасць мусяць віраваць у пошуках калі не шляху, то хаця б выратавальнай сцяжынкі. Прыгадайма "Запіскі з падполля" Ф. Дастаеўскага: "Клянуся вам, панове, што зашмат думаць — гэта хвароба…"

Гамсунаўскія "ўскладненыя" персанажы таксама ў пэўным сэнсе зашмат думаюць, яны — белыя вароны, чужаніцы, не прымаюць крывадушнасці, залішне мрояць і мысляць. І кахаюць залішне моцна, пры гэтым упарта не жадаючы прызнаваць сваёй душэўнай падпарадкаванасці іншаму. Пазней Юнг у кнізе "Псіхалагічныя тыпы" дасць ілюстрацыі да апісанага яшчэ Гераклітам закону, паводле якога ўсё рана ці позна ператвараецца ў сваю процілегласць: Павел прыме хрысціянства, вучоны Сведэнборг стане містыкам і г.д. Падаецца, той жа закон кіруе героямі Гамсуна, і асабліва — гераінямі, у якіх пастаяннае адно непастаянства: гэтыя "бурыданавы асліцы" ніяк не зробяць апошняга кроку, але і не адпускаюць, вабяць, але і адштурхоўваюць, то прызнаюцца ў каханні, то абражаюць і зневажаюць. Нядзіўна, што паводзіны персанажаў Гамсуна багатыя на ўчынкі-казусы: вось Глан пасярод балю, публічна, плюе ў вуха свайму саперніку-барону, вось ён, пакрыўджаны Эдвардай, прастрэльвае сабе нагу і г.д. Гэтыя афектыўныя ўчынкі, зразумела, не могуць не выклікаць асацыяцый з Дастаеўскім (згадайма Мікалая Стаўрогіна, які ў дваранскім сходзе за нос праводзіць пана Гаганава праз усю залу).

> *Глыбокі мастацкі псіхалагізм азначаў для пісьменніка "дапытваць душу" чалавека, пранікаць ва ўсе яе падзеі і таямніцы. Душа — вось асноўнае месца дзеяння ў творах Кнута Гамсуна і асноўны аб'ект яго вывучэння: "Мяне цікавіць душа, якая адчувае і дзейнічае вольна і, быццам непераможная амазонка, лунае над нябёсамі і апраметнай. І таму я слядкую за ёй — неадступна".*

Філіграннае псіхалагічнае майстэрства пісьменніка закранула ўсе кампаненты мастацкай сістэмы твора. Не ў апошнюю чаргу гэта датычыцца дыялога. У К. Гамсуна чалавек адкрываецца ў дыялогах球 рознага кшталту — з прыродай, Богам, людзьмі, — і часта гэтыя дыялогі здзяйсняюцца ў непарыўнай злітнасці адно з адным, выконваючы якраз функцыю паглыблення мастацкага псіхалагізму: ахопленыя каханнем героі прамаўляюць зусім не адпаведныя стану словы, а фігуры ўмаўчання даносяць больш за рытуальны абмен фразамі. Так у паэтыцы Гамсуна ўвасабляюцца дынаміка свядомасці і дыялектыка перажывання. У вышэйшай ступені адпавядае мастацкаму псіхалагізму Гамсуна яго ўніверсальная апавядальная манера — арганічны сінтэз рэалізму і натуралізму, сімвалізму і, найперш, імпрэсіянізму, важнага ў гэтым выпадку прынцыпова і канцэптуальна. Праз гэтыя і іншыя навацыі псіхалогія герояў паўстае шматмернай і драматычнай, выведзенай на новы ўзровень мастацкага даследавання, каб з цягам часу займець развіццё ў пісьменнікаў-наступнікаў — прадстаўнікоў розных краін, школ і напрамкаў.

К. Гамсун быў вельмі папулярны ў пачатку XX стагоддзя ў Беларусі. Яму прысвячалі артыкулы, даклады, лекцыі. Ва ўплыве яго на ўласную творчасць прызнаваўся Янка Купала, асабліва вылучаючы п'есу Гамсуна "Каля брамы царства". Ю. Пшыркоў, І. Навуменка, У. Сакалоўскі і іншыя пісалі пра глыбокую цікавасць да яго Якуба Коласа. І. Навуменка бачыў агульнае паміж беларускім і нарвежскім класікамі найперш у натурфіласофскай праблематыцы іх прозы. Беларускім Гамсунам назваў Якуба Коласа нарвежскі літаратуразнаўца Марцін Наг, параўноўваючы "Плёны зямлі" з Коласавай "Новай зямлёй". Ю. Пшыркоў у артыкуле "Незабыўныя сустрэчы" распавёў, як здзівіў яго Якуб Колас паведамленнем, што "ў маладосці вельмі захапляўся творчасцю Кнута Гамсуна". Максім Танк у "Лістках календара" пісаў: "Кнута Гамсуна я палюбіў за яго "Голад" і "Вікторыю", бо ведаў, што такое голад і каханне…" Вялікае ўражанне на Максіма Танка зрабіў верш Гамсуна, які трапіўся яму ў польскім перакладзе і які ён з польскай мовы пераклаў на беларускую пад назвай "Месца пахавання". Мастацкую манеру нарвежскага раманіста аналізаваў у свой час У. Дубоўка.

Не змяншаецца цікавасць да творчасці К. Гамсуна і ў нашы дні. Яго навелу "Царыца Саўская" перастварыў па-беларуску Л. Баршчэўскі. Маладая беларуская даследчыца літаратуры В. Уткевіч абараніла кандыдацкую дысертацыю "Тыпалогія нацыянальнага характару ў творчасці Кнута Гамсуна і Максіма Гарэцкага". Тыпалогіі твораў К. Гамсуна і беларускіх майстроў слова прысвяцілі свае навуковыя артыкулы П. Васючэнка, Т. Тарасава, І. Багдановіч.

# Рэканструкцыя адносін

## Уладзімір Караткевіч і Ніна Молева. Доўгае развітанне

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Дадзены артыкул з'яўляецца завяршэннем даследавання пра ўзаемаадносіны У. Караткевіча з Н. Молевай, якая выкладала ў пісьменніка гісторыю мастацтваў на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве (пачатак гл. у "ЛіМе" № 6 — 8, 2011 г.). Артыкул пабудаваны на параўнанні творчасці Караткевіча (вершы і паэмы, раман "Леаніды не вернуцца да Зямлі", у якім героі дзейнічаюць пад імёнамі Андрэя Грынкевіча і Ірыны Горавай) і перапіскі пісьменніка з Н. Молевай, Я. Брылём і Ю. Гальперыным (урыўкі ліставання з апошнім друкуюцца ўпершыню). Фрагмент рамана суадносіцца з цытатай з эпісталярнай спадчыны. Дадзеная праца з'яўляецца рэканструкцыяй, аўтарскай версіяй узаемаадносін паміж У. Караткевічам і Н. Молевай.**

Неўзабаве пасля вандроўкі ў Ленінград адбылася вырашальная сустрэча. *"І тут яна павярнула да яго аблічча, нейкае такое незнаёмае аблічча, што ў Андрэя абарвалася ўнутры. Што ў ім было, у гэтым чужым аблічы? Вядома, было яно трохі больш змарнелым, чым заўсёды. Але галоўнае было не гэта, не пустыя вочы, нават не пасмяглыя вусны. Галоўным быў выраз. Быў на гэтым твары выраз такой грэблівай пагарды, што стократна горшы і за самую нянавісць. Сустрэў на вуліцы суседа па інтэрнаце. Той казаў нешта аб тым, што яго шукаюць тры дні... <…> Значыць, тры дні не начаваў там. А дзе? Гэтага ён не помніў".* Потым, *"дома, перад тым як легчы спаць, ён знішчыў вершы, прысвечаныя Ірыне, знішчыў усе паперы, дзе хаця б прыпаміналася яе імя. Ён падаў з ног ад стомы, але не мог спаць, пакуль у пакоі заставаліся сведкі яго слабасці і яго ганьбы"* ("Леаніды не вернуцца да Зямлі").

А вось сведчанні самога пісьменніка. 28 чэрвеня 1960 года Уладзімір Караткевіч пісаў Юрыю Гальперыну: *"Предстоит лето работы. Кончена Москва. А жаль немного. И хуже всего, что <…> оставил в Москве едва ли не самого дорогого мне человека. Так ничего у меня и не вышло. И ведь знаю, что не такой уж добрый она человек, что, может, и жалеть не стоит, а всё равно так скверно на душе, что дальше некуда. Что называется, "не везет". Напоследок из-за всей этой неурядицы, из-за огорчений и предстоящей разлуки неделю беспробудно трескали с ребятами винище. Уж мы его жрали, лакали, уничтожали. И всё равно много осталось этой пакости в мире.*

*А до этого был Ленинград и короткие дни вместе: музеи, сады, улицы. И о каждом доме легенда, а о каждой картине в музее хоть новеллу пиши. Я влюблён в этот город, в горбатые мостики, в начало белых ночей, в блоковские острова, в закат над стрелкою, в тени рогатых колонн на нём. И каждая улица освящена ею.*

*Нескоро я теперь, парень, смогу полюбить, много, наверное, огорчений принесу другим и нескоро, наверное, попаду в Ленинград. Только когда притупится все окончательно, а иначе – как на дорогую могилу ехать.*

*Может ещё и сведёт бог. Мои, на студии, предлагают через год отправить меня на два года в Москву на курсы сценаристов. Условия те же, и я не вижу причин отказываться. Всё же это лучше, чем те два года вкалывать в редакции газеты"* (БДАМЛМ. Ф.56. Воп. 2. Спр. 15. Л. 6).

### Доўгае развітанне

Той намер ажыццявіўся. У 1960-1962 гадах Караткевіч зноў жыў і вучыўся ў сталіцы Саюза. Гэта была тая і не тая Масква. Здавалася б, горад не паспеў істотна змяніцца. Нават жыў пісьменнік у тым жа інтэрнаце, што і раней. Але побач не было Ніны. Дакладней, была. Толькі не наяве, не побач, а на старонках рукапісаў і ва ўяўленні.

Яшчэ 16 сакавіка 1960 года Уладзімір Сямёнавіч напісаў Янку Брылю: *"І калі-небудзь, калі ўсё будзе скончана назаўсёды, я паспрабую апісаць гэта, каб самому яшчэ раз прайсці гэтай дарогай і правесці па ёй блізкіх і дарагіх людзей, для якіх я пішу заўсёды. І, магчыма, трошкі супакоіцца".* "Другі маскоўскі перыяд" стаў часам стварэння рамана "Леаніды не вернуцца да зямлі". Твор пачаў пісацца ў верасні 1960-га і быў завершаны ў лютым 1962 года. Публікацыя адбылася ў майскім і чэрвеньскім нумарах часопіса "Полымя" за 1962 год.



На наступны год была запланавана аднайменная кніга, куды павінны былі ўвайсці раман і аповесць "Дзікае паляванне караля Стаха". Але набор падрыхтаванага тома быў рассыпаны. Доўгі час "Леаніды…" заставаліся толькі ў часопісным варыянце. На іншым мовы раман не перакладаўся наогул. У 1982 годзе твор пад назвай "Нельга забыць" выйшаў асобнай кнігай. Цікава, што Молева казала ў інтэрв'ю, што не чытала раман, паколькі не ведае беларускай мовы.

Між тым узаемаадносіны з Нінай Міхайлаўнай, цяжкія, балючыя, але такія прыцягальныя, то згасалі, то аднаўляліся зноў. У рамане Ірына Горава ўсё ж злучыла свой лёс з Андрэем Грынкевічам. І, адначасова, згадзілася на аперацыю, пасля правядзення якой яе сэрца не вытрымала.

Пакуль даследчыкі не маюць звестак, якія дазваляюць удакладніць узаемаадносіны У. Караткевіча і Н. Молевай у "другі маскоўскі перыяд". Наогул, ці былі яны? Як у рэальнасці прайшла аперацыя? На апошняе пытанне адказаць прасцей. Калі ўлічваць факт, што Молева, на радасць сваім чытачам, жыве і цяпер, відавочна, усё прайшло добра.

У ліставанні пісьменніка з Ю. Гальперыным і Я. Брылём асоба Ніны Міхайлаўны больш не ўзгадваецца. Між тым успаміны Валянціны Паповай (Чакалавай), апублікаваныя ў лістападаўскім нумары часопіса "Полымя" за 2000 год, сведчаць, што на той час у пісьменніка былі іншыя захапленні.

Вядомы яшчэ адзін ліст Уладзіміра Сямёнавіча да Н. Молевай, які датаваны 26 сакавіка 1963 года. Караткевіч пісаў ёй з Мінска: *"Нина, милая! До сих пор не могу прийти в себя, и мне делается не по себе от воспоминаний о нашей последней встрече. Глупо как получилось, правда? Уезжал и видел в окне твоё лицо и руку. Что же это ты натворила, чёртик из табакерки? <…> Из-за дел нет даже времени на то, чтобы обосноваться на новом месте. Сижу в доме друга в своей комнате. Это самая окраина. За домом дорога, а дальше заснеженное поле. Временами льёт дождь и ест снег так, что скоро появятся проталины. В полях стада ворон. Картина не очень весёлая, но она вся полна какого-то неясного ожидания и предчувствия, как я сам [Скоро весна, и я не думал, что она будет такой, что жизнь подарит мне Москву и тебя и всё, чем только и может жить человек. Ничто ещё, как оказывается, не кончено.]".*

### «Адышло, адбалела, больш ужо не баліць…»

Але час паступова браў сваё. У 1967 годзе Караткевіч пазнаёміўся з Валянцінай Нікіцінай, з якой у 1971 годзе ўзяў шлюб.

У кожнага з герояў нашага аповеда было сваё жыццё. Няма звестак, ці бачыўся пазней Караткевіч з Раісай Ахматавай і Эліем Бялюціным. А вось нячастыя кантакты з Нінай Молевай у яго засталіся. Характэрныя чатыры надпісы пісьменніка на сваіх кнігах, падараваных колішняй выкладчыцы: *"Нине Михайловне — "Лазурь и золото дня" — от всего-всего сердца. Владимир. 30.IX.61. Москва", "Дорогой Нине Михайловне Молевой на очень долгую добрую память. В. Короткевич. 15.III.69 г.", "Милой Нине Михайловне — за Нерль. В. Короткевич. 15.III.69", "Уважаемой Нине Молевой от — просто Владимира Короткевича. 1 июня 73 г.".* "Ото всего-всего сердца" — "дорогой" і "милой" – "уважаемой". У гэтых словах — уся эвалюцыя стаўлення аўтара да адрасата. *"За лет восемь до смерти я видела его,* — згадвала Н. Молева. — *Просто разговаривали. Он, кажется, уже был женат".*

Лёс усіх чатырох герояў гэтай гісторыі склаўся па-рознаму. Уладзімір Караткевіч атрымаў шырокае чытацкае прызнанне і справядліва лічыцца класікам беларускай літаратуры. Раіса Ахматава стала самай вядомай чачэнскай пісьменніцай савецкай эпохі. Доўгі час яна ўзначальвала Саюз пісьменнікаў Чачэна-Інгушскай АССР і Вярхоўны Савет рэспублікі, атрымала званне народнай пісьменніцы. Памерла ў 1992 годзе. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што поўны архіў яе твораў, які складаў больш як 600 папак, быў знішчаны падчас Першай чачэнскай вайны.

Муж Ніны Молевай, мастак і мастацтвазнаўца Элій Бялюцін, у 1962 годзе выступіў арганізатарам знакамітай выстаўкі авангардыстаў у Манежы, якая выклікала шалёную рэакцыю Мікіты Хрушчова. 85-гадовы Бялюцін дагэтуль жыве ў Маскве. Ён — аўтар 17 манаграфій па тэорыі выяўленчага мастацтва. Творы Бялюціна знаходзяцца ў фондах 44 музеяў Расіі, Францыі, Італіі, ЗША, Канады і іншых краін, у тым ліку ў Траццякоўскай галерэі, Санкт-Пецярбургскім Дзяржаўным музеі і Цэнтры Жоржа Пампіду ў Парыжы.

Сама Ніна Міхайлаўна, якой споўнілася 82 гады, па-ранейшаму плённа працуе і выпускае даследаванні і нават раманы. Ва ўласнасці сямейнай пары знаходзіцца ўнікальная калекцыя заходнееўрапейскага мастацтва XV — XVII стагоддзяў. Між тым асобныя творы з яе Ірына Горава паказвала ў рамане Андрэю Грынкевічу.

Кожны з "чацвёркі" дасягнуў значных вышынь. Выпадкова ці не, але ніхто з іх не любіў згадваць мінулае. Кожны мог сказаць пра сябе: *"адышло, адбалела, больш ужо не баліць".* Але ніхто не трывожыў даўнія сардэчныя раны.

### «І канец. Сталі толькі маім успамінам»

Ці быў непазбежнасцю такі фінал узаемаадносін Караткевіча і Молевай? Спынюся толькі на некалькіх момантах, якія дапамогуць зразумець аўтарскую пазіцыю.

10 лютага 1960 года, падчас знаходжання Н. Молевай за мяжой, У. Караткевіч напісаў прарочы верш "Снягір": *"О радзіма, мой светач цудоўны, адзіны, / Явар мой, мой агністы снягір на сасне, / Ледзь цябе не забыў я з чужою жанчынай, / Што ў душы не хацела і ведаць мяне. / Ёй былі непатрэбныя звялыя травы, / І, ад вераса горкі, вятрыскі павеў, / І твая некрыклівая гордая слава, / І твая перамога, і мукі твае. / <…> І канец. / Сталі толькі маім успамінам: / Ласка шэрых вачэй, заінелая скронь, / Лес нахмураны, хвоя, лябяжы іней / І рука, што лягла на маю далонь. / І для ўчасця, для сонечнай вечнай кароны / Не хапіла мазка адзінага мне: / Не хапіла радзімы, іскры чырвонай, / Снегіра на заснежанай сіняй сасне"* ("Снягір"). Між тым Н. Молевай сапраўды былі не надта цікавымі караткевічаўская зямля і беларуская мова.

21 снежня 1959 года Караткевіч пісаў Гальперыну: *"Я дам ей очень большую нежность. И я должен дать ей покой и возможность безмятежно работать. Потому что она – талант, большая умница и человек великой души"* (БДАМЛМ. Ф.56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 38-39). Але ўвесь сэнс у тым, што для плёну пісьменніцкай працы менавіта будучая жонка Караткевіча павінна была даць яму спакой і магчымасць працаваць.

Вядома, што Валянціна Нікіціна вывучыла дзеля яго беларускую мову. Менавіта яна стварыла яму атмасферу духоўнага камфорту. Ці была здатная на такія ўчынкі Ніна Міхайлаўна? Хутчэй за ўсё не. Раней ці пазней для творцы такія адносіны сталі б непрымальныя і ў будучым маглі прывесці да канфліктаў.

Знайсці яшчэ адну прычыну растання нам дапаможа асэнсаванне таго, якое месца займае Ніна Молева ў творчасці Караткевіча. У інтэрв'ю, апублікаваным у "Камсамольскай праўдзе", журналістка Вольга Анціповіч называе сваю суразмоўцу (са спасылкай на сяброў пісьменніка) "ракавой жанчынай". А вось цытата з рамана "Леаніды не вернуцца да зямлі": *"Я ведаю, яна не заўсёды добрая. Змучыла мяне... Год вар'ятам хаджу, на апошніх нервах. Ведаю — часам зменлівая. Ведаю — часам гуляе са мною...".* Прыведзеная вышэй перапіска пераконвае, што такую ацэнку можна распаўсюдзіць не толькі на раманных герояў, але і на ўзаемаадносіны Н. Молевай і У. Караткевіча.

Сярод знакамітых "ракавых жанчын" можна назваць Апалінарыю Суславу, чый вобраз знайшоў адлюстраванне ў многіх творах Дастаеўскага, і Лілю Брык, якой прысвечаны шматлікія творы Маякоўскага. З герaінь сусветнай літаратуры — Настассю Філіпаўну ў "Ідыёце" Дастаеўскага, Кармэн у аднайменнай навэле Мерымэ і оперы Бізэ. Раманы ці дакументальныя творы пра пачуцці творцаў і "ракавых жанчын" чытаюцца ці глядзяцца на адным дыханні і заўсёды ўражваюць накалам пачуццяў. Але дзіўная рэч: пераважная большасць людзей, выходзячы вечарам з тэатра або закрываючы старонкі кнігі, віртаюцца не да жанчын кшталту Кармэн, а да Мікаэлы, яе антыпода па оперы, жывой і натуральнай дзяўчыны. Адносіны творцаў з "ракавымі жанчынамі" сапраўды актывізуюць іх працу, нахтняюць на новыя творы. Але здараецца, што адначасова і спустошваюць дашчэнту.

Сярод мастацтвазнаўцаў ёсць традыцыя вылучаць у біяграфіі некаторых мастакоў пэўныя перыяды, якія наўпрост звязаны з іх асабістым жыццём. Напрыклад, менавіта так многія даследчыкі ўспрымаюць творчасць Пабла Пікаса. "Маскоўскі перыяд" у жыцці і творчасці Караткевіча цалкам звязаны з Нінай Міхайлаўнай Молевай.

Няўжо яе вобраз можа быць намаляваны толькі драматычнымі і згушчана-цёмнымі фарбамі? Вядома ж, не! Менавіта яна адкрыла Уладзіміру Караткевічу ўсю бязмежнасць чароўнага свету мастацтва і ўзняла яго да ўзроўню свайго разумення гэтай з'явы. Але адначасова акрэслілася і жахлівае несупадзенне! Для Ніны Міхайлаўны мастацтва было светам і сэнсам усяго існавання. Для Караткевіча — толькі часткай багатага і разнабаковага жыцця. Таму ў пэўны момант Уладзімір Сямёнавіч як пісьменнік пераўзышоў сваю былую настаўніцу і рушыў далей. Адзін — па прасторах жыцця...

## Лім-гасцёўня



Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Пра вясну, прыгажосць, жанчын і паэзію…

**Напярэдадні аднаго з самых яркіх свят вясны — Дня жанчын — мы вырашылі задаць некалькі пытанняў пранікнёнаму лірыку, паэтэсе з актыўнай жыццёвай пазіцыяй Тамары Красновай-Гусачэнцы.**

**— Тамара Іванаўна, нават жанчыны паразнаму ставяцца да 8 Сакавіка. З аднаго боку, падарункі прымаць заўжды прыемна. З другога — свята ж штучнае! І прыдумала яго рэвалюцыянерка Клара Цэткін…**

— Мы складаемся з таго, што памятаем. Памяць — лакмусавая паперка душы. Яна прааўляе галоўнае ў чалавеку: склочніцтва ці то велікадушнасць, дробязнасць ці то шчодрасць. Скажы мне, што ты памятаеш, і я скажу табе, хто ты. А калі так, то навошта тады памятаць, што 8 Сакавіка прапанавала адзначаць ваяўнічая Клара, якая, дарэчы, і да разбурэння інстытута сям'і заклікала, бо лічыла, што гаспадарка адцягвала жанчыну ад рэвалюцыйнай барацьбы? Жанчына вартая таго, каб ёй цалкам належаў адзін дзень года (а лепш бы не адзін)! Няхай свят у жыцці будзе больш!

**— Вясна — паэтычны час. Дык паразважаем пра паэзію. Чым адрозніваецца, на ваш погляд, паэзія жаночая ад паэзіі мужчынскай? І ці можа жаночая паэзія быць цікавай мужчынам?**

— Сапраўдная паэзія — гэта малітва. Стан поўнай адкрытасці душы, яе шчырасці прыводзіць да слоў, адзіна здольных перадаць новае святло. Няма адкрыцця — няма паэзіі. Таму не мае значэння, хто аўтар. Але я так думаю. Калі б Хрыстос зноў прыйшоў на зямлю і пабачыў, што чалавецтва за два тысячагоддзі так і не дарасло да яго філасофіі, яго запаведзяў, ён бы проста заплакаў. Мала, мізэрна ўсё, што мы зрабілі і робім для духоўнага адраджэння нашага свету. А слоў напісана і надрукавана так шмат.

**— Жанчына — каханая, жонка, захавальніца хатняга ачага, маці. Да таго ж надта часта — работніца, карміцелька сям'і. Якое месца ў яе жыцці можа і мусіць займаць творчасць?**

— Усё жыццё чалавека і ёсць непарыўная творчасць. У тым ці іншым сэнсе. Творца закладзены ў кожным, але жанчына — дзіўная Божая істота — пэўна найбольш ярка рэалізуе сябе ў гэтым. Я прыгадваю сваю маці… Яна стварыла мяне і падарыла мне свет, яго прыгажосць і глыбіню. Яна ўмела ствараць мір і пакой у сям'і. У галодныя пасляваенныя гады мама настаўнічала ў вёсцы за 50 кіламетраў ад райцэнтра і пешшу хадзіла туды штодзень. Праз 30 гадоў, калі адмовілі ногі і медкамісія не прызнала яе інвалідам ("Ваша работа не патрабуе здаровых ног, можна вучыць дзяцей і седзячы"), яна не пакрыўдзілася. Стварыла вакол сябе прастору дабрыні і даравальнасці. Бацька вазіў маму ў школу і назад на інваліднай калясцы… Яе значок "Отличник просвещения" прышпілены цяпер у маім доме да яблыневай галінкі з шоўку — у дзень яе смерці, 17 мая, цвілі яблыні. Я гляджу на галінку і прыгадваю радкі з сярэднявечнага японскага верша: "*Каменем кіньце ў мяне, / Галінку квітнеючай вішні / Зараз я абламіў…*" Творчасць займае ў жыцці вечнасць.

**— Прынята лічыць, што лірыка ўзнікае на аснове любоўнай энергетыкі. Ці згодны вы з гэтым?**

— Ацэньваючы моц і здольнасці кахання, я звярнулася б да Біблії, да першага паслання Карынфянам. Я паспрабавала перанесці веліч выкладзеных там думак пра каханне на мову паэзіі. Узнік верш "Любовь не перестанет никогда". Ім будзе адкрывацца мая новая кніга, якую я спадзяюся пабачыць ужо гэтай вясной.

*"…Пусть всё пройдём,*
*пророков исполняя,*
*Исчезнут знанья,*
*сонмы языков…*
*Надежда, вера —*
*нас опять спасают,*
*Но больше всех*
*на свете сил — любовь!"*

## З усмешкай!



**Аксана СПРЫНЧАН**

Вельмі дзіўна,
што Спрынчан
Стала жабкаманкай,
Бо Аксана ж
не гурман —
Вегетарыянка.

Не даюць спакою ёй
Тыя лаўры пэўна:
Стаць бы, як у казцы той,
Жабкаю-царэўнай!



**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Як музыка лета,
як ціхі
верасень,
Сімпатыя
"ЛіМа" —
Святлана
Берасцень.



**Алена МАСЛА**

Пусціла моцна карані
Ў "БЯРОЗКАвым"
гаі Алена.
Яна за так
не дасць ані…
Хоць бы соку,
хоць — палена.



**Віка ТРЭНАС**

На фотаздымку
ў тым календары
Яна — секс-бомбачка
фігурная.
У топ-мадэлі
хоць яе бяры,
А ёй карціць,
няйначай, да пары
Мадэллю стаць…
літаратурнаю!

Эпіграмы Паўла САКОВІЧА, шаржы Аляксандра Каршакевіча.

## Творчы свет

### Літаратура+фільм= кінараман!

**У першы дзень вясны адбылася прэзентацыя новай серыі "Кінараман" беларускага выдавецтва "Рэгістр".**

На прэзентацыі былі прадстаўленыя дзве кнігі: перавыдадзены раман тэле-, радыёвядучай Тамары Лісіцкай "Ціхі цэнтр" і зборнік апавяданняў журналіста Юліі Ляшко "Анёл у цемры".

Назва серыі гаворыць сама за сябе: беларускія рэжысёры натхніліся кнігамі беларускіх аўтараў — па кнігах знятыя мастацкія стужкі. У 2006 годзе Аляксандр Яфрэмаў зняў кіно па аповесці Юліі Ляшко "Рыфмуецца з любоўю", неўзабаве на тэлеэкраны выйдзе стужка паводле рамана Тамары Лісіцкай "Ціхі цэнтр", знятая рэжысёрам Рэнатай Грыцковай.

Засыпанае пялёсткамі руж памяшканне, дзе адбывалася прэзентацыя, яскрава сведчыла аб гарманічным спалучэнні вясны, кіно і жаночай прозы. Пра жаночую літаратуру распачаў гаворку рэжысёр, народны артыст Беларусі Аляксандр Яфрэмаў: "Жаночая літаратура — тая, у якой дзіўным чынам спалучаюцца адчуванне болю і пяшчоты, разуменне, як трэба незвычайна жыць, і багатая пачуццёвасць".

На прэзентацыі прысутнічалі і тыя, чые жыццёвыя гісторыі натхнілі аўтараў прэзентуемых кніг на іх напісанне. Прататыпам гераіні апавядання Юліі Ляшко "Анёл у цемры" стала вядомая беларуская тэлевядучая Святлана Бароўская.

Пасля выступаў усімі ўдзельнікамі прэзентацыі была падпісаная талерка і — разбітая. На шчасце. Будзем спадзявацца, што раман сучаснай беларускай літаратуры з кінематографам будзе працягвацца.

**Ася ПАПЛАЎСКАЯ**

## Афарызм

*Найлепшы з усіх пацалункаў той, якім нас цалуе Муза.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

Лім

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Святлана Берасцень
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікола Станкевіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Адрас рэдакцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Наклад — 3113

Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 17.02.2011 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7

Заказ — 1027

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686